Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№4 (4650) 27 студзеня 2012 г.

## Калонка рэдактара



## Пісьменнік і жыццё

Таццяна СІВЕЦ

Узгадваючы днямі біяграфію Максіма Танка, доўга не магла зразумець, што ж падалося такім дзіўным, стрэмкай засела ў падсвядомасці... Пасля ўцяміла: пісьменнік амаль дзесяць гадоў (1963 — 1971) быў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР VI — VII скліканняў. А паспрабуйце, сябры, назваць сучасных творцаў, якім вы даверылі б узначаліць Савет Рэспублікі. Адно прозвішча? Два-тры?.. Ці сучасны пісьменнік не здольны кіраваць нічым, акрамя ўласных герояў? А можа, варта спачатку разабрацца з уласна літаратурнымі справамі?

Вось на апошнім пасяджэнні Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі ішла гаворка пра планы на 2012 год, у тым ліку ўдзел у святкаваннях юбілеяў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка. Беларускія творцы рыхтуюцца да ўгодкаў Полацка і да Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу... Запланаваныя літаратурныя чытанні, конкурсы, "круглыя сталы", сустрэчы, удзел у радыё- і тэлепраектах, выезды ў рэгіёны, сумесныя акцыі з міністэрствамі, выдавецтвамі і бібліятэкамі... Карацей, шмат усяго, а як яно адбудзецца і якую карысць зробіць для прапаганды айчыннага мастацкага слова, пакажа Год кнігі.

Ці адказвае пісьменнік за жыццё свайго народа так, як гэта было хаця б у часы Танка? Яўген Іванавіч імкнуўся дапамагчы ўсім: каго не даў адлічыць, каму дапамог з жыллём… Мы сёння можам гаварыць пра яго не толькі як пра творцу, а як чалавека з актыўнай грамадскай пазіцыяй, што не баяўся быць "няўгодным" ці нязгодным… Ён да апошняга не здрадзіў сваім пераканачням. Мажліва, менавіта таму яму давяралі кіравaць і Саюзам пісьменнікаў, і Вярхоўным Саветам, бо былі ўпэўненыя —Танк не схібіць, сведчаннем таму яго радкі:

*Ты яшчэ толькі намёк на чалавека,*
*Калі ва ўсім спадзяешся на маці;*

*Ты яшчэ — чвэрць чалавека,*
*Калі ва ўсім спадзяешся на дружбу;*

*Ты толькі — паўчалавека,*
*Калі ва ўсім спадзяешся на любоў, —*

*І толькі тады становішся чалавекам,*
*Калі ўсё могуць спадзявацца*

*На цябе.*

А на каго спадзеецеся вы?

**Штогод у апошнюю нядзелю студзеня адзначаецца Дзень беларускай навукі. Як вядома, няма навукі для навукі, яна існуе для ўзвышэння чалавека, яго высакародства, інтэлектуальнага і матэрыяльнага ўзбагачэння. Нездарма ж кажуць: дзе высока стаіць навука, там высока стаіць чалавек. Жыццём даказана, што поспех навукі вызначаецца працамі яе вучоных і каштоўнасцю іх адкрыццяў, якіх нямала на рахунку беларускіх акадэмікаў, дактароў і кандыдатаў. У тым ліку і тых, хто шчыруе ў гуманітарных ВНУ, навукова-даследчых інстытутах. Многія з іх з'яўляюцца актыўнымі аўтарамі "ЛіМа", і мы шчыра ўдзячны ім за цікавыя і грунтоўныя матэрыялы. Сёлета Дзень беларускай навукі адзначаецца разам з юбілеем Інстытута беларускай культуры. Яму — 90! Пра гісторыю яго стварэння і ролю ў нацыянальна-культурным адраджэнні Беларусі распавядаецца ў гэтым артыкуле.**

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ 9

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**

# Інстытут нацыянальнага адраджэння

Заснаваны ў канцы студзеня 1922 года ў Мінску на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі Народнага камісарыята асветы БССР Інстытут беларускай культуры набыў дастаткова багаты вопыт работы яшчэ да таго, як у ліпені 1924 года другая сесія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта афіцыйна абвясціла пра пераход да палітыкі беларусізацыі, прыняўшы пастанову "Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі". Наўрад ці можна было знайсці хоць адно з тых мерапрыемстваў, да распрацоўкі тэарэтычных асноў якога не падключалі б калектыў Інбелкульта. Яго найпершая заслуга ў правільным разуменні ключавой ролі нацыянальнага фактару ў жыцці рэспублікі. А ён, як вядома, зусім не браўся пад увагу ўладамі і залежнай ад іх творчай інтэлігенцыяй да той пары, пакуль наша краіна не стала самастойнай дзяржавай пад абрэвіятурай БССР.

З першых дзён стварэння ІБК яго супрацоўнікі актыўна заняліся ліквідацыяй цяжкіх наступстваў царскай русіфікатарскай палітыкі з тым, каб стварыць належныя ўмовы для развіцця нацыянальных культур. Зразумела, галоўная ўвага надавалася тытульнаму народу, бо менавіта яго культура павінна была стварыць этнічна культурнае аблічча маладой савецкай рэспублікі. Над гэтым у першую чаргу актыўна працавалі секцыі і камісіі па складанні слоўніка жывой беларускай мовы, дыялекталагічная, бібліяграфічная, літаратурна-мастацкая, культурна-гістарычная, а трохі пазней — этнаграфіі і геаграфіі, мастацтва, права, педагогікі. Прычым і старшынямі інстытута былі навукоўцы-гуманітарыі: спачатку мовазнавец Сцяпан Некрашэвіч, затым — са студзеня 1926 па снежань 1928 г. (з лістапада 1927 г. гэтая пасада ўжо насіла назву "прэзідэнт") — гісторык Усевалад Ігнатоўскі, аўтар кніг "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі", "Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі", "Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецця". Ролю гэтых выбітных асоб у распрацоўцы асноўных палажэнняў, у практычным ажыццяўленні дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі ніяк нельга пераацаніць.

Заканамернай з'явай фарміравання структурных падраздзяленняў Інбелкульта трэба прызнаць наяўнасць сярод іх этнаграфічнай секцыі. Польскія і расійскія даследчыкі свядома ўнеслі багата блытаніны ў этнічную гісторыю беларусаў, таму нават многія навукоўцы як след не ведалі, што ўяўляе сабой карэннае насельніцтва рэспублікі. У час, калі беларусы атрымалі палітычную незалежнасць, хоць і сімвалічную, у складзе СССР, жыць далей у такім няведанні свайго этнічнага "Я" было нельга. Гэта вельмі добра разумела кіраўніцтва Інбелкульта. Яго этнаграфічную секцыю ўзначаліў ужо вядомы на той час навуковец Вацлаў Ластоўскі — аўтар "Кароткай гісторыі Беларусі" (1910), "Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка" (1924), "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" (1926) і іншых. Секцыя шмат што выйграла ад прыходу сюды на сталую працу з багатым тэарэтычным і практычным багажом этнографа, фалькларыста, краязнаўца Паўла Дземідовіча. Ён даследаваў айчынны сямейны побыт, народныя вераванні, фальклор. У адпаведнасці з гадавым колам земляробчага календара падрабязна апісаў шматлікія абрады і звычаі.



На вялікае шчасце, такіх людзей, як П. Дземідовіч, было нямала сярод краязнаўцаў. Неаспрэчная заслуга ў гэтым актыўнага нацыянальнага дзеяча М. Бялугі, які ўзначальваў створанае ў канцы 1923 года Цэнтральнае бюро краязнаўства. Шмат карыснага для яго плённай працы зрабілі першы рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзімір Пічэта, пісьменнік Кандрат Крапіва. Змітраку Бядулю даверылі быць рэдактарам краязнаўчага часопіса "Наш край", першы нумар якога выйшаў у кастрычніку 1925 года.

Вядомыя дзеячы ІБК лічылі сваім прамым абавязкам усімі метадамі і сродкамі пераконваць людзей, як важна не адрывацца ад родных каранёў, жыць паводле ўласных, а не занесеных звонку культурнамоўных традыцый. Змешчаныя найперш у перыядычным друку, матэрыялы па дадзенай праблеме былі вельмі патрэбны і для партыйных, савецкіх работнікаў, прычым нават самага высокага звяна, бо мала хто з іх глыбока разбіраўся ва ўсіх тонкасцях нацыянальнага жыцця беларусаў. Да таго ж сярод палітыкаў яшчэ хапала і моцна зрусіфікаваных асоб, для якіх сама ідэя беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння была непатрэбнай, лішняй. Але і ў той няпростай сітуацыі да яе ўсё больш гарнулася высокае кіраўніцтва рэспублікі. Творчая, навуковая, педагагічная інтэлігенцыя займалася беларусізацыяй самачынна, паводле ўласнай волі і жадання.

У самым пазітыўным плане Інбелкульт мог уплываць на ход беларусізацыі толькі пры ўмове ўкамплектавання высокаадукаванымі кіраўнічымі кадрамі, з багатым прафесійным досведам, адданымі нацыянальнаму інтарэсу. Добра разумеючы гэта, у студзені 1926 года кіраўніцтва БССР пайшло на замену старшыні ІБК Сцяпана Некрашэвіча Усеваладам Ігнатоўскім, які да гэтага займаў пасаду народнага камісара асветы БССР і паспеў паказаць сябе сур'ёзным гісторыкам-даследчыкам. Высокім патрабаванням адпавядаў і намеснік старшыні ІБК Аркадзь Смоліч. Да гэтага ён працаваў прафесарам, загадчыкам кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Калектыў ІБК абавязаны яму стварэннем друкарні, што істотна зменшыла праблему выдання напісаных навукоўцамі кніг і артыкулаў, большасць якіх прысвячалася пытанням беларусізацыі.

***На здымках: Аркадзь Астаповіч. Экслібрыс Інбелкульта. Эскіз; першы прэзідэнт Інбелкульта Усевалад Ігнатоўскі.***

***Фотаздымкі прадастаўлены Нацыянальным гістарычным музеем Рэспублікі Беларусь.***

(Заканчэнне на стар. 6).

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Міхаіла Ножкіна і народных артыстаў Расійскай Федэрацыі Тамару Гвердцытэлі, Ірыну Алеграву, Уладзіміра Хаціненку з юбілеямі. Кіраўнік дзяржавы пажадаў творцам, якіх добра ведаюць і любяць у Беларусі, здароўя, творчых поспехаў, натхнення, шчасця і дабрабыту.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні родным і блізкім народнага артыста РСФСР Яўгена Жарыкава ў сувязі з яго смерцю. "Яго сыход стаў незаменнай стратай для ўсіх беларускіх прыхільнікаў сапраўднага мастацтва", — адзначана ў спачуванні.

✔ У Мінгарвыканкаме абмяркоўваецца неабходнасць стварэння ў Мінску помнікаў гістарычным асобам і падзеям. Сярод іх — помнікі патрыярху Алексію ІІ, князю Глебу Мінскаму, першаму сакратару ЦК КПБ Пятру Машэраву, мемарыяльныя знакі, прысвечаныя памяці ахвяр тэрактаў, і "Аб'яднанне зямель Беларусі", а таксама мемарыяльная кампазіцыя "1000 год беларускай дзяржаўнасці" з постацямі шэрагу выдатных гістарычных дзеячаў Беларусі. Некаторыя з іх упрыгожаць беларускую сталіцу ўжо ў гэтым годзе.

✔ Вуліца Еўфрасінні Полацкай з'явіцца ў Віцебску. Віцебскі гарвыканкам разглядае пытанне пра тое, каб у год святкавання 1150-годдзя Полацка перайменаваць адну з вуліц абласнога цэнтра ў гонар асветніцы, адной з самых вялікіх жанчын сярэднявечнай Еўропы.

✔ Цэнтр беларускай літаратуры плануецца адкрыць у сакавіку на базе Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Ён таксама будзе насіць імя Максіма Танка, што сімвалічна, бо сёлета адзначаецца 100-годдзе класіка. У цэнтры будуць прадстаўлены матэрыялы пра жыццё і творчасць Танка і іншых пісьменнікаў, якія сваёй дзейнасцю паўплывалі на станаўленне беларускай літаратуры.

✔ Другі міжнародны фестываль "Уладзімір Співаког запрашае" пройдзе ў Беларусі 20 — 28 красавіка. У ім возьмуць удзел больш як 180 музыкантаў. Для свята будуць скарыстаны розныя сцэнічныя пляцоўкі ў Мінску, Магілёве, Гомелі і іншых гарадах. Адкрыецца фестываль оперным гала-канцэртам у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета.

✔ Беларуская Асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА арганізуе міжнародны валанцёрскі лагер на тэрыторыі сядзібы Міхала Клеафаса Агінскага ў вёсцы Залессе Смаргонскага раёна. Валанцёры з Беларусі, краін СНД і Заходняй Еўропы возьмуць удзел у рэстаўрацыі сядзібы. Плануецца арганізацыя такога ж валанцёрскага лагера на тэрыторыі Палаца Сапегаў у Ружанах.

✔ У Мінску будуць адкрытыя пяць лічбавых кіназалаў. Самыя вялікія з іх атрымаюць кінатэатры "Кастрычнік" і "Беларусь". Больш кампактныя будуць абсталяваны ў кінатэатрах "Аўрора" і "Мір", а таксама ў Доме кіно.

✔ Першы беларускі фестываль аматарскага цыркавога мастацтва пройдзе сёлета ў Гомелі. Фінансавую і арганізацыйную падтрымку фестывалю здзяйсняюць Міністэрства культуры Беларусі, упраўленне культуры Гомельскага аблвыканкама, Гомельскі дзяржаўны цырк.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Пачуццё сяброўства

**Юбілейнай вечарынай вядомых беларускіх пісьменнікаў Георгія Марчука, Яўгена Каршукова і Алеся Савіцкага ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры Саюз пісьменнікаў Беларусі распачаў цыкл мерапрыемстваў, звязаных з абвяшчэннем 2012 года ў Беларусі Годам кнігі.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Наталіі Купрэвіч

— Нездарма наш Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка адзначыў: "Кніга — гэта ікона", — нагадаў прысутным самы старэйшы і паважаны з гаспадароў свята, празаік-франтавік Алесь Ануфрыевіч Савіцкі. — Ікона ствараецца не толькі рукамі, але і сэрцам. Калі ў храме не будзе святыні, ён перастане існаваць. І з гэтага пункту гледжання варта ўзгадаць яшчэ адно выказванне Прэзідэнта: "Згубім кнігу — згубім нацыю". Між іншым, страта іміджу кнігі — гэта бяда глабальнага маштабу. Грамадства аказалася перад прорвай бездухоўнасці, усёдазволенасці, бесчалавечнасці.

І гэтаксама як Словам, паводле Бібліі, быў створаны Сусвет, сёння Словам — сумленным, чыстым, важкім Словам пісьменніка, да якога прыслухоўцца мільёны, — можна ўратаваць нацыю, краіну, народ...

Пра такіх пісьменнікаў, словы якіх абуджала і заклікала, гучала набатам і страснай любоўю да чалавецтва, гаварыў кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Доблесць" Яўген Каршукоў. Гэта былі людзі пакалення пераможцаў Вялікай Айчыннай, сапраўдныя патрыёты і грамадзяне: Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Аркадзь Куляшоў. Да іх належыць і Алесь Савіцкі, творы якога варта выдаваць і перавыдаваць, каб знаёміць з праўдай жыцця новыя пакаленні.



На вечарыне, дарэчы, была прадстаўлена новая кніга выдавецтва "Чатыры чвэрці" — "Сонца на ўсіх адно", якая прадстаўляе пісьменніка Савіцкага і яго творы ў кантэксце эпохі. Гучалі новыя вершы Яўгена Каршукова ў выкананні аўтара. А Георгій Марчук пачаў сваю прамову цудоўнымі словамі, звернутымі да таварышаў.

— Найвялікшае ўменне, — сказаў ён, — шчыра радавацца за сяброў, іх поспехі і дасягненні. Бо пачуццё Радзімы — гэта і ёсць пачуццё сяброўства.

І сапраўды, калі штосьці і можа ўмацаваць шэрагі творцаў неперможнага пісьменніцкага Слова сёння, дык гэта адмаўленне ад нядобразычлівасці і зайздрасці і ўмацаванне пісьменніцкага братэрства.

Вечарына, якая распачалася сур'ёзнымі прамовамі і філасофскімі разважаннямі, у другой сваёй частцыператварылася ў канцэрт-віншаванне, дзе было месца і вясёлай прыпеўцы ў выкананні супрацоўніц Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту на чале з вядомым балетмайстрам, знаўцам і рупліўцам беларускага народнага танца Міколам Котавым (дарэчы, таксама юбілярам), і музычнаму жарту Сяргея Трахімёнка, і добрай песні ў выкананні барда Дзмітрыя Пятровіча.

***На здымку: Георгій Марчук і Мікола Котаў прымаюць віншаванні ад першага сакратара СПБ Генадзя Пашкова.***

## Прынятыя ў СПБ



**ГАЛУБОВІЧ Іван Іванавіч**
*Празаік*

Нарадзіўся 26 мая 1942 года ў в. Пранчэйкава Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Аўтар 14 кніг прозы для дзяцей і дарослых: "Па родных сцяжынках" (1991), "Гром на світанні" (1992), "Пастарайся стаць чалавекам" (1993), "Зязюля дзетак шукала" (1994), "Гронка каліны" (серыя "ШБ", 1997), "Пяюць жаваранкі" (2005) і іншых. З'яўляецца аўтарам 26 зборнікаў і школьных хрэстаматый: "Я тут бачу свой край" (2005), "Вясёлка" (2007), "Зборнік апавяданняў для пазакласнага чытання" (2011) і г.д.



**РАДЗІОНЧЫК Дзмітрый Мікалаевіч**
*Паэт*

Нарадзіўся 5 ліпеня 1973 года ў г. Гродна. Вучыцца на завочным аддзяленні філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Аўтар паэтычных зборнікаў "Пиррова техника" (2006) і "Дым без огня" (2010). Таксама з'яўляецца аўтарам калектыўных зборнікаў "Созвучье слов живых" (2007), "Россыпь" (2010).



**СЕЎБО Ганна Канстанцінаўна**
*Празаік*

Нарадзілася 8 мая 1952 года ў г. Бабруйску Магілёўскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працавала ў перыядычных выданнях Бабруйскага раёна. Піша для дзяцей. Публікацыі з'яўляліся ў газеце "Зорька", часопісе "Бярозка" і іншых выданнях. Аўтар пяці кніжак казак: "Волшебная шкатулка" (2004), "Сказочная мельница" (2006), "Зимние сказки" (2008), "Сказки старой калитки" (2007), "Гриб в муравейнике" (2009).

## Конкурс

# Рыхтуем рукапісы

Ірына СЛАНІМСКАЯ

**У Гродзенскай вобласці сёлета стартуе новы літаратурны конкурс. Пачынанне патрабуе ўвагі хаця б таму, што гэта конкурс не кніг — гатовых, выдадзеных, прадстаўленых чытачу, — а рукапісаў. Падрабязней пра ініцыятыву мы папрасілі расказаць галоўнага спецыяліста ўпраўлення ідэалагічнай работы Гродзенскага аблвыканкама Іосіфа Грыбоўскага.**

**— Іосіф Браніслававіч, хто быў аўтарам ідэі?**

— Прапанова паступіла ад нашых пісьменнікаў, членаў Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Палажэнне было падпісана 14 красавіка 2011 года. Конкурсу нададзена імя Цёткі (Алаізы Пашкевіч), нашай славутай землячкі, 130-годдзе якой адзначалася ў мінулым годзе. Чаму конкурс рукапісаў? Аўтарам у наш час даволі нялёгка выдаць кнігу, нават калі гэта высокамастацкі цікавы твор. Конкурс дасць магчымасць пераможцам ператварыць свае рукапісы ў кнігі, бо прэміі — іх будзе тры, па намінацыях "Паэзія", "Проза", "Дзіцячая літаратура" — даволі вялікія, 430 базавых велічынь.

**— Якія ўмовы конкурсу?**

— Ён будзе праводзіцца раз на два гады. Браць удзел могуць як члены Саюза пісьменнікаў, так і тыя літаратары Гродзеншчыны, якія не ўваходзяць у творчую арганізацыю. Гэта, між іншым, дае нам права спадзявацца, што конкурс стымулюе да творчасці таленавітую моладзь і мы адкрыем новыя яркія зоркі на літаратурным небасхіле.

**— Ці агавораецца аб'ём рукапісаў?**

— Рукапіс можа быць любога аб'ёму. Але, безумоўна, такога, каб пры выданні тэксту хапіла на паўнавартасную кнігу. Здаць на разгляд свае рукапісы аўтары мусяць да 25 снежня гэтага года. Пераможцы будуць названы ў сакавіку 2013 года падчас святкавання Сусветнага дня паэзіі. Творы ацэніць экспертная літаратурная камісія, створаная пры Гродзенскім абласным аддзяленні СПБ. У яе ўваходзяць толькі прафесіяналы.

## Вечарыны

# У блаславёным доме Яе Вялікасці Паэзіі

Вольга ПАЛОМЦАВА,
фота Кастуся Дробава

Калі Максім Лужанін спытаў у Коласа, як той ставіцца да жанчыны, паэт адказаў: "Як хрысціянін да іконы". Не выключана, што дзякуючы такім адносінам класіка супрацоўніцы часопіса "Женский журнал" вырашылі правесці літаратурна-музычную прэзентацыю свайго выдання менавіта ў сценах Коласавага дома. Гэтым мерапрыемствам супрацоўнікі музея пачалі юбілейны год Коласа.

Традыцыйна гучала шмат вершаў — у першую чаргу Якуба Коласа: прысвячэнні жонцы паэта чытаў Міхась Міцкевіч, урыўкі з вядомых твораў цытавалі шэф-рэдактар "ЖЖ" Юлія Дарафеева, доктар Эдуард Лінкевіч. Пранікнёна чыталі свае радкі паэты Навум Гальпяровіч і Таццяна Сівец. Спявалі бард Алесь Камоцкі і народная артыстка Беларусі Таццяна Мархель. Слова атрымала і самая актыўная чытачка часопіса Таццяна Лабанава. Расказалі, як глянцавы часопіс прапанаваў свае старонкі для беларускамоўных матэрыялаў, яго заснавальніца Тамара Іода і былы намеснік галоўнага рэдактара, цяпер — галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Святлана Дзянісава.



Імпрэза прайшла ў рамках праекта "Творчыя сустрэчы з рэдакцыямі перыядычных выданняў творчай і навуковай інтэлігенцыі рэспублікі".

***На здымку: Міхась Міцкевіч чытае вершы Якуба Коласа.***

Літабсягі

# «Іду за хлебам і за небам»

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Кастуся Дробава

**Творчы вечар паэтэсы Алы Чорнай, прысвечаны яе юбілею, прайшоў у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна.**

Выразныя радкі вершаў Алы Чорнай добра вядомы аматарам паэзіі па нізках са зборнікаў "Дзень паэзіі", кнігах "Изнанка серебристая листа", "Зеркало" і інш. Як казаў некалі Барыс Слуцкі, "паэт павінен мець лёс". Ёй выпаў шлях, поўны няпростых выпрабаванняў. У вершы "Замест аўтабіяграфіі" Ала Дзмітрыеўна пранікнёна расказала пра свае татарскія карані, дзяцінства ў блакадным Ленінградзе, жыццё ў Беларусі. Менавіта тут былі пачуты яе "нягучныя" вершы. "Ніколі не рашылася б дабівацца выдання сама, — прызналася Ала Чорная, — але калі Анатоль Аўруцін прапанаваў выбраць вершы для кнігі, згадзілася".

Пранікнёныя радкі гучалі ў выкананні паэтэсы, а таксама акцёраў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Уладзіміра Рагаўцова і Тамары Апіёк-Мікалаевай, у перакладзе на беларускую мову Міколы Шабовіча. Вольга Міхаленка праспявала пад гітару дзве песні на вершы Алы Чорнай. Выдатным суправаджэннем паэтычнага слова была класічная музыка. І сугучна вершам, "якія трэба чытаць павольна і спакойна", бо спасціжэнне простых ісцін патрабуе напружанай работы душы, прагучала па-французску кампазіцыя "Ідзе снег" у выкананні Ніны Бранковіч, салісткі квартэта "Акалада".

Спалучэнне высокай духоўнасці і драматычнага напалу ўласціва кожнаму твору Алы Чорнай: піша яна пра сустрэчу з вершамі ахкалагічна хворых дзяцей, вандроўку па лясных сцежках з былым ветэранам, пра скрыпача — "аркестра аголены нерв, пластычна завершаны цуд". Яе вершы вучаць бачыць хараство ўсходу сонца і чуць галасы старога дома, пранікацца ўрачыстасцю свята Нараджэння Хрыстова, даравацьі разумець, адчуваць дакрананне анёла-ахоўніка ў магчымасці стварэць.

Высокую ацэнку творчасці Алы Чорнай далі Юрый Сапажкоў, Таццяна Шпартава, Алена Папова, Лізавета Палеес, Алена Міхаленка. Шмат гадоў Ала Дзмітрыеўна супрацоўнічае з літаб'ядкаваннем духоўна-асветніцкай газеты "Воскресение". І, як прызналася галоўны рэдактар гэтага выдання А. Міхаленка, пасля ўзроўню, зададзенага Алай Чорнай і Мікалаем Шыпілавым, на старонках газеты немагчыма з'яўленне пасрэдных вершаў.



Анатоль Аўруцін уручыў Але Чорнай дзве ўзнагароды: дыплом Мінскай гарадской арганізацыі СПБ і дыплом Санкт-Пецярбургскага гарадскога саюза пісьменнікаў за творы апошніх гадоў і ўмацаванне сувязей паміж літаратарамі нашых краін.

*На здымку: паэтэса Ала Чорная падчас вечарыны.*

Артлінія

# Бізнес з душою чайкі

**Прэм'ера спектакля "Чайка з імем Джонатан Лівінгстан", пастаўленага паводле прыпавесці Рычарда Баха "Джонатан Лівінгстан Чайка" ("Jonathan Livingston Seagull"), адбудзецца сёння ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Унікальны творчы праект здзейснены студэнтамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў пры падтрымцы прадстаўнікоў айчыннага бізнесу ў межах Нацыянальнага конкурсу "Брэнд года".**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва

Пра ўнікальнасць і знакавасць новага арт-праекта як для творчай ВНУ, так і для айчыннай бізнес-супольнасці гаварылася падчас прэс-анонса, што адбыўся напярэдадні падзеі. Жана Грынюк, дырэктар Цэнтра сістэмных бізнес-тэхналогій "SATIO", старшыня аргкамітэта конкурсу "Брэнд года", прыгадала, як летась на ўрачыстасці яна прадставіла калегам маналог са знакамітага твора Р. Баха. Ініцыятыва мела вялікі поспех: бізнес-супольнасць ідэнтыфікавала сябе з вольналюбівым героем, бо ў душы кожнага бізнесмена жыве неўтаймоўны Джонатан-чайка, які не спыняецца на дасягнутым, імкнецца да новых вышынь. Было вырашана ў якасці новага прадзюсарскага праекта для конкурсу "Брэнд года"-2011 прапанаваць пастаноўку спектакля паводле "Чайкі...", прысвяціўшы яе адмысловым маркетынгу і брэндынгу як унікальнаму феномену, што змяняе свет, развівае каштоўнасці свабоды, прафесіяналізму, творчасці. Гэта якасна новыя стасункі: мецэнат не "ўвогуле дае грошы" людзям мастацтва, а выступае ў якасці зацікаўленага, можна сказаць — творчага партнёра.

Прапанову, з якой Цэнтр "SATIO" звярнуўся ў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, падтрымаў рэктар М. Баразна. Кафедра рэжысуры правяла сярод студэнтаў 2 — 3 курсаў конкурс на лепшую рэжысёрскую распрацоўку прыпавесці Р. Баха. Лепшай была прызнана работа трэцякурсніцы Святланы Хацько (спецыялізацыя "рэжысура драматычнага тэатра", мастацкі кіраўнік курса Р. Баравік). У пастановачны працэс улучыліся студэнты розных курсаў: будучыя тэлеаператары Аляксей Акуловіч, Вадзім Кулак, гукарэжысёр Кацярына Даўлатава ды акцёр Арцём Курань — выканаўца галоўнай ролі.

На думку загадчыка кафедры рэжысуры БДАМ Вітаўтаса Грыгалюнаса, ажыццяўленне гэтага праекта не толькі мае велізарнае значэнне для падрыхтоўкі будучых творцаў, але і само па сабе ўнікальнае. Практычна ўпершыню прадстаўнікі бізнесу прапанавалі сваю дапамогу творчай ВНУ ў стварэнні "прадукту" мастацтва. Гэта асабліва важна ў святле рашэнняў, прынятых у выніку сустрэчы Прэзідэнта Беларусі з творчай моладдзю, што адбылася 1 снежня 2011 года.

Мяркуецца, што спектакль, прэм'ера якога адбудзецца сёння, стане дыпломнай работай студэнтаў тэатральнага факультэта і пасля завяршэння капітальнага рамонту вучэбнага тэатра БДАМ увойдзе ў яго рэпертуар.



*На здымку: рэжысёр-сцэнарыст пастаноўкі Святлана Хацько і выканаўца галоўнай ролі Арцём Курань.*

Повязі

# Кітайскія мастакі ў Мінску

Дар'я ШОЦІК, фота аўтара

**У Палацы мастацтва адбылося адкрыццё выстаўкі, прысвечанай 20-годдзю дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Міністэрства культуры Беларусі, Беларускі саюз мастакоў, Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Рэспубліканская мастацкая галерэя.**

У склад дэлегацыі КНР увайшлі дырэктар Цэнтральнага інстытута каліграфіі і жывапісу Музея па вывучэнні культуры і гісторыі КНР Ма Чжэньшэн, намеснік дырэктара Музея па вывучэнні культуры і гісторыі КНР Ван Цзюньшань, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Гун Цзяньвэй, які не так даўно ўзначаліў кітайскую дыпламатычную місію ў Беларусі, ды іншыя.

З беларускага боку гасцей з Кітая віталі намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна, старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч, намеснік старшыні БСМ па выставачнай дзейнасці Сяргей Цімохаў і першы намеснік старшыні БСМ Рыгор Сітніца.

— Культурныя сувязі паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай развіваюцца вельмі дынамічна, сістэмна, — зазначыў Тадэуш Стружэцкі. — І мы маем магчымасць кожны год прымаць у Беларусі вядомыя і цікавыя творчыя калектывы, выстаўкі і адначасова прэзентаваць нашу культуру, наша нацыянальнае мастацтва ў Кітаі.

На выстаўцы прадстаўлены жывапіс. І найбольшую цікавасць у наведвальнікаў выклікалі, несумненна, карціны кітайскай каліграфіі, каля якіх людзі затрымліваліся, імкнуліся разгадаць гармонію надпісаў. Знакамітая кітайская паэтэса і каліграф Ханду Сюко заўважыла: "Выяўляючы сябе, кветка паказвае сваю непаўторную духмянасць. Каліграфія — гэта кветка душы чалавека". І гэта бадай што самае трапнае выслоўе, якім можна ахарактарызаваць прадстаўленыя працы.

Пасля ўрачыстай часткі госці правялі майстар-клас. Некалькі хвілін — і кітайскія іерогліфы напісаны. Па просьбе гасцей адзін з кітайскіх мастакоў напісаў беларускі пейзаж — дрэва, якое ўразіла яго падчас экскурсіі ў музейны комплекс "Дудуткі". Апладысменты яшчэ доўга гучалі ў гонар кітайскіх творцаў.



*На здымку: беларускі пейзаж з-пад пэндзля кітайскага мастака.*

З-пад пяра

Новую форму работы з чытачамі прапануе РВУ "Літаратура і Мастацтва" сумесна з "Белсаюздрукам" у краме № 13 на плошчы Перамогі. Кожны чацвер у 17 гадзін тут можна сустрэцца з беларускімі літаратарамі. Яны не толькі адкажуць на пытанні пра ўласную творчасць, але і параяць нешта з сучасных твораў — у залежнасці ад таго, для каго набываецца кніга і якія літаратурныя прыхільнасці ў чытача. Той, хто набудзе кнігу аўтара, на сустрэчу з якім трапіў, атрымае ў падарунак аўтограф. Сачыце за аб'явамі ў нашай газеце, на дзвярах крамы і не прапусціце магчымасці сустрэцца з тымі, хто стварае сучасную літаратуру.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

У Літаратурным музеі Янкі Купалы адбыўся фінальны вечар Фэсту аднаго верша на зімовую святочную тэматыку. Члены журы, у склад якога ўваходзілі вядомыя літаратары В. Шніп, Ю. Сапажкоў, Н. Капа, П. Васючэнка, Л. Рублеўская, Д. Строцаў, В. Базылёва-Клімко, А. Хадановіч, А. Васілеўскі (Расія) і музыкі А. Камоцкі і Д. Пукст, працавалі аўтаномна, выносячы індывідуальныя рашэнні. Імі з 95 конкурсных работ былі адабраны 39 тэкстаў беларускіх, расійскіх, украінскіх і ізраільскіх аўтараў. На вечарыне, якую дасціпна і весела правялі арганізатар фэсту Георгій Барташ і сувядучыя-"сняжынкі" Віка Трэнас, Марыйка Мартысевіч і Кацярына Зыкава, была ўзнагароджана абсалютная пераможца — Вольга Гронская. За яе верш аддалі галасы пяць членаў журы.

**Рыгор БУТРЫМ**

Цэнтр тэатральных ініцыятыў пры падтрымцы Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм", Цэнтра беларускай драматургіі і рэжысуры і пасольства ЗША ў Мінску дае старт праекту "Кінашкола". У межах праекта маладыя рэжысёры, сцэнарысты і кінааматары Беларусі маюць магчымасць прайсці бясплатнае трохмесячнае навучанне ў вядучых майстроў расійскага і беларускага кіно — Аляксандра Сакурава, Ягора Канчалоўскага, Паўла Фінна, Марыны Разбежкінай, Андрэя Кудзіненкі, наведаць майстар-класы па сцэнарным майстэрстве, рэжысуры, гісторыі кіно і прадзюсіраванні. Удзельнікі праекта могуць разлічваць на індывідуальную падтрымку педагогаў у распрацоўцы ўласнага кароткаметражнага фільма. Фільм паводле лепшага сцэнарыя (хранаметраж да 13 мінут) будзе зняты на тэхнічнай базе школы. Заяўкі на ўдзел прымаюцца да 30 студзеня 2012 года.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

Супрацоўнікамі Прэзідэнцкай бібліятэкі Беларусі падрыхтавана выстаўка кніг "910 гадоў з дня нараджэння Еўфрасінні Полацкай — полацкай князёўны, асветніцы, беларускай святой". Кнігі, напісаныя ў мінулых стагоддзях, і выданні, складзеныя і падрыхтаваныя нашымі сучаснікамі, сціплыя брашуркі і раскошныя ілюстраваныя фаліянты, літаратура даведачная, навукова-папулярная і мастацкая, царкоўная і свецкая ва ўсёй сваёй разнастайнасці будуць прадстаўлены зацікаўленаму чытачу да 23 лютага.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з выпадку раптоўнай смерці 24 студзеня пісьменніка, рэжысёра і акцёра МАКАРЦОВА Мікалая Фёдаравіча і выказваюць шчырыя спачуванні яго блізкім і родным.

Соф'я МАРОЗАВА

# Даравацъ памяці

**Назвы большасці твораў гэтай аўтаркі падобныя да дзэнскіх каанаў, над імі можна медытаваць: "Імя ценю — святло" (2003), "Змяя, пакрытая пёрамі птушкі Сонца" (2004), "Каменданцкі час для ластавак" (2004), "Менада і яе сатыры" (2008)... Таму і самі гісторыі Алены Брава разгортваюцца як складаныя метафары, вобразныя светы. Сярод іх вылучаецца аповесць "Дараванне". Хаця б паводле назвы. Экзістэнцыяльная прастата, закладзеная ў ёй, абяцае немудрагелісты змест, ісціну, старую як свет. А між тым у новай аповесці пісьменніца не адступае ад метафарычнага стылю. Толькі гэтым разам, каб адчуць смак скразнога вобраза, чытачу давядзецца паглыбіцца ў аповед.**

Перад намі аналітычная проза з моцным лірычным струменем, якой магла б ганарыцца любая заходнеўрапейская літаратура. Уласна, Захад і спарадзіў аналітычную, "даследчыцкую" плынь у рэалістычным рамане (Б. Канстант, А. Бальзак, А. Стэндаль, Г. Флабэр, М. Пруст...). Варта сказаць, даследуе Алена Брава не сацыяльныя рухі ці зрухі, а паводзіны і абстракцыі, што маюць метафізічны, ледзь не філасофскі, анталагічны характар. Фобія, свабода і рабства, залежнасць ад маці, скажоны адбітак гісторыі ў люстры сучаснасці... Пра апошняе — аповесць "Дараванне". У ёй кранутая хваробай памяць "вычварна блукае ў лабірынтах мінулага", разбураецца перад тым як памерці. "Тканка быцця, што складаецца са звычак, расплятаецца, як прагнілы гамак, і чалавек праваліваецца ў пустэчу".

Хвароба Альцгеймера — паражэнне галаўнога мозгу, што выклікае разбурэнне памяці (адна з найбольш распаўсюджаных хвароб у развітых краінах). Менавіта на яе фоне і падаюцца дзве галоўныя лініі твора — "замежны муж і рэха вайны" (паводле абагульнення Алесі Лапіцкай). Вобразы хваробы і хворага яскравыя і запамінальныя, разгорнутыя, узбагачаныя псіхалагічнымі дэталямі. Але нельга сказаць тое ж самае пра некаторыя іншыя вобразы ды сюжэтныя элементы. Напрыклад, дачка галоўнай гераіні прысутнічае ў творы толькі наменклатурна (імя, пол, сцiслы жыццяпіс) — верагодна, яна была ўведзена, каб надаць аб'ёмнасці вобразу галоўнай гераіні. Некаторая павярхоўнасць, урэшце, уласцівая і самому дараванню. Маю на ўвазе ключавы сюжэтны вузел, запраграмаваны назвай твора. Здагадлівы чытач чакае яго ад таго моманту, як толькі зададзены сюжэтныя межы аповеду. Галоўная гераіня — Ларыса, пабраўшыся шлюбам з немцам, вымушана даглядаць хворага нямецкага свёкра, які, па супадзенні, у 1941 годзе ваяваў у яе роднай вёсцы. Цяпер Ганс (так завуць старога) "вяюе ў яе [Ларысы] доме", бо хвароба ўзяла верх над яго свядомасцю, і старому здаецца, што ён у 1941-м. Неўзабаве закручваецца складаны вузел узаемных беларуска-нямецкіх гістарычных комплексаў, і разрываe яго неспадзяванае... дараванне. У стыхійнасць, шчырасць гэтага парыву цалкам верыцца. Вось толькі штуршком да пачуцця, своеасаблівым "пераключальнікам" свядомасці (ці, як любяць казаць мовазнаўцы і камп'ютаршчыкі, "трыгерам") стаецца сентыментальная гісторыя кахання немца-акупанта да беларускай дзяўчыны Зосі, прачытаная галоўнай гераіняй у дзённіку хворага. Гэтакі "міні-«Хам»" Элізы Ажэшкі" ў сярэдзіне аповеду. Думаецца, устаўны "мікрасюжэт" парушае стыль аповесці і дадае лыжку дзёгцю.

Аповесць "Дараванне" — факт надзвычайнай смеласці аўтаркі. Алена Брава ўзялася за складаную тэму (маю на ўвазе тое самае "рэха вайны") — і здолела сказаць у ёй сваё слова, а адэпты ваеннай тэмы прызналі аповесць "сваёй". А між тым яна — пра сучаснасць.

"Дараванне" (як і іншыя творы Алены Брава) можна назваць мастацкім даследаваннем. Яе пачуцці ўласціва згушчанасць, насычанасць, і часам здаецца, што з мэтай эксперыменту героям змясцілі ў штучныя ўмовы. Так, нібыта нябачнай клапатлівай рукой Ларыса перанесена ў Нямеччыну (зрэшты, гэта псіхалагічна абгрунтоўваецца ў своеасаблівай перадгісторыі). Невыпадковы і факт, што Ганс у 1941-м ваяваў менавіта ў Беларусі, больш за тое — у той жа самай вёсцы, дзе жыла наша гераіня. Нават дзень, у які адбываецца дзеянне, — 9 мая! Часам тэкст нагадвае нізку, у якую злучаны самакаштоўныя элементы (вобразы, сітуацыі, думкі). Такую асаблівасць аповеду Ціхан Чарнякевіч называе "градацыяй псіхічных станаў" — пераход ад адной сітуацыі ці вобраза да іншай(-га) паводле логікі эмоцый, уражанняў. Гэта ілюструе, напрыклад, матыў пошуку Ганса (хворы ў напаўсвядомым стане ўцёк з дому). Раз за разам Ларыса нібыта праваліваецца ў палонкі памяці, дзе перажывае мінулае ва ўсёй яго матэрыяльнасці, а потым "прачынаецца" ад успамінаў.

Паддаючыся "градацыі псіхічных станаў", чытач пройдзе праз розныя сітуацыі і ўрэшце займее аб'ёмнасць бачання. Пісьменніца сабрала ў творы і злучыла паміж сабой разнастайныя рэаліі, што датычаць абранага кола праблем — рэха вайны, феномен памяці, беларуска-нямецкія ўзаемаадносіны, парадоксы пасляваеннай сучаснасці. Ад лірычна-філасофскіх назіранняў ("праявы той хваробы носяць нечаканa прыгожыя грэчаскія назвы: агнозія, афазія, апраксія — тры сястры, тры антыподы Мнемазіны"), метафарычных сноў — да вобразаў ледзь не публіцыстычнага зместу (пра вязняў "душэўнага гета"). Ад перакручаных, у традыцыі Кузьмы Чорнага, лёсаў ("жывы пражыў жыццё па дакументах мёртвага") — да спачування немцам, якіх захлынула хваля славянскага эзатэрызму ("бедныя немцы! панаехала ж *нас* на вашую галаву!"). Цікава супаставіць усё гэта, дый такая задача — для ўдумлівага чытача.

Урэшце, упэўнена, што кожны, незалежна ад чаканняў, атрымае задавальненне ад аповесці. І справа тут у выдатным стылі, дзе кожнае слова ўзважана, у сітуацыях, прамаляваных з майстэрствам і вялікім жыццепадабенствам. Ды і ў актуальнасці тэмы — актуальнасці своеасаблівай, усвядомленай далёка не кожным. Патрэбы памяці рэдка ўсведамляюцца.

## Новае выданне

# «Полымя роднае» Уладзіміра Гайдука

Сяргей ЧЫГРЫН

**У Беластоку ў бібліятэцы беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" пабачыла свет кніга Уладзіміра Гайдука "Полымя роднае", рэдагаваў якую Ян Чыквін.**




Уладзімір Гайдук на Беласточчыне жыве ў сельскай мясцовасці, як кажуць беларусы, "гаспадарыць на хутары". Тыя, хто пісалі пра Уладзіміра Гайдука, заўсёды падкрэслівалі, што ён паэт-селянін (Уладзімір Конан), што яго матэрыяльныя ўмовы моцна трымаюць пры зямлі, прыніжаюць яго, ставяць у недарэчную залежнасць (Ян Чыквін). Тым не менш Уладзімір Гайдук даўно вырваўся з гэтай, мякка кажучы, матэрыяльна-фізічнай сялянскай прыгнечанасці. Зямля, вёска, праца, хутар — гэта ўсё ні пры чым. Галоўнае, што ёсць паэт — шчыры, светлы, адкрыты, якому можна верыць:

На лясы, на луг шырокі
Сонца падаюць прамені,
А дзяўчынка сінявока
Ловіць "зайчыка" у жменю.
Замігцелі, як жывыя,
Пасярэбраныя росы,
А дзяўчынка боткі шые,
Каб не змерзла лялька босай.

У кнігу "Полымя роднае" Уладзіміра Гайдука ўвайшлі вершы з ранейшых паэтычных зборнікаў "Ракіта" (Беласток, 1971), "Блакітны вырай" (Беласток, 1990), "Пах аернага хлеба" (Беласток, 1997), а таксама не друкаваныя раней творы. Вядома ж, тэмы вёскі, зямлі, сялянскай працы засталіся галоўнымі для новага выдання. Яны прасякнутыя пачуццём нейкай ціхай радасці, лёгкай журбы. Але ў душы паэта, як пісаў Ян Чыквін, "няма пакутных думак пра нацыянальную пакрыўджанасць, няма комплексу нацыянальнай непаўнацэннасці, якія пераходзілі б у плач і скаргі беларусаў".

У. Гайдук верыць найбольш зямлі. Калі прыгадаем Якуба Коласа, які пяяў гімны роднай беларускай зямельцы, то Уладзімір Гайдук на Беласточчыне пяе свае гімны той зямлі, на якой жыве і працуе. Ён то далучаецца да жаваранка, які "спявае песню маці-зямлі", то называе вецер "святой песняй вечна жывой зямлі", то лісцем жоўтае восені абсыпае дарогу, каб ногі парадніліся з зямлёй. Чалавечае замілаванне маці-прыродай выяўлена ў кнізе глыбока і разам з тым проста. Пошукі глыбіні, спробы раскрыць у жанры лірычнага верша ўсю складанасць духоўнага свету чалавека, яго псіхалогіі — без гэтага немагчыма ўявіць Гайдука-паэта.

Калі чытаеш яго творы, адчуваецца і замілаванне аўтара да слова народнага, да традыцыйна-народных вобразаў, матываў, да паэтыкі народнай песні. Паэтычныя радкі арганічна развіваюць фальклорныя традыцыі:

*Ой вы, думкі-песенькі*
*З роднае старонкі.*
*Ой вы, песні сумныя,*
*Ой вы, песні звонкія…*

Ці вось гэтыя радкі з верша "Дажынкі":

*Ой, вылець, вылець,*
*Перапёлачка,*
*Жытка выжата*
*З свайго полечка…*

Уладзімір Гайдук — паэт нешматслоўны, схільны да афарыстычнасці, але запамінальны, даверлівы, трохі нават наіўны з "тугой затоенай". Асабліва гэта наіўнасць адчуваецца ў лірычных радках пра каханне і пра яе, каханую. Ён апраўдвае сябе і былую сваю сяброўку: "Я не вінаваты, ты не вінавата, што была нам святам палявая мята".

Ёсць, праўда, у зборніку і слабаватыя радкі і строфы. Асабліва іх шмат у вершах, якія раней не друкаваліся ў паэтычных зборніках і склалі трэці раздзел кнігі. Здаецца, гэтыя радкі-экспромты пісаліся проста дзеля рыфмы. Напрыклад, "Устаў я пазнавата, а ў галаве шумок: зачадзілі багата… трэ ехаць ў Беласток…" І тым не менш кніга атрымалася, бо, як піша аўтар, "паэзія — душы гарэнне".

Няхай паэтычная душа Уладзіміра Гайдука яшчэ доўга гарыць творчым полымем і піша пра Полымя роднае і не толькі. Замест пастскрыптума скажу, што Полымя — назва роднай вёскі Уладзіміра Гайдука на Беласточчыне.

## Universum



Віка ТРЭНАС

## Бялынiччына: гістарычны экскурс

*Як вы думаеце, што яднае вядомую мастачку Ларысу Жураўвіч, папулярную пісьменніцу Наталлю Батракову і блюзавага музыканта Юрыя Несцярэнку? Адказ: малая радзіма, гарадскі пасёлак Бялынічы Магілёўскай вобласці. Гэта мястэчка, як, зрэшты, і яго ваколіцы, увайшлі ў гісторыю не толькі з вышэйзгаданымі імёнамі нашых сучаснікаў. Бялынічы ўпамінаюцца ў пісьмовых крыніцах з XVI стагоддзя, у розныя часы яны належалі Сапегам, Радзівілам, Агінскім. У 1634 годзе мястэчку было нададзена магдэбургскае права, у 1650-х гг. тут пры кармеліцкім кляштары працавала друкарня... Як многія іншыя беларускія вёскі, мястэчкі і гарады, Бялынічы зазналі і знішчальныя пажары XIX ст., і бязлітасныя войны XX. Пра тое, якія таямніцы гісторыі гатовыя раскрыць Бялынічы, пра людзей, што сталіся гонарам гэтай зямлі, і пра цікавую кнігу, нядаўна пабачыўшую свет, — сённяшняя гутарка.*

### Новы погляд на даўнія мясціны

Ілюстраванае выданне, апублікаванае напрыканцы мінулага года, апавядае пра Бялынiччыну, яе гісторыю ад першых летапісных згадак, пра славутых ураджэнцаў рэгіёна або тых знакамітасцей, чыё жыццё было непасрэдна звязана з гэтай зямлёй. Асаблівую цікавасць у кнізе "Бялынiччына: Краязнаўчы энцыклапедычны даведнік" уяўляюць артыкулы, прысвечаныя дахрысціянскім святыням — камяням і крыжам, а таксама старажытным архітэктурным помнікам. Асобнае месца адводзіцца паходжанню хрысціянскіх рэліквій, напрыклад, цудатворнага абраза Маці Божай Бялыніцкай. Наконт яго з'яўлення ў Бялынічах існуе некалькі версій, адных з якіх прытрымліваюцца праваслаўныя вернікі, другіх — каталікі.

Даведнік стаў вынікам працы калектыву аўтараў і з'яўляецца праектам рэдакцыі Бялыніцкай раённай газеты "Зара над Друццю". Выданню папярэднічае ўступнае слова Аляксандра Вароніна, старшыні Бялыніцкага райвыканкама, у якім падкрэсліваецца важнасць захавання гістарычнай памяці: "Актуалізоўваючы цяпер духоўныя здабыткі, дасягнутыя ўсімі пакаленнямі нашых папярэднікаў, мы сумесна і кожны пасобку пракладаем масток паміж былым і будучым".

### Дапытлівы краязнаўца

Укладальнікам кнігі і аўтарам праекта стаў Міхась Карпечанка — пісьменнік, журналіст, краязнаўца, рэдактар раённай газеты "Зара над Друццю". Міхась Аляксеевіч нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Болін Краснапольскага раёна. Скончыў Наваельнінскую СШ Краснапольскага раёна, філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Бялыніцкага краязнаўчага таварыства, грамадскай ініцыятывы "Асацыяцыя краязнаўцаў малых мястэчак Магілёўшчыны". Лаўрэат некалькіх раённых і абласных спецыяльных прэмій, у тым ліку — імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі. Спадар Міхась адносіцца да людзей з шырокімі гуманітарнымі зацікаўленасцямі, таму чытачы ведаюць яго і як аўтара прозы. У лютаўскім нумары часопіса "Маладосць" будзе апублікаваная яго аповесць "Дэзерцір". Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя...

# Музыка кахання і веры




**Вераніка РУСАКОВА**

Адкрывае снежаньскі, заключны, нумар часопіса за 2011 год верш Эльвіры Ярчак "Максіму Багдановічу". Гэты акцэнт зроблены невыпадкова: 9 снежня 2011 года выбітнаму класіку беларускай літаратуры споўнілася 120 гадоў. Менавіта так — споўнілася, таму што, як слушна заўважае аўтар верша:

*Паэты не паміраюць*
*(У вершах душа паэта),*
*Іх зоркі не падаюць з неба,*
*А толькі гараць ярчэй,*
*І, нібы брыльянты, ззяюць*
*Максімавы трыялеты,*
*Бо ён спапяліў сваё сэрца*
*Натхненнем сярод начэй.*

У падборцы вершаў Юркі Голуба няма ніякіх відавочных паралеляў з асобай Максіма Багдановіча, але трэба адзначыць і тое, што яго творы поўняцца багдановічаўскай "хваляй пачуцця", яны прасякнутыя пачуццёвай вобразнасцю і эмацыянальнасцю. Вобразы — галоўныя дзеючыя асобы-стваральнікі вершаў, народжаныя думкамі, назіраннямі, эмоцыямі і пачуццямі паэта.

Пачуццёва-эмацыянальнымі і па-жаночы светлымі паўстаюць перад чытачом вершы Тацццяны Мушынскай. Каханне светлае і жаданае, рэальнае і мройнае, трагічнае і пакутліва-ўзнёслае — усё пераплятаецца, спалучаючыся ў вялікую музыку любові. Кахаць — гэта шчасце, але ці робіць шчаслівым чалавека чаканне? Паэтэса адназначна сцвярджае, што "гэта светлае шчасце — чакаць і кахаць…", пераконваючы ў тым, што, не зведаўшы горычы, не адчуеш і не спазнаеш сапраўдны смак і музыку шчаслівага пачуцця. Тэма адносін, кахання — вечная тэма, таму і не дзіўна, што ледзь не кожны аўтар так ці інакш звяртаецца да яе.

У падборцы Анатоля Зэкава таксама ёсць верш, прысвечаны няпростым адносінам паміж мужчынам і жанчынай, магчымасці немагчымага, спалучальнасці несапалучальнага, гарманічнаму адзінству мужчынскага і жаночага пачаткаў. Але лейтматывам яго нізкі з'яўляецца ўсё ж тэма дарогі, руху, здзяйснення ці немагчымасць гэтага руху, але моцнае яго жаданне, вялікая прага. Дарога ў аўтара — гэта і фізічная рэальнасць, і метафарычнае ўвасабленне жыццёвага шляху, і рух да мары, і своеасаблівы прысуд-рахунак уласнаму жыццю. Узнікае вобраз скончанай дарогі, зламанага адрэзку, калі аўтар дзеліцца з намі сваімі эмоцыямі наконт заўчаснага сыходу з жыцця Таісы Бондар, Валянціны Коўтун, Яўгеніі Янішчыц, маці паэта.

Апавяданне Ніны Рыбік "Вечар перад Ражаством" — твор пра сучасныя рэаліі і, на жаль, гэта гісторыя не новая, нават ужо класічная. Акурат перад Калядамі старая маці апынаецца ў доме-інтэрнаце для састарэлых, куды яе выпраўляе адзінае роднае дзіця — дачка. У палаце, куды трапляе Вера, яшчэ тры такія ж сяброўкі па няшчасці. Аснову апавядання і складаюць расповеды кожнай з жанчын пра сваё жыццё. Адназначнасць, няўскладненасць і лінейнасць гэтых расповедаў, здаецца, мусілі б спрасціць гэту гісторыю, зрабіць яе банальнай, прадказальнай, але гэта толькі здаецца. Па-першае, не адарвешся, пакуль не дачытаеш твор да канца, па-другое, задумаўшыся, разумееш, што вось так і адбываецца ў жыцці. Гора — адназначнае ў сваёй метафізіцы, а вось тое, што стаіць за ім, — чалавечыя перажыванні, перыпетыі лёсу — шматзначныя і шматаспектныя, так бы мовіць, "рознакаляровыя", але калі б аўтар ставіла на мэце распавесці пра ўсё з самага пачатку, то, відавочна, памераў апавядання не хапіла б.

Нягледзячы на змрочны, безрадасны характар апісанай у апавяданні сітуацыі, Ніна Рыбік нібы ў якасці перадкаляднага падарунка дорыць надзею. Гэта і ёлачка з зіхатлівымі агеньчыкамі ў пакоі дома-інтэрната, і святочная вячэра, і аптымізм санітаркі Зінаіды, і нават імя гераіні апавядання — Вера, якое падаецца сімвалічным: пакуль чалавек верыць, яго жыццё не марнае.

# Высокі штыль для нізкай матэрыі




**Наталля ПАХОМЧЫК**

Празаічныя мініяцюры-"мгновения" Юрыя Бондарава, якімі распачынаецца літаратурна-мастацкая частка часопіса "Нёман", задаюць высокую планку да якасці астатніх публікацый. Тут жа вызначаецца і адна з тэматычных дамінант нумара — мастацкая рэфлексія літаратуры. Падборка вершаў Уладзіміра Кастрова ў гэтых адносінах — выбітная. Асабліва трапныя — разважанні пра прыроду мастацтва слова.

Як гэта часта бывае, пакуль шэраг моцных публікацый без водгукаў тоне ў летапісе дзён, твор "неадназначны" карыстаецца павышанай увагай, робячы тым самым ласку яго аўтару.

Сугучная думка ёсць у вершы згаданага вышэй Уладзіміра Кастрова. Працытуем: "Один графоман в солидный журнал // прислал корявый стишок. // Совсем таланта не было в нём, // и стиль был весьма смешон. // Но чтобы вывод под стих подвесть, // в нём были такие слова: // «Жизнь такова, какова она есть, // и больше — никакова!»... Но строчки вошли, как благая весть, // до самого естества. «Жизнь такова, какова она есть, // И больше — никакова!»"

Цвяроза ўсведамляючы ўсе гэтыя акалічнасці, тым не менш прысвячаем сваю крытыку апавяданню Яўгена Шышкіна "Лгунья".

Сюжэт: герою застаецца тры дні да канца адпачынку ў Хосце — курорце ля Чорнага мора; прагматык, ён імкнецца скарыстацца гэтым часам з найбольшым каэфіцыентам карыснай дзейнасці: выцікоўвае жанчыну Надзю, замужніцу ("А то, что она замужем, так это ещё и лучше: замужние менее капризны, более чистоплотны…"; "она не какая-нибудь бестолковая болтушка в разводе или пугливая строптивая дозамужняя коза, или с заплывшими мозгами и тяжелым задом толстуха-обжора"), заляцаецца да яе. Усё ідзе спачатку нібыта гладка, ды раптам Надзея, пакідае нашага героя. Справа ў тым, што яе "праграма-мінімум" скончылася раней, чым "праграма" нашага героя: дома яе чакае каханы муж, дачка, яна добра правяла час, дзякуе герою і просіць прабачэння за тое, што "погубила вечер". Чаму ж "лгунья"? Справа ў тым, што Надзея, застаючыся вернай мужу, сям'і, прызнаецца, што "падманвае жанчын": дома яна абавязкова распавядзе сваім сяброўкам, што "мы с вами всю ду безумно целовались и вы были неотразимым любовником". Акрамя таго, як many ўспрымае герой пастаўлены Надзеяй "дыягназ": "И неужели она права в том, что мне уже всё равно, кого обнимать — лишь бы помоложе, покрасивее, построй-нее… А вдруг Надя… обманула? Впрочем, женщины, вероятно, и созданы для того, чтобы обманывать простаков мужчин". У цэлым, калі не браць пад увагу гэты апошні "па-мужчынску" цынічны акорд зноткамі дзіцячай крыўды — развязка ўспрымаецца досыць цікавай. Але…

Круці не круці, мастацкі твор для чытача — гэта выражэнне пэўнага погляду на рэчаіснасць. "Лгунья", як падаецца, адлюстроўвае рэчаіснасць вачыма цыніка-ныціка, прытым страшнага прагматыка, часам — пахабніка, недзе глыбей — няўпэўненага ў сабе чалавека, што шукае вінаватага ва ўсіх сваіх няшчасцях. У дадзеным выпадку — вінаватыя жанчыны. Як бы глыбока гэтая думка ні заганялася ў падтэкст далікатнымі словамі, цытатамі, алюзіямі, яна ўсё роўна, як дрэнна прывязаны сабака, зрываецца з ланцуга. Апавядальнік згадвае Чэхава, Талстога, Дастаеўскага, Джойса, але ўвесь гэты інтэлектуальны антураж не толькі не надае апавяданню глыбіні, але падкрэслівае абмежаванасць "карціны свету" героя, дзе нават такія класікі ўспрымаюцца "мелкавата". Дарэчы, згаданы інтэлектуальны антураж перацякае месцамі і ў плынь аповеду, у яго стыль: звышскладанымі сказамі, кароткімі прыметнікамі, інверсіямі — такім высокім "штылем" часам кіне ў вочы "Лгунья", кіне — ды ізноў за сваё: "У отдыхающих в Хосте — свои преимущества: городишко *несуетен*, *тенист*, *уютен*; пляжи *чисты*, по крайней мере, морская вода у берега более *прозрачна*, чем в том же Сочи; а ещё здесь реконструирована Мацестинская водолечебница… Хоста *весьма известна* у искушённых курортников [звярніце ўвагу — усе азначэнні раскрываюць выразна прагматычны код успрыняцця рэчаіснасці героем]. Стоит где-то упомянуть о ней в компании, как тут же кто-то подхватит: "О! Хоста! Конечно знаю! Я там ещё с подругой одной схлестнулся из Питера".

Ізноў прыгадваюцца радкі з Кастрова: "Словно бы не хотел, но соврал, // Словно фальшь протащил в эти залы. // Словно и не поэт ты, а Карл, // Карл, укравший у Клары кораллы".

# Ад Юргона да Юджына




**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Дванаццаты нумар "Маладосці" прапанаваў сваім чытачам часопісны варыянт аповесці Анатоля Казлова "Абганяючы сны". Згодна з сюжэтам, Юджын, галоўны герой твора, чатырнаццаты год шчасліва жыве з Русланай у грамадзянскім шлюбе. Але калі каханая жанчына накіроўваецца на поўдзень, у мужчыны прачынаецца асноўны інстынкт. Пасля вяртання Руслана выганяе Юджына са сваёй кватэры. Пазбаўлены жытла, герой начуе на вакзале, дзе бавіць час за бутэлькай з паненкамі вольных паводзін. Пры гэтым ён кахае Руслану і марыць вярнуцца да яе. Аднойчы Юджын сустракае дзіўную бабулю, чыё "цела даўно ужо не патрабуе ежы". Менавіта яна імкнецца падказаць герою выйсце з духоўнага крызісу…

На першы погляд, аповесць з'яўляецца досыць тыповай для творчасці пісьменніка, у якой дамінуюць жарсць і містыка. Але пры больш уважлівым разглядзе твора такую думку можна аспрэчыць. Па-першае, "юргонаўскія" матывы выглядаюць у аповесці дастаткова сціпла. Апісанне напаўгаловеных прыгажунь у кароткіх халацiках, "гарачыя" сцэны, характэрныя для ранейшых твораў А. Казлова (напрыклад, "Юргону"), саступаюць канстатацыі рамантычных прыгодаў як фактаў, што адбыліся з героем. Па-другое, містычнасць уласцівая, бадай, толькі вобразу бабулі. Апошнюю можна ўспрымаць і як анёла-ахоўніка, і як душу кагосьці са сваякоў Юджына. Пра гэта сведчыць наступны фрагмент: "Ты не забыў яшчэ, як выглядала наша хата, — бабулька закашлялася, засланіла далонню вусны, выдыхнула натужна і працяжна, — твая хата як выглядала, не забыўся?" Але самае галоўнае, што містыка звязана з арыгінальным пісьменніцкім успрыманнем часу.

Параўнальна нядаўна мы згадвалі пра "сонечную" і "начную" прозу. Характэрнай рысай другога кірунку, да якога я аднёс і творчасць А. Казлова, было названа імкненне пісьменнікаў адлюстраваць дысгармонію, паглыбіць яе, стварыць гэтым кантраст з гармоніяй і падвесці чытача да разумення неабходнасці апошняй (тады як "сонечныя" пісьменнікі імкнуцца прывесці да гармоніі сваіх герояў). Супярэчнасць паміж двума кірункамі праявілася і ва ўспрыманні часу, які стаў філасофскай асновай аповесці А. Казлова.

Для тлумачэння мадэлі чалавечых узаемаадносін, якую прапануе пісьменнік, параўнаем разуменне часу ў творцаў двух кірункаў. Паколькі "сонечныя" пісьменнікі ўспрымаюць свет гарманічна, яны бачаць еднасць сучаснага з мінулым і вышэйшую, боскую логіку ў развіцці сусвету. Напрыклад, у А. Станюты нязменнай катэгорыяй выступае прастора, якая яднае час. "Начныя" пісьменнікі нават пры адноснай, вонкавай гармоніі бачаць вытокі дысгармоніі ўжо ў мінулым. Таму яны адмаўляюць адзінства апошняга з сучаснасцю і нават з пэўнай варожасцю ставяцца да часу. Дадзены тэзіс знайшоў увасабленне ў аповесці "Абганяючы сны".

На думку бабулі, "разуменне часу ды месца супакойвае, дае ўпэўненасць, што ў кожнага яшчэ наперадзе бязмежжа… у сотню гадоў. Але часу няма і не было. Сусвет не ведае часу. <…>. Людзям ён патрэбны, каб не заблукаць у самых сабе". Гераіня лічыць, што "калі чалавек вольны, яму няма патрэбы ў снах і часе". Катэгорыя "сноў" успрымаецца ў творы як адлюстраванне часу, дакладней – мінулага (сны Юджына заўсёды з'яўляліся "надакучлівымі ды небяспечнымі"). Менавіта таму бабуля імкнецца навучыць героя абганяць сны. "Стрымлівай звярыны пачатак у сабе. Упусцi ў душу і цела радасць дня сённяшняга. Выкрaслі з памяці боль учарашняга дня…" Уменне абганяць сны можа прынесці герою ўсведамленне і адчуванне пазачасавасці. "Каб пачувацца ўтульней у пазачасавасці, чалавек і прыдумаў час", — піша пісьменнік. Мяркую, у дадзеным кантэксце пад тэрмінам "пазачасавасць" разумеецца дасягненне чалавечай гармоніі.

Прызнацца, некаторыя фрагменты аповесці выклікаюць супярэчлівае ўражанне. Напрыклад, яе пачатак ("*Вам давозілася бачыць, як паміраюць дэльфіны? Не? А як яны займаюцца сексам?*") падаецца няўцямным. А дзіўныя ўспаміны героя пра пошук зоркавай кветкі мае ўстаўны характар і не ўплывае на развіццё твора. Але ўвогуле аповесць А. Казлова стала творчым поспехам пісьменніка.



Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

## Словакраязнаўцы



**Тамара Бальбот, дырэктар Крупскага гісторыка-краязнаўчага музея, распавядае пра краязнаўчыя даследаванні вучняў раённай гімназіі.**

— Яшчэ працуючы выкладчыкам гісторыі ў Крупскай раённай гімназіі, заўважыла, з якім жаданнем некаторыя вучні бяруцца за розныя даследаванні, што датычаць мінулага роднай зямлі. Напрыклад, вучань 7 класа Сяргей Казадоеў цікавіцца гісторыяй з 3 класа. Пачалося ж усё з таго, што хлопец убачыў цікавыя камяні, у тым ліку і на возеры Сялява. Калі разам з настаўніцай геаграфіі Ірынай Мікалаеўнай Цюкловай даследавалі гэтыя знаходкі, то знайшлі, вобразна кажучы, ключ да мінулага. Аказалася, што ўзрост камянёў налічвае некалькі мільёнаў гадоў! Правёўшы два розныя даследаванні, Сяргей прыйшоў да наступнай высновы: ляднік узняў з глыбінь Зямлі горную пароду (на першы погляд, гэта якраз нічым не прыкметныя камяні), перанёс яе з больш паўночных рэгіёнаў Беларусі на Крупшчыну, на месцы якой у далёкія-далёкія часы хвалявалася мора, і "падарыў" возеру прыгожы марскі вапняк-ракушачнік. Сяргей упэўнены: "Камяні — гэта нябачныя сведкі мінулага. Яны могуць распавядаць пра многае, трэба толькі навучыцца разумець іх мову".

Вучаніца 10 класа Юлія Баранчук пад кіраўніцтвам настаўніцы рускай мовы і літаратуры Марыны Пятроўны Байтрукевіч вырашыла даследаваць не толькі асаблівасці паходжання беларускіх прозвішчаў, але і гісторыю ўзнікнення прозвішчаў жыхароў нашага горада, Крупскага раёна і сваіх аднакласнікаў. Атрымалася вельмі цікавая работа.

Не перастаю здзіўляцца, якія таленавітыя ў нас дзеці! У простых, здаецца, рэчах адкрываюць з дапамогаю педагогаў столькі таямніц.

Не магу не ўспомніць даследаванне "Вялікая Перамога ў нашай памяці жыве", якое правёў Юрый Хадатовіч разам з маці, настаўніцай рускай мовы і літаратуры Святланай Леанідаўнай Хадатовіч. А нагодай для гэтага сталася тое, што ў гады вайны прапаў без вестківіго прадзядуля — Іван Цімафеевіч Крэмень, які ваяваў у арміі генерал-лейтэнанта Русіянава. І вось унучка з праўнукам пачалі шукаць. Звярталіся ў беларускія архівы, паслалі запыт у Германію і нарэшце даведаліся, што іх продак трапіў у канцлагер Флосенбург і там памёр. Даследчыкі не абышлі сваёю ўвагаю і подзвіг крупчан, здзейснены імі падчас вайны, прытым устанавілі шмат невядомых раней фактаў.

## Праз прызму радаслоўнай

Рыцар у даспехах XVII ст. з'явіўся ў заходнім флігелі старадаўняга замка роду Сапегаў у пасёлку Ружаны Пружанскага раёна. Музейная экспазіцыя, якую пачалі абсталёўваць, распавядзе пра гісторыю тутэйшых мясцін праз прызму радаслоўнай усемагутных вяльмож. У свой час яны пабудавалі шыкоўны дварцовы комплекс. Праўда, за мінулае стагоддзе ён прыйшоў у поўнае запусценне, але цяпер адраджаецца дзякуючы ініцыятыве мясцовых улад і дзяржаўнай падтрымцы. У трох залах музея "Ружанскі палацавы комплекс Сапегаў" "паселяцца" больш як дваццаць гістарычных асоб. Для іх ужо падрыхтавалі адпаведныя касцюмы і даспехі. Аднаўленае "палацавае жыццё" ў заходнім крыле комплексу стане працягам таго, што ўжо з'явілася ва ўсходнім, дзе паўстала велічная ўязная брама.

**Бажэна СТРОК**

## Музейны ўнікат

# Бясцэнны фаліянт



**У снежні мінулага года фонды музея гісторыі Магілёва папоўніліся новым экспанатам — фаліянтам "Часоўнік", які датаваны 1773 годам. Пра тое, што на інтэрнэт-аўкцыёне кніга выстаўлена на продаж, супрацоўнікі музея даведаліся яшчэ летам, але з-за недахопу сродкаў не мелі магчымасці набыць рарытэт. Таму вырашылі адкласці яго пакупку на 2012 год. Паскорыць гэты працэс дапамагла дабрачынная акцыя.**

**Раіса МАРЧУК**

— Частку неабходнай сумы выдзеліў гарвыканкам, — паведаміў дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў. — Вельмі прыемна, што ўсё-такі значную частку грошай сабралі самі магілячане. Нават большую суму, чым патрабавалася.

Свой унёсак у гэту добрую справу зрабілі таксама студэнт гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Андрэй Радкоў і яго навуковы кіраўнік, загадчык аддзела публікацыі дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Зміцер Яцкевіч, якія аб'явілі ў электронных СМІ збор ахвяраванняў для набыцця "Часоўніка".

— Пакуль мы не ведаем, як рарытэт трапіў да калекцыянера, але яго аўтэнтычнасць не выклікае сумневу, — зазначыў Аляксей Бацюкоў. — Праўда, у тэксце адзначана іншая дата выдання — 1713 год, але фаліянт утрымлівае каляндар, які пачынаецца менавіта з 1773 года. Усе кропкі над "і" будуць расстаўлены падчас экспертызы. Мы рады, што змаглі агульнымі намаганнямі атрымаць сапраўды ўнікальны экспанат, паколькі такіх кніг у нашай краіне ўсяго чатыры. Астатнія тры знаходзяцца ў дзяржаўных установах Мінска, у тым ліку ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Пасля правядзення навуковай экспертызы фаліянт зойме пачэснае месца ў пастаянна дзеючай экспазіцыі музея. Такім чынам і гараджане, і госці абласнога цэнтра змогуць у хуткім часе пазнаёміцца з бясцэннай, нягледзячы на акрэслены кошт, рэліквіяй. Дарэчы, "Часоўнік" убачыў свет у выдавецтве пры Багаяўленскім манастыры, якое было заснавана вядомым беларускім кнігадрукаром, асветнікам і літаратарам Спірыдонам Собалем. Таму можна ўпэўнена сцвярджаць: "Часоўнік" прадстаўляе традыцыі магілёўскага кнігадрукавання.

# Інстытут нацыянальнага адраджэння

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).**

Важнай рысай дзейнасці ІБК, як да, так і пасля надання беларусізацыі дзяржаўнага характару, па праве можна лічыць яго штодзённы клопат пра культуру не толькі беларусаў, але і ўсіх этнічных супольнасцей БССР. Здавалася б, што, зведаўшы такую страшэнную дыскрымінацыю беларускай культуры з боку свецкіх і духоўных уладаў царызму, яе носьбіты ў асобе творчай інтэлігенцыі нават і пальцам не паварушаць, каб адкрыць шлях для развіцця іншых культур. На практыцы такога не адбылося. Наадварот, яны шукалі магчымасць забяспечыць у рэспубліцы па-сапраўднаму квітнеючую культурную разнастайнасць. Для гэтага адпаведным чынам была сфарміравана структура Інбелкульта, створаны яўрэйскі і польскі аддзелы, а затым яшчэ літоўская і латышская кафедры (1927). Адсутнасць падобных падраздзяленняў для рускай культуры тлумачылася яе даволі трывалымі пазіцыямі на тэрыторыі Беларусі. Кіраўніцтва ІБК асаблівае значэнне надавала яўрэйскай этнічнай групе. Чаму? У той час яўрэйская культура, як і беларуская, лічылася дыскрэдытаванай царскімі ўладамі, чаго не зведала культура польскай этнічнай групы. Пастанову аб заснаванні ў структуры ІБК яўрэйскага аддзела ўрад прыняў 25 ліпеня 1924 года. Праца вялася па чатырох галоўных напрамках: яўрэйская мова, літаратура, гісторыя, археалогія.

Неблагіх набыткаў дабіліся і супрацоўнікі польскага аддзела, літоўскай і латышскай кафедраў ІБК. Спрыяў гэтаму і сам характар дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі, якая ні ў чым не парушала нацыянальных інтарэсаў этнічных груп. Наадварот, чым лепш ішлі справы з нацыянальна-культурным адраджэннем тытульнага народа, тым лягчэй вырашалі аналагічную праблему нацыянальныя меншасці.

Пры пераводзе ўсіх без выключэння сфер грамадскага жыцця на беларускую мову (рабілася гэта ўдумліва, разважліва) нельга было не заўважыць, што для такога маштабнага выкарыстання ў яе неставала патрэбнага лінгвістычнага рэсурсу. Здзіўляцца гэтаму ніяк нельга, бо доўгі час родная мова з'яўлялася толькі сродкам міжасобных зносін людзей, прычым пераважна сельскай мясцовасці, для чаго не патрабавалася вялікага слоўнікавага запасу. З пераходам да афіцыйнай беларусізацыі становішча карэнным чынам змянялася, чаго нельга было не ўлічваць супрацоўнікам навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамата асветы БССР і кіраўніцтву ІБК. У гуманітарнай секцыі інстытута існавалі слоўнікавая і тэрміналагічная камісіі, якія займаліся складаннем слоўніка жывой беларускай мовы і дыялекталагічнага слоўніка. Штогод вялікая колькасць слоў паступала ў картатэку Цэнтральнага бюро краязнаўства, асабліва ад настаўнікаў. З 1922 года пачалі выдавацца матэрыялы "Беларускай навуковай тэрміналогіі". Да 1930 года пабачылі свет 24 выпускі.

Многіх у тую пару вельмі хвалявала засмечанасць беларускай мовы паланізмамі і русізмамі, што рабіла яе не такой арыгінальнай, адметнай, якой яна магла быць. Гэтаму спрыяла працяглая адсутнасць яе ў службовым справаводстве, адукацыі, царкоўна-рэлігійным жыцці. Ніхто настолькі зацята не выступаў супраць такіх шкодных уплываў, як Язэп Лёсік. Яшчэ ў 1920 годзе ў газеце "Беларусь" ён пісаў: "...трэба ўмець бараніцца ад тае навалы чужых слоў, што без ніякае патрэбы заносяцца ў нашую родную мову і якія могуць быць лёгка заменены сваімі словамі. Пільнавацца чысціні мовы павінен як кожны беларус, так асабліва беларус інтэлігент, і асабліва людзі, што прымаюць учасце ў беларускай літаратурнай працы". Парада надзвычай слушная. Даволі часта штосьці зусім непатрэбнае з рускай лексікі цяпер заносіцца ў беларускую мову нават самімі літаратарамі, журналістамі. Галоўным чынам, з-за дрэннага валодання ёю. Не сакрэт, што для развіцця любой мовы выключна важнае значэнне мае выкарыстанне яе ў сферы навуковай дзейнасці, бо менавіта тут ідзе стараннае "адточванне" не толькі кожнай фразы, але і кожнага слова.

У лістападзе 1926 года адбылася Акадэмічная канферэнцыя, прысвечаная рэформе беларускага правапісу і азбукі. Заўважым, да ўтварэння Беларускай акадэміі навук яшчэ больш як два гады, а ўжо згаданай канферэнцыі надалі статус акадэмічнай, што можа тлумачыцца глыбокім разуменнем ролі беларускай мовы для тагачаснай параўнальна ўсё яшчэ маладой савецкай рэспублікі.

Удзельнікі канферэнцыі ўнеслі прапановы па ўдакладненні роднай мовы. Самым вялікім пурытанінам у гэтым пытанні паказаў сябе Вацлаў Ластоўскі: "...наша старая і самабытная мова, дзякуючы сучаснай граматыцы і правапісу, якія зафіксавалі толькі асобнасьці канчаткаў слоў, а ў каранёх пакінулі расійскі правапіс, — выглядае правінцыяльным дыялектам расійскай мовы, а гэтае апошняе з'яўляецца перашкодай адраджэньню нашай пісьменнасьці... ня толькі ў слове, як зьмесьце народнай мысьлі, але і ў форме гэтага слова, у кожным паасобным гуку яго ці злучэньні гукаў — адбіваецца гісторыя народу. Дык трэба-ж дасягнуць таго, каб нашы словы, формы і гукі на пісьме былі адбіцьцём гісторыі нашай пісьменнасьці, гісторыі крыўскага (беларускага. — **Л. Л.**), а не расійскага ці польскага народаў, сярод моваў якіх наша пісьменная мова выглядае цяпер, як толькі правінцыяльная адмена..."

Гэту высакародную справу давялося спыніць, калі над палітыкай беларусізацыі згусціліся чорныя хмары і Савет Народных Камісараў БССР 26 жніўня 1933 года прыняў пастанову "Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу".

Дзейнасць Інстытута беларускай культуры праходзіла ў параўнальна спакойны ў палітычных адносінах час, у час буйнамаштабных нацыеўтваральных працэсаў. Гэта спрыяла працы яго супрацоўнікаў, якія зрабілі важкі ўнёсак у нацыянальна-культурнае адраджэнне Бацькаўшчыны. У самы пік яго Інбелкульт рэарганізавалі ў Беларускую акадэмію навук.

Нядаўна пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь утвораны і функцыянуе Інстытут беларускай культуры. Хацелася б пажадаць яго калектыву плённай працы на карысць нашай краіны.

Спадчына

# Каб не звёўся род чалавечы

**Унікальны абрад "Цягнуць Каляду на дуба", адноўлены ў 90-я гады мінулага стагоддзя ў вёсцы Новіна Бярэзінскага раёна, летась увайшоў у Дзяржаўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь. Гэта — найлепшае ўшанаванне памяці нашых продкаў і магчымасць захаваць калядныя традыцыі рэгіёна.**

**Мілана ТРАПЯНОК, фота Алены Громавай**

Пачалося ж усё з вучобы загадчыцы Новінскага СДК Ніны Клімовіч у Мінскім культасветвучылішчы, дзе яна атрымала заданне напісаць работу пра рэдкі народны абрад "Цягнуць Каляду на дуба". Некалі ён быў шырока распаўсюджаны амаль па ўсёй тэрыторыі раёна і з'яўляўся этнічнай адметнасцю тутэйшага насельніцтва. У суседніх рэгіёнах ён існаваў толькі на сумежжы. У савецкі час абрад быў забаронены ўладамі, але людзі адзначалі яго ўпотай. Таму не дзіўна, што з часам ад абраду засталіся толькі сумеснае застолле і назва.

— Памятаю з дзяцінства, што на дуба ў маёй роднай вёсцы Пуцькава цягнулі барану, — гаворыць жанчына. — Рабілі гэта вечарам, а потым была складчына, на якой дзеці не прысутнічалі, а гулялі толькі дарослыя.

Ніна Клімовіч падрыхтавала работу пра Каляды ў вёсцы Новіна і яе наваколлі. Пра абрад ужо ведаў і выкладчык Беларускага інстытута культуры Пётр Гуд. Ён назіраў яго ў 1984 годзе ў вёсцы Глухі Ток і прысвяціў яму артыкул у энцыклапедыі "Беларускі фальклор". Не пакінула раўнадушнай справа аднаўлення абраду "Цягнуць Каляду на дуба" і Ніну Клімовіч. Ёй як работніку культуры цікава было надаць другое жыццё старажытнай традыцыі, адрадзіць каляндны цыкл, у тым ліку і провады Каляд 21 студзеня. У 1998 годзе абрад цалкам аднавілі.

Кожны жыхар раёна ведае: "Цягнуць Каляду на дуба" азначае развітацца з каляднымі святамі, зладзіць з суседзямі і сябрамі добры абед з гульнямі, песнямі, скокамі, катаннем на санях і нязменнай забавай са сняжкамі. Так, у народзе лічылася: да абеду — Каляда, потым пара вяселляў, а затым і Масленіца.

Знайшліся ў раёне старыя людзі, якія памяталі, што цягнулі да дуба і да якога дуба. Прычым у кожнай вёсцы меліся свае атрыбуты і асаблівасці абраду. Адны казалі, што на санках сямейныя мужчыны цягнулі на дуб кола з сенам і гаршчок з куццёй. Па словах вяскоўцаў, гэта ратавала ад грому і спрыяла пасяленню буслоў. Іншыя сцвярджалі: гліняны гаршчок з куццёй разбівалі палкамі, калі цягнулі на дуба, ды так моцна, каб куцця разляцелася як мага далей — верная прыкмета багатага ўраджаю.

Дуб — свяшчэннае дрэва, якое нашы продкі лічылі дрэвам жыцця, сімвалам роду, ён злучаў жывых са светам памерлых. Ніжняя частка яго — карані — зона продкаў, уваход у царства смерці. Сярэдняя — наша жыццё. Верхняя сімвалізуе свет вечнасці, там жывуць душы продкаў і птушкі. Да дуба неслі кола — сімвал сонца, а таксама куль саломы ад вымалачанага зажыначнага снапка як увасабленне продкаў і кашу (куццю) на ахапку сена, як у гняздзечку — каб не звёўся род чалавечы.

Са слоў Галіны Федарэнчык з вёскі Новіны стала вядома: 21 студзеня, пасля двух тыдняў Каляд, было развітанне са святам. Зранку калядоўшчыкі хадзілі па вёсцы і спявалі святочныя песні. З сабой яны неслі Каляду ў выглядзе драўлянага кола, упрыгожанага чырвонай стужкай і снапком. Кола сімвалізавала сонца як крыніцу святла і цяпла.

Жыхарка вёскі Падваложка Таццяна Кіклевіч паведаміла пра адметную рысу свята. Каляда была ў выглядзе добра ўпрыгожанага снапа. Яго даручалі цягнуць на дуб самаму маладому і дужаму хлопцу, астатнія яму дапамагалі. Зацягнуўшы Каляду, яе спальвалі. Увесь гурт спяваў "Каляда, Калядзіца".

А вось Аляксандра Бурая з вёскі Падосава памятае: моладзь збіралася ў адной хаце. Накрывалі стол. У кутку ставілі ступу (Каляду), упрыгожвалі яе дзеразой і стужкамі.





Усе весяліліся. Пасля 12 гадзін ночы ішлі да дуба цягнуць Каляду. Па дарозе танцавалі і спявалі калядныя песні і прыпеўкі. Першай неслі ступу на руках самыя моцныя хлопцы, яе ставілі каля дуба і вадзілі карагод. Удзельнікі рытуалу былі апрануты ў цыганоў. Каля дуба гулялі, варажылі на ўраджай. Нагуляўшыся, моладзь разыходзілася, ступа ж вісела да ранку. Калі яна была каму патрэбна, яе здымалі, а калі не — вісела да будучых Каляд.

Ніна Асташонак з вёскі Паложына ўзгадвае: сталыя людзі 21 студзеня збіраліся ў адну хату. Гаспадары — галоўныя героі свята — запрашалі ўсіх частавацца. Асноўнай абрадавай стравай была куцця. Кожная гаспадыня павінна была адразу падняць свой гаршчок з кашай як мага вышэй, пры гэтым трэба было хваліць сваю ежу і прыгаворваць, што яна самая смачная. Той, хто рабіў гэта лепш за ўсіх і чыя каша была ўзнята вышэй за іншыя, аказваўся пераможцам.

У сучасным варыянце абрад "Цягнуць Каляду на дуба" святкуецца кожны год толькі ў вёсцы Новіна. Тут ён набыў свае характэрныя рысы і вельмі часта наладжваецца ў выглядзе свята вячорак альбо провадаў Каляд. 21 студзеня раніцай вяскоўцы збіраліся і ўпрыгожвалі куль саломы ад зажыначнага снапка, які прыносіўся ў хату перад першай каляднай куццёй і стаяў у чырвоным куце ўсё свята. З яго і рабілі абрадавую лялькy, якую апраналі ў жаночае адзенне. Звараную ў чыгунку альбо ў гліняным гаршчку куццю ставілі на сена ў рэшата, бралі старое кола ад воза ці барану і везлі на санях або на саначках да дуба, які стаяў адзінока ў полі альбо ў канцы вёскі. Старое кола і саламяную лялькy, калі яны захаваліся з мінулага года, скідвалі з дуба і падпальвалі, а на дуб усцягвалі новую лялькy або барану з куццёй. Спявалі абрадавыя песні, вадзілі карагод вакол дуба.

— Старажытны загадкавы абрад прыцягвае турыстаў, — распавяла Ніна Клімовіч, — і натхняе нас, культработнікаў, на творчы пошук і новыя экспедыцыі, якія ўзбагацяць культуру рэгіёна.

***На здымках: галоўная захавальніца абраду Ніна Клімовіч; вось так цягнуць на Бярэзіншчыне Каляду на дуба.***

Штрыхі жыцця

# «Песні» Пятра Бяссонава

**Прафесар Пётр Бяссонаў (1827 — 1898) быў выдатным даследчыкам славянскай "народнай песнятворчасці", фалькларыстам-падзвіжнікам, філолагам, гісторыкам, этнографам, музыказнаўцам, грамадскім дзеячам. Для беларускай культуры, яе стварэння і развіцця дзейнасць П. Бяссонава ўяўляе немалую цікавасць. Фактычна, менавіта ён першым сярод рускіх паставіў пытанне пра вывучэнне беларускай народнай творчасці.**

**Аляксандр КАПЛІН, доктар гістарычных навук, г. Харкаў**

Дзеля справядлівасці варта сказаць, што самым першым сярод рускіх асаблівасці беларускай гаворкі пачаў вывучаць К. Калайдовіч (1792 — 1832). Але яго дзейнасць была кароткатэрміновай (у 1825 яе перапыніла хвароба). У 1830-х гадах беларускія землі наведаў тады яшчэ малады, але ўжо знакаміты збіральнік фальклору П. Кірэеўскі (1808 — 1856). У яго "Беларускі архіў матэрыялаў" увайшлі напісаныя лацінкай народныя песні і розныя нататкі. Каб іх выдаць, патрабавалася шмат падрыхтоўчай працы. Сам Кірэеўскі не меў на гэта часу, бо рыхтаваў да друку рускія духоўныя вершы і песні. Акрамя таго, у гэтым не было зацікаўлена тагачаснае грамадства. Кірэеўскі перадаў "беларускі архіў" свайму вучню, выпускніку Маскоўскага ўніверсітэта Пятру Бяссонаву, у якога пазней нарадзілася думка пра выданне "Беларускіх песень".

Аднак даследчыкаў чакала шмат працы. Трэба было перапісаць песні кірыліцай, а каб пазбегнуць памылак, вывучыць жывую мову і народны побыт. Яшчэ пры жыцці Кірэеўскага Бяссонаў пад кіраўніцтвам настаўніка пачаў дапаўняць яго збор. У прыватнасці, адшукаў некалькі беларускіх рукапісаў. Асабліва каштоўным выглядаў той, які быў датаваны XVII стагоддзем і меў пры сабе ноты. Пасля смерці Кірэеўскага ў 1856 г. Бяссонаў уключыў у яго зборнік "Калики перехожие" шмат беларускіх духоўных вершаў.

Напрыканцы 1863 г. Пётр Аляксеевіч прапанаваў маскоўскаму Таварыству аматараў расійскай славеснасці выдаць свой "беларускі" зборнік, які ўключаў ужо 500 песень: як народных, вусных, так і дапоўненых са старых рукапісаў. Улічваючы вопыт і веды Бяссонава, выглядае невыпадковым той факт, што папячыцель Віленскай навучальнай акругі І. Карніловіч запрасіў яго ў Вільню. У студзені 1865 г. ён быў прызначаны дырэктарам рабінскага і іншых яўрэйскіх вучылішч, пасля — старшынёй Віленскай археаграфічнай камісіі, дырэктарам Віленскага рэальнага вучылішча і Віленскай класічнай гімназіі і выконваў абавязкі галоўнага загадчыка віленскага музея старажытнасцей і грамадскай бібліятэкі.

Таксама Бяссонаў падрыхтаваў у Вільні выданні мясцовых актаў Археаграфічнай камісіі, зрабіў агляд галоўных архіваў і манастырскіх, грамадскіх і прыватных бібліятэк у беларускім краі. Частку збораў апошніх, якія складалі 200 тысяч тамоў, Бяссонаў разабраў, каталагізаваў і зрабіў даступнымі для грамадства. Такая ж праца была здзейснена і ў дачыненні да капітульнага і епархіяльнага архіваў, што меліся пры рыма-каталіцкай кафедры ў Вільні. Сярод дасягненняў Бяссонава і выратаванне бібліятэкі Нарбута, якая была перададзена ў Віленскі музей.

З тымі ж мэтамі, што і ў Вільню, П. Бяссонаў быў камандзіраваны ў Варшаву. Тут ён склаў рэдкі ўласны збор польскіх "кантычак" (духоўных вершаў) і напісаў пра іх бібліяграфічнае і філалагічнае даследаванне.

Бяссонаў правёў вялікую працу па вывучэнні беларускай "гаворкі". Падрабязнае знаёмства з мінуўшчынай, народным побытам і мясцовымі (у значнай ступені польскімі) даследаваннямі дазволілі яму яшчэ больш абгрунтаваць уласны погляд на становішча беларусаў. Збор народных песень падчас знаходжання Бяссонава ў краі істотна павялічыўся. У працы даследчыку дапамагалі немцы, яўрэі, палякі.

У далейшым выданне Пятра Аляксеевіча абмежавалася толькі адным выпускам, які меў назву "Беларускія песні з падрабязнымі тлумачэннямі іх творчасці і мовы, з нарысамі народнага абраду, звычаю і ўсяго побыту" (выдадзены ў Маскве ў 1871 г.). Ён змяшчаў грунтоўныя ўводзіны і пасляслоўе. Асноўная частка ўключала песні на Вялікдзень, на святога Юр'я, Міколу, на Пятроўкі, купальныя, валачобныя, калядныя, на Масленіцу. Да розных раздзелаў песень былі далучаны тлумачэнні звычаяў. Нагул, праца Бяссонава была прысвечана народу, які, паводле глыбокага пераканання даследчыка, "заўсёды нязменны, асноўны і карэнны дзеяч усялякай гісторыі".



Зміцер Арцюх

* * *

*Навучыцца па-іншаму жыць —*
*Не змагацца з прызначаным лёсам.*
*А інакш — мы наклічам дажджы*
*З незагойнае раны нябёсаў;*
*Ці ў змаганні мы проста згарым*
*І забудзем пра шлях да збавення;*
*Ці сваё стане раптам чужым,*
*Прадамо за капейку сумленне.*
*Ці забудзем, што грошы — вада*
*І зямля, як ваду, іх прымае.*
*А душа?*
*Там без Бога расце лебяда.*
*Лебядою душа зарастае.*

*Мы павінны па-іншаму жыць.*

* * *

*Белы космас…*
*Зорак хаатычнасць…*
*Пазіраю ў неба праз акно —*
*І сняжынак суперартыстычнасць*
*Сыпле на мантаж сваё кіно.*

*А сюжэт надзіва фантастычны —*
*Пра жыццё галактыкі Вясна.*
*Той, дзе сонца, — жаўтаваты клічнік;*
*Той, дзе месяц, — з келіхам віна.*

*Там зусім не снежна, не марозна.*
*Там жыццё спакойнае цячэ.*
*І туды, вядома ж, трапіць можна.*
*Толькі тут патрэбны я яшчэ.*

* * *

*З неба падалі вершы*
*На парванай паперы.*
*Да зямлі даляцеўшы,*
*Снегам сталі яны.*
*Танцавалі ў паветры*
*З ветрам вечарам шэрым*
*Несустрэтай вясны.*
*І знікалі ў абдымках,*
*І здаваліся казкай*
*Ліхтароў перамовы,*
*Гарадскія машыны*
*Свой складалі сюжэт…*
*З неба падалі вершы*
*І паэта прасілі*
*Падабраць на асфальце*
*Нечаканы санет.*

## Памылка

*Зіма не хоча быць забытай.*
*Яна вяртаецца.*
*І снег,*
*Нясмелым днём вясны прыбіты,*
*Марудзіць ход жыцця…*
*Я збег*
*Ад гэтага змагання з лёсам*
*Туды, дзе я, дзе толькі сны.*
*Мне на імгненне падалося:*
*“Яшчэ далёка да вясны”.*
*Але ізноў я памыліўся,*
*Бо чую ў сэрцы недавер.*

*Ізноў з прамой дарогі збіўся,*
*І — сорамна да слёз цяпер.*

## Два вершы ад Адама

*1.*
*А вы паслухайце мяне:*
*Я нарадзіўся на Выгодзе*
*У той заснежанай карчме,*
*Што на Палужскі тракт выходзіць.*

*На кнізе пупавіну там*
*Мне перарэзалі старанна,*
*І я прыйшоў на зло вятрам,*
*Каб беларускім стаць Адамам.*

*Тады не Беларусь — Літва —*
*Мне напрарочыла выгнанне,*
*Кароткі лёс, і без цяпла*
*Зямнога, простага кахання,*

*Якое да сканчэння дзён*
*Насію у сэрцы чалавечым.*

*…Я захаваў твой медальён*
*Як сімвал незямной сустрэчы.*

*2.*
*Была ў жыцці Марыля Верашчака.*
*Адзінаю, каханаю была.*
*І не магла з Путкамерам не плакаць,*
*Бо думкай пра мяне яна жыла.*

*І я не мог з Цэлінаю растаць,*
*І жыць не мог, пісаць не мог,*
*А жыў.*
*Я пакаранне — па Зямлі бадзяцца —*
*Зусім нядаўна ў Бога адслужыў.*

*З вандровак я вярнуўся на Радзіму,*
*Дзе мой спакой, дзе зноў яе сустрэў,*
*І сапраўды пачуў: “Ты мой адзіны.*
*Чакала я. І вось — ты прыляцеў…”*

## Чантарэі

*Заснежаныя дрэвы ў Чантарэях*
*Маўкліва спяць.*
*Ім сняцца цуда-сны,*
*Што зноў вясна разбудзіць і сагрэе,*
*Што стануць зноў зялёнымі яны.*
*Ад белай пражы нітка застанецца*
*Вады жывой,*
*Што ў Рутку пацячэ.*
*Яна вытоку рэчкі дакранецца*
*І дружак новых сабярэ яшчэ.*
*І курс на Нёман выбера імклівы,*
*Каб зноў вярнуцца снегам на зямлю,*
*Каб дрэвы ў Чантарэях*
*Гаманлівых*
*Пачулі ад вясны:*
*“Я вас люблю!”*



Вольга Норына

* * *

*Пахаванні часцей, а вяселлі здараюцца зрэдку*
*У радні нашай слыннай,*
*што мкнецца праз вір перамен.*
*Ад сялянаў пайшлі мовазнаўцы,*
*вайскоўцы, паэты,*
*І адзін за адным нарадзіўся вялікі спартсмен.*
*Выключэнняў няма: і святыя былі, і вар’яты,*
*І далёка не кожнаму шэнціла стаць на крыло,*
*І гарэлі ў вайну, і, здаралася, плакалі ў святы,*
*Толькі здраднікаў,*
*дзякаваць Богу, у нас не было.*
*Хіба можна ў жыцці*
*паваротку прадбачыць зараней?*
*Хіба можна пакінуць аўто і пайсці пехатой?*
*Я шукала адказу, я ставіла лёсу пытанні,*
*Ды на мове, відаць, пастаянна зусім не на той.*

## Зімовы парк

*Прыхаваныя жарсці шматкі*
*Драпіроўкай бялюткаю сцэны,*
*І не бачна, як сэрца ракі*
*Хвалі пругкія гоніць па венах.*

*Мост — бы здзіўленых вуснаў авал,*
*Снег атласам іскрыцца здалёку.*
*Прарываюцца словы, як шквал,*
*На мелодыю зладжаных крокаў...*

*Бездакорнасць куліс нездарма.*
*Строгай графікі ліній пячатка.*
*Спакушае ізноўку зіма*
*Нашу п’есу паставіць спачатку.*

* * *

*Бездань мёртвых надзей,*
*процьму ў садзе ападкаў,*
*Неба птахаў прымоўклых,*
*прытушаных зор*
*Жнівень вераснью*
*сёння прайграў да астатку.*
*Развітальны гарыць, палымнее касцёр.*

*І бясконцыя ліўні*
*Павіслі ад рання.*
*І распята душа*
*На крыжы скрыжавання.*

* * *

Алене

*Вядзеш урокі кройкі і шыцця,*
*А вучыш веру не губляць і мроі,*
*Што можна перайначыць бег жыцця*
*І нат жыццё нанова перакроіць.*

*Праявіцца адвечны лёсу рух,*
*Калі ў тваім убачу падарунку*
*Сучаснае — і колішняга дух:*
*У моднай рэчы бабчыны карункі.*

*І ў кроснах дзён — святочныя ніты,*
*І спакваля прыходзіць разуменне,*
*Што гэты свет трымаюць тры кіты:*
*Любоў жанчыны, мудрасць і цярпенне.*

*Вядзеш урокі кройкі і шыцця,*
*Не выпраўляеш глупства ў стосах сшыткаў,*
*Ды адчуваю сэнс свайго жыцця,*
*Пакуль у іголку пападае нітка.*

## Стары горад

*Прашу, вярні аднойчы мне, вясна,*
*Амаль бязлюдны вузенькі завулак,*
*Акно расчыніш — пах салодкіх булак*
*Даносіць вецер. Музыка чутна:*

*Царкоўны звон і партыя вакалу.*
*Трымціць акно фіранкамі з паркалю.*
*Развозілі адно не да відна*
*Карэты кавалькадай пасля балю.*

*Прымроіцца праз плойму цьмяных лет,*
*Калі заплюшчыш вочы летуценна,*
*Уборы старадаўнія, і сцэна,*
*І на цвіку сярэбраным партрэт.*

*І, ўсцешаная, слухаеш, і плечы*
*Ахутвае ліловы дзіўны вечар...*



Фота Кастуся Дробава



Святлана Захарэвіч

## Пад ветразем замілавання

*Ці ёсць на свеце нешта прыгажэй,*
*Чым сонечны, у роднай вёсцы, ранак,*
*Калі выходжу я пад скрып дзвярэй*
*На любы сэрцу наш старэнькі ганак.*

*Замілавання ветразь калыхне*
*І паплыве ў дзівосныя абшары,*
*У карабель збяруцца да мяне*
*Усе мае няздзейсненыя мары.*

*Чаруе зверху песня жаўрука,*
*Мелодыя любові з неба льецца.*
*Здаецца, што матуліна рука*
*Да галавы маёй лагодна дакранецца.*

*Так лёгка мне, нічога не шкада,*
*Усёй душой такому рада дару,*
*Як быццам ні журбота, ні бяда*
*Ніколі не кранаді майго твару.*

## Роднаму краю

*Люблю я мора, пальмы і пясок,*
*Але свой край*
*мілей за ўсё на свеце,*
*Калі вясна ў бярозах гоніць сок*
*І промень сонца*
*праз галіны свеціць.*

*Люблю рачулку ціхую сваю,*
*Што сарамліва між ракіт уецца,*
*Калі тут сум і боль душы гаю,*
*І пошчак салаўя над ёй ліецца.*

*Даруй жа мне ты,*
*любы краю мой,*
*Што споведзі маёй не чуў ніколі,*

*Але ж цябе люблю я ўсёй душой*
*І для цябе жадаю лепшай долі.*

*Даруй, Радзіма, што я больш маўчу,*
*Хоць рупіць лёс гісторыі і мовы,*
*Павер: табе сказаць усё ж хачу*
*Удзячныя свае ад сэрца словы.*

## Споведзь

*Хай будзе так:*
*Цябе я ўсё ж забуду,*
*Не буду ў крыўдзе*
*Давідна не спаць,*
*І вершы пра цябе*
*Складаць не буду,*
*Не буду больш*
*Сустрэч з табой чакаць.*
*Хай будзе так!*
*Але ж не думаць думу*
*Я пра цябе*
*Ніколі не змагу,*
*Як не змагу прагнаць*
*Ад сэрца суму,*
*І не здалець*
*Мне горкую тугу.*

# Душан Джурышыч: «Беларусь відаць і з Падгорыцы…»

Кастусь ХАДЫКА,
Падгорыца — Мінск

**З Душанам Джурышычам мяне пазнаёмілі чарнагорскі паэт Слабадан Вуканавіч, часты госць на Беларусі, ды народны пісьменнік Удмурціі Вячаслаў Ар-Сяргі, які ў многіх лістах з Іжэўска не прамінаў расказваць пра стасункі удмурцкага мастацкага пісьменства з чарнагорскім. Так і сабраліся падставы, каб пагутарыць з не чужым беларускай літаратуры пісьменнікам.**

**— Душан, як вы пазнаёміліся з беларускай літаратурай? Што сталася першай нагодай для многіх вашых перакладаў з беларускай на чарнагорскую?**

— Было гэта яшчэ ў 1974 годзе… Мамчыла Джэркавіч і Радаслаў Пайкавіч надрукавалі калекцыю песень "Беларускія бярозы" аднаго з самых геніяльных беларускіх паэтаў Аркадзя Куляшова. Чытанне тых радкоў стала маёй першай сустрэчай з Беларуссю. Сустрэча пераўтварылася ў радаснае адкрыццё: часта сабе пачаў паўтараць, што, мауляў, у невядомай мне і далёкай ад Чарнагорыі краіне ёсць вартыя захаплення паэты! І што самае галоўнае — блізкія мне па эстэтычных, мастацкіх зацікаўленнях. А ў 1986 годзе Мамчыла Джэркавіч надрукаваў зборнік Максіма Танка "Перапіска з часам". Паступова я пачаў пільна ўглядацца ў беларускую паэзію. Таксама пераклаў шэраг твораў Максіма Танка, але ўжо тыя вершы, якія адрасаваны маленькаму чытачу. Зацікавіла мяне і паэзія Валянціна Лукшы. Пераклады твораў згаданых майстроў з'явіліся ў чарнагорскіх маладзёжных газетах і часопісах. А зусім нядаўна — і ў весніку "Новыя сустрэчы". У часопісе "Quest" (Падгорыца) надрукаваны вершы Міколы Мятліцкага і Алеся Бадака ў маім перакладзе.

**— Хто і што дапамагае вам рабіць перакладчыцкі выбар?**

— Мой добры дарадца — Слабадан Вуканавіч. Яго веданне Беларусі, беларускай літаратуры ўражвае. А ў лютым 2011 года давялося пабываць яшчэ і ў Маскве. Шкадую, што не даехаў да Мінска. Там, у расійскай сталіцы, сустракаўся і з другім добрым сябрам беларускай літаратуры — Вячаславам Ар-Сяргі. Ён нагрузіў мяне многімі тэкстамі, расказаў шмат пра каго з беларусаў. З такой жа павагай пра сучасную беларускую паэзію мы размаўлялі і з Барысам Лукіным. Тут, праўда, ёсць фактар, што стрымлівае. Не ведаючы беларускай мовы, я перакладаю з рускай. А апошнім часам не так шмат і друкуецца па-руску перакладаў беларускай паэзіі, як мне падаецца.

**— Сапраўды. Раней праз рускую мову адкрывалі ў свеце многіх беларускіх паэтаў…**

— Сёння патрэбны стасункі новага ўзроўню. Чаму б не наладжваць непасрэдныя масты з Беларусі ў Чарнагорыю? У мяне даўно спее задума зрабіць анталогію беларускай дзіцячай літаратуры на чарнагорскай мове. Спадзяюся, што беларусы дапамогуць зрабіць падрадкоўнікі на рускую мову…

> **Візітка**
> *Душан Джурышыч нарадзіўся 19 чэрвеня 1932 года ў вёсцы Градзінне каля Царыброда ў Сербіі. Закончыў студыю югаслаўянскіх літаратур на філасофскім факультэце ў Скоп'і. Цяпер — прэзідэнт Саюза чарнагорскіх дзіцячых пісьменнікаў і Саюза літаратурных перакладчыкаў Чарнагорыі, сябра Чарнагорскага таварыства незалежных пісьменнікаў. Галоўны рэдактар весніка літаратурных перакладчыкаў "Новыя сустрэчы". А галоўнае — паэт, празаік, крытык, перакладчык, сатырык, выдавец. За свае здабыткі ў літаратуры адзначаны болей як 40 чарнагорскімі і міжнароднымі прэміямі. Акрамя сваіх 20 арыгінальных кніг выдаў 24 кнігі перакладаў, склаў некалькі перакладных анталогій. Творы Душана Джурышыча перакладзены больш як на 40 моў народаў свету. Часта перавыдаецца ў Чарнагорыі і ў іншых краінах яго кніга, адрасаваная дзецям, "Вялікі капітан" (упершыню пабачыла свет у 1964 годзе). Жыве і працуе Душан у Чурыоце каля Данілаўграда і ў Падгорыцы — сталіцы Чарнагорыі.*

**— Што новага, на ваш погляд, у апошнія гады прыўнесена ў літаратуру Чарнагорыі перакладчыкамі з беларускай?**

— Нам хацелася б, каб было прыўнесена, дзеля гэтага мы працуем. Але пашырэнню прасторы не спрыяе тое, што здарылася з друкаваным словам у апошнія паўтара — два дзесяцігоддзі. Тыражы літаратурных часопісаў вельмі нізкія. "Новыя сустрэчы" выходзяць накладам 2000, часцей — 1000 асобнікаў. Кнігі — ад 500 да 1000 экзэмпляраў. Але нельга сказаць, што пераклады выдаём для саміх жа перакладчыкаў. Як і раней, пераклады са славянскіх літаратур, у тым ліку і славянскай паэзіі, чытаюць. Толькі інтарэс зменшыўся ў прапорцыях, як да кніг ў цэлым.

**— Уолт Уітмен неяк сказаў: "Каб мець вялікіх паэтаў, патрэбна таксама і вялікая аўдыторыя…" Наколькі ўсё ж вялікая аўдыторыя ў вашых перакладаў з беларускай, іншых славянскіх літаратур?**

— Перакладчыкі — самыя самаахвярныя стваральнікі, самыя адважныя мастакі слова. Бо яны іншым дораць свае творчыя здольнасці, дасягненні, а самі заўжды застаюцца ў ценю тых яркіх асоб, за пераўвасабленне чыіх твораў яны бяруцца. Перакладчыкі — бы тая зіхатлівая вясёлка, якая звязвае дзве культурныя, літаратурныя, моўныя прасторы. Вясёлка-мост, па якой следам за перакладчыкам пяройдуць да новага і чытачы. Хіба ж гэта не высокая мэта — азнаямленне і збліжэнне духоўных гарызонтаў, узбагачэнне такім чынам свайго, уласнага, таго, што нашы народы перададуць у спадчыну наступнікам?! Я яшчэ параўнаў бы перакладчыкаў з садоўнікамі, якія выбіраюць прыгожыя кветкі і перасаджваюць у свой паэтычны сад, робяць гэта на тое, каб свет стаў цікавейшым і прыгажэйшым.

> *Перакладчыкі — самыя самаахвярныя стваральнікі, самыя адважныя мастакі слова. Бо яны іншым дораць свае творчыя здольнасці, дасягненні, а самі заўжды застаюцца ў ценю тых яркіх асоб, за пераўвасабленне чыіх твораў яны бяруцца. Перакладчыкі — бы тая зіхатлівая вясёлка, якая звязвае дзве культурныя, літаратурныя, моўныя прасторы.*

Так што, спадзяюся, аўдыторыя — гэта не толькі чытачы з сёння, а яшчэ і тыя, для каго мастацкае слова застанецца і на заўтра.

**— "Чытанне кніг — гэта толькі пачатак справы. Творчасць жыцця — вось мэта", як сказаў М. Рубакін. Якія мэты вы асабіста прапаведуеце, звяртаючыся да перакладчыцкай працы?**

— У некаторай ступені я ўжо адказаў на гэта пытанне. А калі гаварыць пра пэўныя здабыткі, то, здаецца, зроблена не так і мала. Шмат гадоў я перакладаў вершы і апавяданні рускіх пісьменнікаў, адрасаваныя дзецям і моладзі. Друкаваў гэтыя пераклады ў перыёдыцы былых югаслаўскіх рэспублік, а па сённяшнім часе ў незалежных краінах — Чарнагорыі, Сербіі, Босніі і Герцагавіне, Харватыі. У розных анталогіях, зборніках, дапаможніках. Як некаторы плён такой работы — і два вялікія зборнікі вершаў і апавяданняў рускіх пісьменнікаў. У Цітаградзе выйшла падрыхтаваная мной анталогія армянскай дзіцячай паэзіі. У 1990-м — зборнік 16 мангольскіх аўтараў "Вясёлка над стэпам". Асаблівае задавальненне мне прынесла кніга песень татарскага дзіцячага паэта Роберта Мінуліна "Што самае патрэбнае ў свеце" (яна выдадзена ў 2010 годзе ў Падгорыцы). А яшчэ як перакладчык працаваў над увасабленнем на чарнагорскай мове вершаў і песень грузінскіх, туркменскіх, латышскіх, эстонскіх, башкірскіх, казахскіх і кіргізскіх паэтаў. Лічу, што такім шляхам я не толькі ўзбагачаў свой свет, але і для дзяцей адкрываў нешта новае, пашыраў межы іх жыццёвых уяўленняў.

Некаторая частка маіх перакладчыцкіх пошукаў звязана з класікай. Але ў большай ступені працую з творамі сучаснікаў ці тых аўтараў, хто яшчэ параўнальна нядаўна працаваў у нацыянальных дзіцячых літаратурах. Ганаруся тым, што пэўную частку жыцця прысвяціў сумоўю з Пушкіным, Лермантавым, Маршаком. З цікавасцю адкрываў новыя вершы Сяргея Барузздзіна, Сільвы Капуцікян, Аванеса Туманяна, Вячаслава Ар-Сяргі. Спадзяюся яшчэ і на новыя адкрыцці ў знаёмстве з беларускай дзіцячай літаратурай. Для мяне Беларусь і сёння відаць з Падгорыцы!.. Наша краіна невялікая, але чарнагорцы вельмі ўпарта захоўваюць свае нацыянальныя прыярытэты. Чаго жадаем і беларускім пісьменнікам!

## У падтрымку чытання



# Рэжысёр Аляксандр Анісімаў: Збор твораў Чэхава — за канікулы

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

— Чэхаў перавярнуў маё жыццё. Калі быў класе ў сёмым, бацька падарыў сямнаццацітомны збор яго твораў. Мы заключылі пары, што я ўсё гэта прачытаю за лета. Я настолькі захапіўся манерай чэхаўскага пісьма, што прачытаў яшчэ хутчэй — літаральна за паўтара месяца, уключаючы тамы перапіскі. З таго часу гэта адзін з маіх любімых аўтараў. Як і Леў Талстой.

З сучасных аўтараў, якія падабаюцца, назаву Людмілу Уліцкую. Ёсць у яе апавяданні чэхаўскага плана. Мне здаецца, на пабудову яе матэрыялу аказала вялікі ўплыў менавіта творчасць Чэхава.

Канчатковае фарміраванне сябе як чытача адношу да гадоў студэнцтва. Помню, тады моцна ўразіла кніга С. Львова "Грамадзянін Горада Сонца. Аповесць пра Тамаза Кампанэлу".

З апошняга прачытанага выдзелю кнігу пра майго настаўніка Ілью Кургана. Прачытаў — і атрымаў такую асаладу, якую даўно ад літаратуры не атрымліваў. Аўтар выдання "Залаты голас Беларусі — Ілья Курган" — былая студэнтка Ільі Львовіча Дэльфіна. Яна вытрымала меру: у кнізе вельмі мала яе і дастаткова настаўніка. Вераgodна, яна пісала маналогі на дыктафон: яго ўспаміны пра дзяцінства, юнацтва. У кнігу ўвайшлі і добрыя словы пра І. Кургана выбітных дзеячаў культуры Беларусі.

*На здымку: рэжысёр А. Анісімаў з сынам Глебам.*




# Адна ноч у санаторыі

## Апавяданне

Андрэй адразу незалюбіў Паула Кавалёва, свайго суседа па пакоі, мажнога, гарбаносага, з рэдкімі, жоўтымі ад курыва зубамі мужчыну. Пяцьдзясят гадоў яму ўжо стукнула, лічы, паўвека пражыў, а розуму не набыў; як кажуць, сівізна ў бараду — чорт у рабрыну. У першы ж вечар прывёў ён у пакой адразу дзвюх жанчын. Адну зусім маладзенькую, гадоў каля 20, статную такую, чарнавокую, з доўгімі, да самых плячэй, каштанавымі валасамі. Другую — старэйшую, невысокую ростам, пышнагрудую.

— Во, пазнаёмся, Андрэй, са Светай, — сказаў тады яму Кавалёў і кіўнуў на чарнавочку, правёў рукой па чорнай кучаравай чупрыне, прайшоўся туды-сюды па пакоі, аж зарыпелі пад яго грузным целам масніцы. — Гэта маладым людзям не зашкодзіць, праўда, Эліза?

— Праўда, — засмяялася Эліза.

Андрэй пачырванеў, як школьнік, пакінуў іх і пайшоў на пошту, каб пагаварыць па тэлефоне з сястрою. Калі вярнуўся, дык убачыў на стале амаль парожнюю каньячную бутэльку і палавіну шакаладкі. Эліза сядзела побач з Кавалёвым, абняўшы яго, пазіраючы на яго аддана і ласкава. Света курыла цыгарэту, пускаючы ўгору сівыя колцы дыму. Усе ўжо былі на падпітку.

Андрэй паціснуўся да дзвярэй, але яго не пусцілі. Выскачыў з-за стала Кавалёў, падхапіліся Света з Элізаю і сілком пасадзілі за стол.

— Штосьці ў горле драпачыць, драпачыць, трэба яго прамачыць, — праспявала Эліза.

Кавалёў наліў у шклянкі каньяку, але Андрэй піць адмовіўся. Ён і раней прымаў гэта зелле рады ў гады.

— Ёлкі-палкі! Ты мужык ці баба ў штанах? — незадаволена стукнула яго ў бок локцем Света.

Давялося выпіць разам з усімі. Эліза зноў ашчаперыла Кавалёва за шыю, але той скінуў яе руку, дастаў з тумбачкі бутэльку "Сталічнай".

— Цітавіч, я не хачу, хопіць мне, — папрасіў Андрэй і накрыў далоняй сваю шклянку.

— Нічога не хочацца толькі нябожчыку і смажанаму шчупаку, — сказаў як адрэзаў Кавалёў, вызваліў з-пад рукі Андрэя шклянку і наліў яму першаму.

Выпілі. Кавалёў шторазу выціраў хусцінкай потны твар, потым нешта шапнуў Элізе на вуха, і яны падняліся з-за стала. Эліза забрала з тумбачкі сваю сумачку.

— Андрэй, куй жалеза, пакуль гарачае, — шапнуў Кавалёў, падміргнуў і выкаціўся следам за Элізай з пакоя. Света як сядзела, так і засталася сядзець за сталом.

— А ты? — звярнуўся да яе Андрэй. — Позна ўжо...

Света акінула яго глыбокім позіркам цёмных вачэй.

— Не ведаю нават, што і рабіць... Эліза Кавалёва да сябе павяла. Мне няма куды падзецца.

Нейкі час у пакоі стаяла цішыня.

— Такой бяды, — першы схамянуўся Андрэй. — Начуй тут на здароўе, Кавалёва ложак незаняты.

Света падышла да ложка і зняла з сябе модную, у вішанькі, ружовую кофтачку. Андрэй пстрыкнуў выключальнікам. У святле месяца добра было відаць, як да яе танклявага стану, нібы пасля дажджу, туга прыліпла лёгкая паркалёвая сукенка. Андрэй на міг спыніў позірк на грудзях Светы, высокіх, пекных, і адчуў, як зашчымела ў сэрцы. Ён дастаў цыгарэту і выйшаў на балкон.

Месяц час ад часу хаваўся за хмарамі, і тады наўкола стаяла цёмная, як дзёгаць, сцяна. Грому чуваць не было, толькі ў кронах дрэў лёгка шапацеў дожджык ды дзесьці далёка за рэчкай брахаў сабака. Андрэй скурыў адну цыгарэту, дастаў і прыпаліў другую.

Ужо і неба ад хмар ачысцілася, дожджык сціх, і ўсё як анямела — ні гуку, адно маланкі на небасхіле зрэдку бліскалі, а ён усё стаяў і прасіў Бога, каб хутчэй наступіла раніца. Яму не хацелася вяртацца ў пакой, да Светы. Ён ужо шкадаваў, што дазволіў дзяўчыне застацца тут. А што, калі так здарыцца, і яна зноў, як нажом, паласне па сэрцы, скажа, што ён не мужчына, а баба ў штанах? Гэта думка палохала яго. Пасля Афганістана ён толькі тое і рабіў, што стараўся быць падалей ад жанчын, як мог пазбягаў іх, а тут такое суседства.

Андрэй у трэці раз дастаў цыгарэту.

— Заснуў там, ці што? — пачуўся голас Светы.

Ён сцяўся ўвесь. Моцна затахкала ў грудзях сэрца.

— Чаго маўчыш? — не сунімалася дзяўчына. — Я таксама спаць хачу.

Андрэй нехаця скрануўся з месца. Света і сапраўды не спала. Сядзела на ложку, падкурчыўшы пад сябе ногі, і перабірала пальцамі валасы.

— Андрэй, баішся мяне? — ціхім голасам, які збіваўся на шэпт, спытала яна.

— Чаго мне баяцца? Хіба ты кусаешся?

— Вядома, не.

— Тады спаць, спаць...

Андрэй, не распранаючыся, лёг на ложак тварам да сцяны. Праз нейкі час Света засмяялася, заварушылася. Андрэй павярнуўся і ўбачыў, што яна і не думае класціся спаць. Сядзіць у ранейшай позе, толькі вочы, бы светлячкі, свецяцца мігатлівымі агеньчыкамі. Срэбныя промні месячыка, якія цадзіліся праз акно, распасціраліся на падлозе, лашчылі круглыя каленкі дзяўчыны, празрыстым туманам, нібы вэлюмам, аблямоўвалі яе пышныя густыя валасы.

— Андрэй, раскажы мне казку, а то не засну, — раптам папрасіла Света.

— Не, казкі не раскажу, не ўмею. Раскажы ты мне лепш. Напрыклад, пра Кавалёва, Элізу? Адкуль ты яе ведаеш?

— Начальніца мая. Я на цагельным заводзе бухгалтарам працую, а яна — галоўным.

— Во яно што! — здзівіўся Андрэй. — А калі яна паспела з ім пазнаёміцца?

Света выпрастала ногі, стоена ўсміхнулася.

— Даўно, мусіць, гадоў пяць ужо. І ў санаторый кожны год, як павязаныя, едуць. А Кавалёў... Ён таксама з намі на цагельным працуе, механікам. Ужо дачок замуж пааддаваў, а да Элізы як магнітам яго цягне.

— А Эліза не замужам?

— Замужам. Муж у сельпо працуе, абыходлівы, уважлівы да яе. А яна як здурэла.

— Ну і кампанія ў цябе! Не пазайздросціш.

— Я з імі першы раз у санаторый прыехала, думаю, хоць развеюся крыху, забудуся. Кажуць, кожны чалавек свайго шчасця каваль. А яно, гэта шчасце, як вецер...

Голас у Светы затрымцеў, і Андрэю падалося, што яна зараз заплача.

— У цябе бяда якая?

— Мужа два гады назад пахавала, Сярожку. У міліцэйскай школе вучыўся. Потым няшчасны выпадак...

Света шмарганула носам і сцішылася.

Маўчаў і Андрэй. Ён мружыў вочы, але сон ніяк не прыходзіў. Нечакана ён адчуў на сваіх грудзях маленькую цёплую Свеціну руку і здрыгануўся.

— Андрэй, усё роўна Эліза не паверыць, што нічога не было, сарокаю разнясе. Ведаю яе. Дый па ласцы я засумавала. Усяго тры месяцы і пажыла з Сяргеем сваім. Хіба ж я не чалавек?

Андрэй адштурхнуў ад сябе Свету і выскачыў зноў на балкон. Дзяўчына не чакала гэтага. Яна закрыла рукамі твар, прысела на ложак і моцна заплакала.

Андрэй скрыгатнуў зубамі. Як бы ён мілаваў гэтую чарнавочку, лашчыў яе, такую добрую, без аніякай хітрасці жанчыну. Але забудзь, Андрэй, пра гэта, назаўсёды забудзь, да самага скону твайго. Ты ж ведаеш цяпер, што жанчыны для цябе — ахілесава пята. Дык навошта тады кіпяцішча, рваць сабе апошнія нервы. Адно тут лякарства — узяць сябе ў рукі. Андрэй расціснуў скамянелыя кулакі, узяў з падаконніка пачак з цыгарэтамі, закурыў.

Ён да кашлю зацягнуўся цыгарэтай, стаяў і чуў, як плакала Света, у яго ў самога нагортваліся на вочы слёзы, шчымела сэрца, ён хацеў вярнуцца да яе, прызнацца ва ўсім, але на гэта не хапала адвагі. Іншая справа — у Афганістане. Адвагі там у яго было хоць адбаўляй, нават на двух хапіла б. А тут, перад жанчынай...

Думкі перанеслі Андрэя ў тую далёкую краіну, якую яны, салдаты, называлі скарочана — Афган, у якой яму давялося ваяваць ад званка да званка, лічы, усе два гады.

У запісным блакноціку Андрэя заставаліся незакрэсленымі дзесяць крыжыкаў, а гэта значыла, што да дэмбеля хлопцу было ўсяго дзесяць дзён. Ён ужо і чамадан падрыхтаваў, а Яніне, сваёй дзяўчыне, набыў падарунак... Як ноччу іх падраздзяленне паднялі па трывозе: на дыспетчарскі пост напалі душманы.

На паўдарозе з пячор абрынуўся на іх шквальны агонь гранатамётаў. Загарэўся адзін, другі бронетранспарцёр. Душманы як усё роўна чакалі іх. Тузанулася і застыла на месцы, пахілілася на бок трэцяя машына, і адразу ж яе ахапіла полымя. З машыны выкаціўся Лявон Налівайка, сяржант, але тут жа скурчыўся і застыў. Андрэй падпоўз да яго. У Лявона каля вуха нацякло крыві, левая рука на адной скуры трымаецца, але дыхае яшчэ сяржант. Андрэй пацягнуў Налівайку да свайго бронетранспарцёра, хацеў праз ніжні люк зацягнуць, але раптам Андрэя па нагах стукнула, ды так, што цёмна стала ў вачах, і ён сам асунуўся на зямлю побач з Налівайкам.

У тым баі душманы іх добра пакалашмацілі. На дыспетчарскі пост прарвалася ўсяго пяць бронетранспарцёраў з дзевяці, а Андрэевым сябрам — Лявону Налівайку з Львова, Ігару Шапуцьку з Чарнігава, Паўлу Іваніцкаму з Рыгі, Мішу Тулімчыку з Брэста, Міколу Пракопчыку з Магілёва, Патапу Беламу і Жэню Ярашэвічу з Мінска, Язэпу Гурыновічу з Нясвіжа, якім да дэмбеля таксама заставаліся лічаныя дні, ужо не трэба было пакаваць чамаданы. Іх павезлі дамоў у цынкавых трунах.

Пасля таго бою Андрэй месяц праляжаў у шпіталі. З яго нагі дактары дасталі два асколкі, і ўсё было б добра, калі б... Трэці асколак трапіў Андрэю ў такое месца... Да якіх толькі дактароў ён не звяртаўся са сваёй бядою, але дапамагчы ніхто не змог. Яніне папярок дарогі станавіцца не стаў. З'ехаў з гарадка назаўсёды, хоць сэрца яго і цяпер абліваецца крывёю, а душа знясілена, як у дзеда старога.

Пачынала шарэць. За лесам, адкуль збіралася паказацца на свет сонца, пахарашэла, прыбралася ў апельсінны колер неба. Андрэй прыкурыў апошнюю цыгарэту і моцна закашляўся.

— Чаму не спіш цэлую ноч?

Андрэй павярнуўся на голас. На суседнім балконе стаяў у майцы мужчына. Андрэй прамаўчаў. У гэты час на балкон у блакітным пеньюары высунулася жанчына. Мужчына сказаў ёй, паказваючы на Андрэя:

— Маладайку да сябе прывёў, а тая не давалася, усю ноч плакала. Вось і не спіць, бугай.

Жанчына зарагатала. Андрэй спалатнеў, павярнуўся і моўчкі падаўся ў пакой. Света, прыцмокваючы, моцна спала. На стале стаяла недапітая бутэлька. Наліў амаль поўную шклянку і выпіў. Потым адламаў маленькі кавалак шакаладкі, укінуў у рот і, нячутна ступаючы, каб не разбудзіць Свету, выйшаў з пакоя.

Андрэй спусціўся да рэчкі, зашыўся ў стажок сена і, стомлены целам і душою, быццам у гэту ноч, як у гады студэнцтва, ён разгрузіў вагон цэменту, моцна заснуў.




# Рамонкі ў горадзе

## Апавяданне

Мусіць, на вуліцы зноў пачало марозіць.

Вера Іванаўна пад'ехала да акна. Шыбы ўжо зацягваліся перадвячорквым замаразкам. На шкле паяўляліся далікатныя ўзоры. Калі ў доме была Лізка — абавязкова б перамалёўвала гэтыя зорачкі, ланцужкі, мудрагелістыя лініі. Але дачка ўжо другі дзень далёка: нарэшце дачакалася такой жаданай уласнай выстаўкі.

Снежныя застругі віхрам намятала да металічнага гаража, што належаў маладому мужчыну, які жыў у суседнім пад'ездзе. Лізавета казала, што завуць яго Канстанцінам.

Вера Іванаўна ўздыхнула і ад'ехала ад акна. Па звычцы хацела наблізіцца да пісьмовага стала. А пасля толькі сумна ўсміхнулася. Ужо каторы год яна не перакладала ніводнага твора з французскай. Маладзейшыя перахоплівалі ў выдавецтве заказы на пераклады. Ды і каму тыя навінкі ў ахвоту? Вунь Лізка ці прачытала хоць адзін твор Гюго? Пра яе лаўрэатства, здаецца, забыліся. Ды і сама Вера Іванаўна ўжо не рвалася да перакладаў: пачало падводзіць сэрца. Часам прыходзілася трывожна чакаць: ці тахкае яно ў левым баку грудзей?

— Мамуля, — часта абдымала яе Ліза. — Ты б з'ездзіла куды адпачыць... Вось пачакай — можа, купіць мае карціны...

— Куды я паеду? — зірнула на свае ногі маці.

— Дык я ж — з табою. "Як нітка за іголкай, я па свету беламу прайду..." Памятаеш? Так напісаў адзін паэт. Ты любіла паўтараць.

Вера Іванаўна ведала: яна прыкавана да гэтых чатырох сцен. Як загінуў муж, а ў яе адняло ногі, жанчына ўсю мацярынскую любоў аддавала дачцэ. А тая то на тыднях прападала на сваіх пленэрах (перад тым, праўда, упрошвала суседку Дар'ю, каб прыглядала за маці), то бавілася на эцюдах. А то раптам ехала ў другі канец горада, каб прыдбаць нарэшце дарагі каланковы пэндзлік, рэдкія фарбы. Усё трэба было даставаць.

Добра, што з Францыі цераз пасольства перасалі гэту інвалідную каляску.

За пераклад моднага рамана Вера Іванаўна стала лаўрэатам літаратурнай прэміі. Дачка тады ўзгарэлася:

— Навошта, мама, нам грошы? Няхай лепей каляску дашлюць. Косця казаў: у Францыі вельмі шыкоўныя робяць.

Дачка нават ездзіла ў пасольства. Сапраўды: навошта ім былі тыя грошы, хоць яны ніколі не лішнія? Дачу Вера Іванаўна прадала, калі загінуў у аўтакатастрофе муж. Цяпер ні перакладаў з любімай мовы, ні дачы — толькі чатыры сцяны і пенсія.

Пакойчык Веры Іванаўны нагадваў краіну, пра якую яна шмат ведала. На сценах — здымкі Елісейскіх палёў. Набярэжная Сены. Лізка нават зрабіла копію адной карціны, на якой высілася Эйфелева вежа. Нездарма кажуць: "Убачыць Парыж — і памерці". Ёй наканавана яго не ўбачыць.

Вера Іванаўна зноў пад'ехала да акна. Снег доўгімі пасмамі слаўся наўсцяж гаража. Здавалася, белыя пялёсткі рамонкаў, якія яны з Лізкай высадзілі, калі прадалі дачу, не адрываліся, а сцяблінкі нават не згіналіся ад парываў ветру. Жанчына працёрла вочы. У апошні час пагаршаўся зрок, і Вера Іванаўна ў душы баялася, каб хаця не здарылася бяда.

Не, рамонкі раслі акурат ля Косцевага гаража. Заходзіцца завіруха, а ім — хоць бы што.

Жанчына прыхілілася спінай да стала і задумалася. Як там Лізчыны работы? Хаця б ухвалілі, хаця б звярнулі на іх увагу...

З лесвічнай пляцоўкі ў кватэру пазванілі. Вера Іванаўна падруліла да дзвярэй. Адчыніла. Суседка Дар'я ў навенькім халаце працягнула лісток.

— Гэта ж не дазваніліся да вас. Тэлеграму Ліза з Мінска прыслала.

Вера Іванаўна прабегла вачыма лісток. "Усё цудоўна. Нашы «Рамонкі» жывуць. Цалую, мамуля".

Вера Іванаўна схілілася ў калясцы. Дар'я гладзіла суседку па плячах, што прыкметна трэсліся. І шаптала:

— Нічога. Усё цудоўна. Вунь і Косця сказаў: "Не трэба хваляваццa..." Усё ж выдатна, даражэнькая. Усё выдатна, Верачка.

Вера Іванаўна не бачыла, што снег пайшоў мацнейшы — ці не апошні на гэтым тыдні. Канстанцін у лінялай куртцы, перш чым выгнаць з гаража "Жыгулі", бо намяло ладную гурбачку снегу, ашчадна праціраў на зялёным метале тыя тры рамонкі, што некалі намалявала Ліза...




# Імгненні зіхоткага лёсу

**Мяркую, што прычына застою ў любой галіне культуры — банальная лянота і разбэшчанасць, нядобрасумленнасць і непрафесіяналізм, якія перашкаджаюць не толькі думаць, але і ствараць. І тым прыемней шчаслівыя выключэнні, якія дораць нам надзею на вяртанне да Гармоніі і ў творчасці, і ў асабістым лёсе.**

**Вячаслаў ГРЫБАЙЛА,**
**фота Аляксандра Дзмітрыева**

Узор такога феномена — кніга "Святлана Акружная. Усё жыццё без антракту", падрыхтаваная Віцебскай абласной бібліятэкай імя У. І. Леніна і выдадзеная Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Унікальнасць гэтага біябібліяграфічнага паказальніка ў тым, што адраджаецца даўно забытая ў нас традыцыя ўшанавання юбіляраў, калі ўсе айчынныя ўстановы культуры па меры сваіх магчымасцей далучаліся да віншаванняў выбітных творчых асоб краіны.

У нас яшчэ памятаюць невялікі часопіс-бюлетэнь Беларускага тэатральнага таварыства "Тэатральны Мінск", які выдаваўся з 1961 па 90-я гады. На яго старонках можна было знайсці творчыя партрэты, праграмкі спектакляў, бібліяграфію пра дзеячаў сцэны. Каштаваў нядорага, прадаваўся ў кожным тэатры пры ўваходзе і па-свойму дапамагаў захаваць уражанні ад тагачасных пастановак.

Невялікі па аб'ёме, але ёмісты па змесце твор спецыялістаў бібліятэчнай справы Віцебска і Мінска змяшчае бібліяграфічныя звесткі пра разнажанравыя публікацыі, прысвечаныя жыццю, творчасці і грамадскай дзейнасці актрысы Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, народнай артысткі Беларусі Святланы Акружной, якая 26 студзеня адзначыла свой юбілей.

Укладальнік "навукова-дапаможнага" паказальніка Таццяна Лузан з максімальнай увагай падышла да падбору матэрыялу, уключыўшы ў гэта выданне 432 бібліяграфічныя запісы на дакументы за 1969 — 2011 гады, згрупаваныя паводле храналагічнага прынцыпу ў алфавітным парадку прозвішчаў аўтараў і загалоўкаў, а таксама часткова анатаваныя. Сухі статыстычны матэрыял ва ўмелых руках бібліятэкараў ператвараецца ў адмысловы дыямент, кожная грань якога адлюстроўвае маленькую часцінку зіхоткага лёсу таленавітай актрысы, ствараючы аблічча далікатнай жанчыны з мудрай душою маці і мэтанакіраваным валявым характарам непараўнальнага прафесіянала.

Уступны артыкул — "Дзеячы літаратуры і мастацтва пра С. А. Акружную" — змяшчае выказванні тэатразнаўцаў, рэжысёраў і драматургаў пра яе асобу і творчасць. Перад чытачом паўстае "кранальная і мужная, жаноцкая і ў той жа час няўлоўна сцярвозная, характарная, моцная", "інтэлектуальная" актрыса і "проста выдатная жанчына", якая "атачае сваім святлом тых, хто знаходзіцца побач з ёю". Шматграннасць яе таленту адзначылі і расійскія крытыкі: "Гэта цалкам відавочна, што Святлана Акружная — адна з самых прыгожых, загадкавых, элегантных актрыс беларускай сцэны. І лёгкая газавая аблачына спакуслівага ззяння няўлоўна і непазбежна ідзе следам за ёй і яе гераінямі… Яна — унікальная, непаўторная, адзіная…" Усе гэтыя меркаванні "факусуюцца" ў партрэце Святланы Акружной, створаным Нінэллю Шчаснай, рэпрадукцыя якога змешчаная на вокладцы кнігі. Сапраўды царыца коласаўскай сцэны, у правай руцэ якой — скіпетр з калосся беларускай збажыны, у левай — дзяржава ў выглядзе таямнічай сферы, што ззяе шматколернасцю і сімвалізуе складанасць ды чарадзейства акцёрскай прафесіі.

Адмысловая каштоўнасць гэтага выдання — "Аўтабіяграфічны нарыс", напісаны С. Акружной. У наш час важна захаваць для будучыні жывыя традыцыі сапраўдных прафесіяналаў, аднавіць гісторыю тэатра ў яе існасці або перадаць сапраўдныя сведчанні відавочцы. Асабліва пранікліва і мудра гучаць заключныя радкі біяграфіі актрысы: "Мне давялося жыць у няпросты для маёй сям'і і маёй Радзімы час. З выпрабаванняў, якія мне выпала перажыць, я вынесла веру, перакананасць у тым, што мяне захоўвала Найвышэйшая Сіла і не дазваляла загінуць. Эпохі, напоўненыя падзеямі і зменамі, прынята лічыць цікавымі і значнымі, але гэтыя ж эпохі напоўненыя няшчасцем і пакутамі як для асобных людзей, так і для цэлых пакаленняў. Самае сумнае, што гісторыя не літуе чалавечыя асобы, часам нават не прыкмячае іх. Я перажываю ўсе падзеі майго часу як уласны лёс. І вельмі хачу, каб усе гэтыя катаклізмы скончыліся выгодай для чалавека".

У новага бібліяграфічнага паказальніка высокі навуковы патэнцыял, прадуманая структура. Зробленыя тут два падзелы — з апісаннем публікацый, рэцэнзій і водгукаў на аўтабіяграфічную кнігу актрысы "Усё пражыць — і каб сэрца не разбілася" і з адлюстраваннем бібліяграфічных запісаў на артыкулы з перыядычных выданняў, у якіх змешчаны рэцэнзіі тэатральных крытыкаў і водгукі гледачоў пра спектаклі з удзелам С. Акружной. Не менш важны для гісторыкаў і даведачны апарат выдання, куды ўключаны імянны алфавітны паказальнік прозвішчаў ды ініцыялаў асоб, звесткі пра якія ёсць у бібліяграфічных запісах, "Дадатак" (храналагічны спіс узнагарод С. Акружной, спіс тэатральных і кінароляў актрысы, пералік перыядычных выданняў, прадстаўленых у паказальніку).

Фотаздымкі з сямейнага архіва, беражліва адабраныя стваральнікамі гэтай незвычайнай кнігі, арганічна ўлучаныя ў навуковае і бібліяграфічнае апісанне жыццёвага і творчага шляху Актрысы, якая з'яўляецца сапраўдным нацыянальным набыткам Беларусі.

Упэўнены, што гэта кніга будзе карысная мастацтвазнаўцам, тэатральным крытыкам, краязнаўцам, гісторыкам, супрацоўнікам архіваў, музеяў, журналістам, студэнтам, супрацоўнікам бібліятэк ды і ўсім, хто цікавіцца тэатрам і творчасцю С. Акружной.

Калі дасягненняў у сучасным тэатральным жыцці нашай краіны замала, чаму б не аналізаваць досвед акцёраў і рэжысёраў, якія прынеслі славу беларускаму мастацтву ў ранейшы час? Бо для карыфеяў сцэны — вялікае шчасце, калі цябе ведаюць, любяць і шануюць пры жыцці! А для знаўцаў і аматараў мастацтва — неацэнная карысць.



***На здымках: вокладка новага выдання; народная артыстка Беларусі Святлана Акружная ў ролі Васы Жалязновай.***

**Вераніка РЭЧЫЦКАЯ**

# Зварот да мінулага?

У сталічнай галерэі "Мастацтва" з трыумфам прайшоў вернісаж жывапісных работ мастака-графіка, рэстаўратара, выкладчыка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Юрыя Падоліна "Вяртанне (5+3)". На адкрыцці выстаўкі прысутнічала вялікая колькасць знаўцаў мастацтва — вучні, калегі, сябры, мецэнаты мастака; творчая інтэлігенцыя нашай краіны — кіраўніцтва Беларускага саюза мастакоў, Белрэстаўрацыі, БДАМ. Яркая, нешараговая асоба ў сучасным беларускім жывапісе, Ю. Падолін не імкнецца да радыкальных эксперыментаў , ён смела ідзе па ўласным шляху, усяляк выкарыстоўваючы эпатаж як сродак самавыяўлення. Праект "Вяртанне (5+3)" перш за ўсё звязаны з адраджэннем мастацтва рэалізму ў творчасці беларускіх мастакоў XXI стагоддзя, цікавасцю да рэстаўрацыйнага мастацтва, якая ўзмацнілася ў апошнія гады.

Творы, прадстаўленыя на выстаўцы, — гэта назіранні майстра за імгненнымі жыццёвымі станамі, светлыя ўспаміны пра дзяцінства. Аснову жывапісу Падоліна складаюць сюжэтныя кампазіцыі. Своеасаблівы зварот аўтара да мастацтва рэалізму, з немудрагелістымі сюжэтамі і дбайным афармленнем работ, апраўленых у дарагія рамы, — гэткія рэмінісцэнцыі стыляў барока і ракако ў сучаснай інтэрпрэтацыі і робяць творчасць Падоліна цікавай сучаснаму гледачу, які стаміўся ад інфармацыйнай празмернасці ды шукае рэлаксацыі ў жывапісных карцінах. Менавіта таму новы праект мастака ўспрымаеш як антытэзу "актуальнаму мастацтву" з яго цягай да канцэптуальнасці.

Падолін не шыфруе ў сваіх работах нейкія высокія ідэі, ён проста назірае за штодзённасцю, адлюстроўваючы цікавыя для сябе імгненні жыцця ("Гульня ў хованкі", "Сакрэты", "Гульні німфы"). Рэстаўрацыйная дзейнасць мастака паўплывала на яго ўласную творчасць: аўтар часта звяртаецца да персанажаў, як быццам узятых з палотнаў еўрапейскага жывапісу XVII — XIX стст., і малюе сваіх герояў так, быццам назірае за імі збоку.

Здзівіць публіку ідэяй экспазіцыі — адна з задач сучаснага мастацтва. І можна з упэўненасцю сказаць, што ў Юрыя Падоліна гэта атрымалася, бо яго выстаўка не пакінула абыякавым анікога.

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА,**
**фота аўтара**

Чарговая прэм'ера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі прайшла не на галоўнай сцэне, а ў Камернай зале імя Л. П. Александроўскай, і невыпадкова. Рэжысёр-пастаноўшчык Наталля Кузьмянкова і мастак Кацярына Булгакава, салісты-спевакі ды музыканты тэатра прадставілі новую версію аднаактовай оперы М. Рымскага-Корсакава "Моцарт і Сальеры", якая мае своеасаблівы падзагаловак: "Драматычныя сцэны на тэкст аднайменнай маленькай трагедыі А. С. Пушкіна". Раней наватарскі шэдэўр М. Рымскага-Корсакава ставіўся ў нас на вялікай сцэне НАВТа. Але сучаснікі кампазітара лічылі яго той операй, якая на малой сцэне мае больш магчымасцей пранікнуць у сэрцы і душы слухачоў. Слушнасць гэтага меркавання і пацвердзіла новае ўвасабленне "Моцарта і Сальеры". Прэм'ера адбылася ў межах праекта "Музычныя вечары ў Вялікім".



Да 90-годдзя з дня нараджэння Мікалая Палянкова, майстра тэматычнай карціны і лірычнага пейзажу, прымеркавалі выстаўку сваіх жывапісных работ яго калегі, сябры — гомельскія мастакі, прадстаўнікі абласной арганізацыі БСМ Леанід Кір'янаў, Яўген Кір'янаў, Анатоль Отчык ды Любоў Сціпанава. У экспазіцыю пад назвай "На памятнай хвалі", што размясцілася ў Музеі гісторыі горада Гомеля, увайшлі амаль тры дзясяткі іх твораў.

Дакументальная стужка "Крыху раю" створана рэжысёрам-аператарам Максімам Міхальцовым паводле сцэнарыя, напісанага ім у суаўтарстве з Элай Міловай (у якасці аператараў таксама працавалі Мікіта Пінігін ды Яўген Сяргееў-Някрасаў), на мінскай студыі ў імя святога спаведніка Іаана Ваяра. Фільм, зняты г. зв. метадам назірання, распавядае пра дзівосны свет сям'і Яўгена Наталлі Дубнікавых, якія выхоўваюць траіх родных дзяцей ды чацвярых, узятых з дзіцячага дома, і, нягледзячы на пэўныя праблемы, ствараюць "маленькі рай", дзе пануе Любоў. Прэм'ера стужкі адбылася падчас традыцыйнай мінскай выстаўкі "Нараджэнне Хрыстова".

Першы персанальны праект Максіма Дасько "Судакрананне" — выстаўка фотаздымкаў і фатаграфічная інсталяцыя — прадстаўлены ў мінскай галерэі візуальных мастацтваў "Nova" Цэнтра фатаграфіі. Малады аўтар, дыпламаваны радыёінжынер, захапіўшыся магіяй светлапісу, вызначыў для сябе як самы містычны і сутнасны момант гэтага працэсу... негатыў. На яго думку, у негатыве — "пэўным паслясловіі кантакту з рэальнасцю" — заключаецца існасць і таямнасць моманту, які знікае, а глядач праз тактыльны кантакт з негатывам можа нейкім чынам адчуць тую ўзаемасувязь з рэальнасцю, што зведаў фатограф падчас здымкаў… Выстаўка працуе да 18 лютага.

***На здымку: скульптурны партрэт народнай артысткі СССР Ларысы Александроўскай у Камернай зале, якой нададзена яе імя.***



**Адбыўся IV з'езд Беларускага саюза музычных дзеячаў. Увазе дэлегатаў быў прапанаваны справаздачны даклад праўлення, з якім выступіла першы намеснік яго старшыні Наталля Вітчанка (кіраўнік БСМД Міхась Дрынеўскі адсутнічаў на з'ездзе па стане здароўя). Прагучалі справаздачы рэвізійнай (Ларыса Мурашка) і мандатнай (Віктар Войцік) камісій. У абмеркаванні даклада праўлення ўдзельнічалі дэлегаты з розных абласцей і сталіцы краіны, а таксама ганаровыя госці з'езда.**

# Будні музычнай эліты

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Кастуся Дробава**



## Жыццядайныя капіляры

Прадстаўнічы форум падсумоўваў вынікі калектыўнай арганізацыйна-творчай, адукацыйна-асветніцкай, культурна-выхаваўчай, прапагандысцкай працы не толькі за міжз'ездаўскія гады, але і за ўвесь перыяд дзейнасці суполкі айчынных музыкантаў, што доўжыцца ўжо чвэрць стагоддзя. У справаздачным дакладзе праўлення (змест якого досыць поўна адлюстраваны ў гутарцы карэспандэнта "ЛіМа" з кіраўнікамі саюза) падрабязна гаварылася пра дасягненні прафесійных унутрысаюзных асацыяцый, абласных аддзяленняў суполкі, іх плённы ўнёсак у арганізацыю разнастайных фестываляў, музычных конкурсаў, семінараў-практыкумаў і майстар-класаў, правядзенне юбілейных, мемарыяльных і дабрачынных імпрэз. Была адзначана праца некамерцыйнага прадзюсарскага цэнтра "Класіка" і васьмі творчых калектываў саюза. Асаблівая ўвага надавалася ў выступленні Наталлі Вітчанкі стасункам БСМД і Міністэрства культуры краіны: за апошнія пяць гадоў яны кардынальна змяніліся і паспрыялі правядзенню значных сумесных акцый, а гэта пацвярджае аўтарытэт саюза як паважанай арганізацыі, што сур'ёзна дапаўняе работу дзяржаўных структур у галіне музычнага мастацтва.

Высокую ацэнку ў з'ездаўскай справаздачы атрымала супрацоўніцтва БСМД з рэдакцыяй газеты "Літаратура і мастацтва". Як падкрэсліла прамоўца, праўленне амаль дваццаць гадоў крытыкавалі за тое, што добрыя справы музычных дзеячаў не маюць ніякага розгаласу ў друку. І вось ва ўмовах, калі матэрыялы пра элітарнае, акадэмічнае, класічнае, высокае прафесійнае мастацтва ўспрымаюцца ў масавых СМІ краіны як "нефармат", адбыўся сапраўдны прарыў у інфармацыйнай прасторы: ужо чацвёрты год рэдакцыя "ЛіМа" штомесяц аддае цэлую газетную паласу для публікацый БСМД.

Расставіўшы акцэнты на важных арганізацыйна-творчых праблемах (напрыклад, занепад і пагроза знікнення ўнікальнай вытворчасці музычных інструментаў), вырашэнне якіх немагчымае без дзяржаўнай падтрымкі, прамоўца зазначыла: "У справаздачным дакладзе мы не ставілі задачы прааналізаваць праведзеныя мерапрыемствы і стан музычнага жыцця ў краіне. Мы імкнуліся нагадаць пра тое, што ў мастацтве нашым і ў саюзе нашым, як ва ўсялякім жывым арганізме, ёсць артэрыі, а ёсць і капіляры: калі арганізм пазбавіць ад іх — ён асуджаны на скананне. Мы хочам захаваць капілярную сістэму".

## Толькі поруч!

Першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі, добра знаёмы з многімі музыкантамі, прызнаўся, звяртаючыся да дэлегатаў з'езда, што прыйшоў на гэты высокі сход як калега, каб падзякаваць пэўнымі меркаваннямі, вызначыць сумесныя планы: "Мы з вамі — аднадумцы, займаемся агульнай справай, праблемамі нашай культуры, правялі шмат важных супольных мерапрыемстваў". Расказаўшы пра вялікую ўвагу, якую надае культуры кіраўніцтва нашай дзяржавы, урад і Прэзідэнт, У.Карачэўскі падкрэсліў: "Краіна змагла захаваць сваю культуру, самабытнасць, адукацыю". І зазначыў, што міністэрства імкнецца ўсяляк падтрымліваць людзей культуры, іх праекты, ствараць умовы для творчай працы прадстаўнікоў гэтай сферы. А культуру, паводле яго слоў, трэба разумець не як баўленне вольнага часу, не як забаву: гэта значна большае — тое, ад чаго залежыць лёс нашай дзяржавы. Таму сёння дзейнічае шэраг дзяржаўных праграм, праектаў, якія спрыяюць стварэнню новых сцэнічных пляцовак, рэканструкцыі тэатральных будынкаў, канцэртных залаў. Галоўнае ж — спрыяюць падтрымцы і заахвочванню таленавітых асоб, калектываў праз ганаровыя званні, мэтавыя стыпендыі, прэміі, адрасную фінансавую дапамогу, бо прыярытэтнай робіцца задача "ўкладваць у творцу", а не ў агульны працэс. І ў Міністэрстве культуры чакаюць прапаноў ад саюза, каб адзначаць вартых увагі людзей, якія шчыруюць не толькі на сталічнай музычнай ніве. А яшчэ тут прымуць усе цікавыя ідэі, здатныя стаць асновай супольных праектаў. Асабліва актуальнымі будуць прапановы ад музыкантаў, звязаныя са святкаваннем 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Як заўважыў У. Карачэўскі, набалелая праблема набыцця і рамонту музычных інструментаў закраналася і падчас нядаўняй сустрэчы Прэзідэнта Беларусі з творчай моладдзю. Каб справіцца з ёй, трэба найперш вырашыць яшчэ адну, абумоўленую неабходнасцю павелічэння аб'ёму сродкаў на закупку інструментаў, выраб якіх ажыццяўляецца толькі за мяжой. Сёння ў нашай сталіцы "зношанасць" музычнага інструментарыя дасягнула крытычных дзевяноста працэнтаў. Толькі дзякуючы выкладчыкам і кіраўнікам профільных навучальных устаноў удаецца захоўваць у краіне фонд інструментаў і нават папаўняць яго новымі экземплярамі (лідар па фінансаванні такіх закупак — Магілёўская вобласць). Што да айчыннай вытворчасці...

> *Беларускі саюз музычных дзеячаў — напярэдадні свайго 25-годдзя, а значыць — у чаканні свята. Аднак і ў дзелавой, часам палемічнай атмасферы з'езда надарыліся хвіліны шчырай радасці. Вядомаму паэту-песеніку, члену БСМД Алегу Жукаву быў урачыста ўручаны нагрудны знак Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Узнагароды атрымалі актывісты саюза, выдатныя музыканты: заслужаных артыстак Беларусі Ірыну Шуміліну і Галіну Асмалоўскую адзначылі ганаровымі граматамі Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры, а Валерыя Уколава і Сяргея Салохіна — нагруднымі знакамі Беларускага саюза музычных дзеячаў.*

Знакамітыя некалі прадпрыемствы ў Барысаве і Маладзечне, дзе выпускалі піяніна, гітары і цымбалы, баяны ды гармонікі, належалі да камунальнай уласнасці і з-за розных прычын апынуліся ў стане ліквідацыі. Адгукнуўшыся на сённяшнюю патрэбу, павялічыла колькасныя паказчыкі ў рамонце цымбал унітарнае прадпрыемства "Музрэм". На шчасце, у Беларусі яшчэ ёсць унікальныя спецыялісты. Паводле інфармацыі У.Карачэўскага, у Гродне прыватнае ўнітарнае прадпрыемства занялося вырабам цымбал і вынікі гэтай працы ацэньваюцца станоўча; у Маладзечне ёсць адмыслоўцы, якія робяць баяны. Вядома больш як два дзясяткі індывідуальных майстроў, якіх, на думку У. Карачэўскага, "трэба браць пад наша крыло": магчыма, арганізаваць гэтых таленавітых людзей вакол адпаведнай прафесійнай асацыяцыі БСМД, тады з імі будзе супрацоўнічаць і Міністэрства культуры. Сёння яно стараецца паменшыць вастрыню праблемы: звяртаецца ў адпаведныя інстанцыі з просьбай павялічыць сродкі на закупку інструментаў, імкнецца супрацоўнічаць з тымі, хто асвоіў іх выраб. З мэтай магчымага ўзнаўлення колішняй фабрычнай вытворчасці рабіліся належныя разлікі, аднак яны паказалі, што такія фабрыкі акупяць сябе толькі праз 37 гадоў. У цяперашніх умовах, мабыць, трэба аб'ядноўваць дробныя прыватныя прадпрыемствы, даваць ім заказы, умацоўваць іх базу.

Міністэрства трымае ў полі зроку і спецыфічную праблему кадраў, якія працуюць у сферы культуры, звязаную з неабходнасцю вандровак за мяжу: у творчыя камандзіроўкі, на вучобу, стажыроўку. Дзяржаўная справа — дапамагчы такім людзям, каб іх прафесійны досвед, набыты ў замежжы, распаўсюджваўся і ў нас. На жаль, нявырашанай застаецца застарэлая праблема выдання музычных твораў айчынных аўтараў: у Беларусі па-ранейшаму няма спецыялізаванага нотнага выдавецтва. Магчыма, падыходы да яе вырашэння міністэрства і саюз будуць шукаць разам.

## Пра гэта трэба гаварыць

Знаны дырыжор і педагог, дырэктар Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. Кл. Агінскага, старшыня Мінскага абласнога аддзялення БСМД Рыгор Сарока выказаў занепакоенасць той перспектывай, якая чакае выхаванцаў шматлікіх музычных школ, сярэдніх і вышэйшых спецыяльных навучальных устаноў. "Мы вучым дзяцей граць Моцарта і Равеля, а дзеля чаго? Што будзе з імі потым: хіба высокае мастацтва запатрабаванае нашым грамадствам? Мы крычым пра экалагічную небяспеку, устрывожаныя тым, што ўсюдыісны пластык засмечвае наша наваколле, змагаемся за чысціню асяроддзя, аднак прымаем як належнае, калі наша культурнае, духоўнае асяроддзе, тэлеэкраны і радыёэфір засмечваюцца, як шалупіннем ад семак, легкаважкім "прадуктам" эстрады. Нам удалося стварыць у Маладзечне паўнавартасны оперны тэатр — калектыў маладзёжны, прафесійны, паспяховы, але ці многія ў нашай жа краіне ведаюць пра гэта? — гаварыў маэстра. — І яшчэ. Нельга татальна распаўсюджваць прынцып імпартазамяшчэння. Трэба даваць музыкантам-прафесіяналам і не імкнуцца "зэканоміць валюту", дапусцім, на пакупцы фірмовага кларнета, які ніколі не зробяць у нас, але які неабходны ў нашым аркестры". Пафас Р. Сарокі падтрымалі і іншыя прамоўцы — вядомыя музыканты Міхась Солапаў, Віктар Кульпін, Галіна Паўлянок, Тамара Слабодчыкава, Аляксандр Карацееў, Алена Сакалова. Кіраўнік некамерцыйнага прадзюсарскага цэнтра "Класіка" Валерый Уколаў падкрэсліў: "Наша прафесія з'яўляецца эталонным і элітарным мастацтвам. Але мы хочам, каб і народ гэта мастацтва чуў. Можа, надыходзіць час для класікі? Яна сёння ў нашым грамадстве — "нефармат". Але ёсць у нас нямала прыхільнікаў расійскага тэлеканала "Культура", французскага "Мецца" і яшчэ больш тых, у каго няма магчымасці падключыцца да гэтых каналаў, а так хацелася б глядзець перадачы пра гісторыю і сённяшнія каштоўнасці сусветнай культуры, у тым ліку сваёй, беларускай. Дык ці не варта стварыць спецыялізаваны канал пад назваю «Класіка» на нашым Нацыянальным тэлебачанні?"

Выступілі таксама галоўны дарадца ўпраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Людміла Бароўка і старшыня ЦК Беларускага прафсаюза работнікаў культуры Наталля Аўдзеева.

Адбыліся выбары новага складу кіруючых органаў БСМД, а таксама дэлегатаў на справаздачна-выбарную канферэнцыю Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў, правядзенне якой плануецца на 17 лютага. Старшынёй праўлення саюза зноў аднагалосна абраны народны артыст Беларусі, прафесар Міхась Дрынеўскі, яго першым намеснікам — Наталля Вітчанка, намеснікам па фінансавых пытаннях — Віктар Каліна.



***На здымках: выступае першы намеснік старшыні праўлення БСМД Наталля Вітчанка; у зале — музычная эліта краіны, вядомыя дзеячы мастацтва, выканаўцы і педагогі.***

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

27 студзеня 2012 г.

# Марозныя ўзоры

**Алена ДРАПКО,**
**фота Надзеі Калінінай**

**Наведвальнікам з дзецьмі на час работы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі свае паслугі прапануе дзіцячы пакой.**



— Калі бацькам няма з кім пакінуць сваіх дзяцей дома, то яны могуць узяць іх з сабою ў бібліятэку. Каб арганізаваць вольны час малых, мы і стварылі дзіцячы пакой. Пакуль бацькі працуюць ці вучацца, дзецям тут забяспечаць добры нагляд. Многія здзіўляюцца, калі даведваюцца пра існаванне такога пакоя ў бібліятэцы, — заўважае ў размове метадыст Наталля Хадунова. — А між тым для маладых бацькоў гэта вельмі зручна. Першапачаткова ў дзіцячым пакоі проста праводзілі з дзецьмі заняткі, гулялі, а потым прыкладна раз на месяц сталі ладзіць розныя святочныя тэматычныя сустрэчы. Таму ў нашым пакоі становіцца ўсё больш наведвальнікаў і прыхільнікаў. Мы шукаем цікавыя тэмы для сустрэч, выкарыстоўваем арыгінальныя спосабы афармлення пакоя, і гэта дае прастору для ўвасаблення дзіцячай фантазіі і выклікае цікавасць, асабліва да выяўленчай дзейнасці.

Усё, што патрабуецца ад бацькоў — гэта прад'явіць чытацкі білет нашай бібліятэкі і дакумент, які пацвярджае, што гэта іх дзіця, запоўніць рэгістрацыйную анкету, каб у выпадку неабходнасці знайсці тату ці маму.

У дзіцячым пакоі шмат цацак і развіваючых гульняў: тут "жывуць" розныя лялькі, "ездзяць" машынкі, можна складаць канструктар ці мазаіку. Мы арганізавалі імправізаваны дамок "Чароўны кіёск", побач знаходзяцца дзіцячыя музычныя інструменты, лато. Пры жаданні можна выбраць і іншы занятак: пагартаць кнігі, паглядзець мультфільмы, паслухаць песні, пакатацца з надзіманай горкі, правесці час на фізкультурнай "шведскай сценцы". Між іншым, спецыяльная мэбля, мяккія канапкі лёгка трансфармуюцца для рухомых гульняў. За час існавання пакоя супрацоўнікі падрыхтавалі цыкл індывідуальных і групавых заняткаў, што спрыяюць развіццю асобы, прадугледжаны спартыўныя размінкі, мастацкая творчасць, пастаноўка лялечных спектакляў.

У пачатку студзеня тут праводзілі майстар-клас для дзетак — "Марозныя ўзоры". Яго маленькія ўдзельнікі вучыліся маляваць у тэхніцы адбітка. Арыгінальная методыка дазволіла кожнаму дзіцяці з дапамогай простых матэрыялаў: клейкай стужкі, цэлафана, паперы і фарбаў — ажыццявіць фантазіі на тэму "марозных" кампазіцый. Акрамя гэтага, арганізавалі чытанне вядомай рускай казкі "Марозка", прайшла віктарына па казках з адгадваннем загадак. Творчая атмасфера ў пакоі аб'яднала хлопчыкаў і дзяўчынак, іх бацькоў і педагогаў.

З дзецьмі ў спецыялізаваным пакоі Нацыянальнай бібліятэкі працуюць метадысты Наталля Хадунова, Кацярына Пастак і Аліна Пуцінцава. Складанасць правядзення мерапрыемстваў, на іх думку, у тым, што прыходзяць дзеці рознага ўзросту. Улічваючы гэта, трэба падбіраць конкурсы, гульні, віктарыны, якія здольны прывабіць і захапіць усіх. Акрамя таго, трэба ўлічваць і схільнасці, уменні і першапачатковыя веды маленькіх наведвальнікаў бібліятэкі. Да прыкладу, нехта добра малюе, а ў іншага карціна не атрымоўваецца, але ён добра лепіць фігуркі з пластыліну. Калі ж абіраюцца для заняткаў нечаканыя тэхнікі, пра якія дзіця даведваецца толькі падчас адмысловага майстар-класа, то ўсе становяцца творцамі, праца захапляе, ёсць магчымасць параўнаць свае здольнасці з тым, што зрабілі астатнія. Дзеці застаюцца задаволенымі і ідуць пасля дадому з добрым настроем. Такія тэматычныя сустрэчы звычайна прымяркоўваюцца да знакавых дат: 23 лютага, Дня бібліятэк ды іншых. А інфармацыя пра майстар-класы і заняткі ў дзіцячым пакоі змяшчаецца на бібліятэчным сайце і ў самой бібліятэцы.

Як правіла, пакой наведваюць дзеткі ад 3 да 8 гадоў, але дзверы адчынены і для зусім маленькіх — ва ўзросце ад 1 да 3 гадоў. У апошнім выпадку разам з дзецьмі застаюцца і бацькі. Таты і мамы — гэта зазвычай студэнты, маладыя бацькі, якія працуюць. Звычайна ў дзіцячым пакоі знаходзяцца максімум дзве гадзіны, каб дзіця не стамілася ў замкнёнай прасторы. Але пры жаданні хлопчыкі і дзяўчынкі могуць застацца і надалей ды пагуляць з іншымі дзеткамі, сваімі равеснікамі.

Як вынік — задаволеныя ўсе: занятыя бацькі, дзеці, якія атрымалі магчымасць не толькі апынуцца ў займальнай краіне гульняў, але і знайсці новых сяброў.

***На здымках: у дзіцячым пакоі НББ весела і займальна.***

## Штрых-код

### Што будзе

**г. Гомель**

**21 лютага**, у Міжнародны дзень роднай мовы, бібліятэкары Гомеля будуць размаўляць з чытачамі і паміж сабой выключна на роднай мове. **Акцыя "Размаўляй са мной па-беларуску!"** праводзіцца штогод. У гэты ж дзень у філіяле № 6 адбудзецца літаратурна-музычная кампазіцыя "Беларусь, родная мовы сваёй не цурайся".

**21 лютага** ў Музеі аўтографа пры Гомельскай цэнтральнай бібліятэцы імя А. І. Герцэна адкрыецца выстаўка аўтографаў "Гомель літаратурны".

У бібліятэках Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы стартаваў **цыкл мерапрыемстваў "Літаратурная Гомельшчына-2012"**, мэта якога — знаёмства гамяльчан з творчасцю мясцовых пісьменнікаў. У межах акцыі адбудуцца:

**21 лютага** — сустрэча ў бібліятэцы-філіяле № 10 з аўтарам кнігі для дзяцей "Радасць, выберы меня!" Н. Дзмітрыевай;

**22 лютага** — прэзентацыя кнігі гумару В. Ткачова "Булочка" ў бібліятэцы-філіяле № 1;

**28 лютага** — юбілейны вечар паэта і публіцыста М. Болсуна ў літаратурна-мастацкім салоне "Сустрэчы на Замкавай" пры Гомельскай цэнтральнай бібліятэцы імя А. І. Герцэна.

**Віцебшчына**

**7 лютага** Цвяцінская сельская бібліятэка Мёрскай раённай сеткі бібліятэк запрашае на імпрэзу "Далучыся да роднай мовы".

**9 лютага** конкурсную праграму да юбілеяў класікаў "Разам з Купалам і Коласам" арганізуе Віцебская гарадская бібліятэка імя М. Багдановіча.

**16 лютага** ўрок грамадзянскасці "Мастацтва мужнасці і гераізму" (да 90-годдзя з дня нараджэння мастака М. Савіцкага) прапануе Аршанская гарадская дзіцячая бібліятэка імя Н. Крупскай.

**16 лютага** Віцебская гарадская бібліятэка імя Е. Лось праводзіць гадзіну мастацтва "Імя, вернутае з небыцця" (да 205-й гадавіны з дня нараджэння Напалеона Орды).

## Выстаўкі

# Барысаўскі летапіс

**З нагоды юбілею пісьменніка-земляка Васіля Гігевіча ў гарадской бібліятэцы № 6 г. Барысава арганізавана кніжная выстаўка "Не забывай пра дом свой, грэшнік" паводле назвы аднаго з раманаў літаратара.**

На выстаўцы можна пазнаёміцца з біяграфіяй Васіля Гігевіча, прачытаць крытычныя артыкулы, інтэрв'ю. Асобна ў экспазіцыі змешчаны мастацкія творы пісьменніка, якія друкаваліся ў перыёдыцы ці выходзілі асобнымі выданнямі, а таксама зборнікі яго прозы.

Творчасць Васіля Гігевіча цікавая па дзвюх прычынах. З аднаго боку, у беларускай літаратуры з'яўляецца няшмат твораў, прысвечаных гістарычным ці нават дагістарычным часам. Тым больш цікавы пагляд кожнага аўтара. З іншага боку, вабіць асоба пісьменніка, малавядомая новаму пакаленню чытачоў.

**Святлана ШЧЭРБА,**
**загадчык гарадской**
**бібліятэкі № 6 г. Барысава**

## За падзеяй

# Караткевіч на Гомельшчыне

**Міхась КАВАЛЁЎ**

Шэсцьдзясят бібліятэк Гомельшчыны атрымаюць у падарунак ад дэпутатаў абласнога Савета 25-томны выданні твораў Уладзіміра Караткевіча. Кожны прадстаўнік заканадаўчай улады ў сваёй выбарчай акрузе для адной з бібліятэк аформіць за асабісты кошт падпіску на кнігі знакамітага беларускага класіка. Прыклад паказала старшыня абласнога Савета дэпутатаў Марыя Бондар, якая пералічыла асабістыя сродкі на падпіску для Добрушскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.

Плануецца, што пры выпуску двух-трох тамоў у год апошні том выйдзе ў 2020 годзе —да 90-годдзя з дня нараджэння пісьменніка. Таму пасля заканчэння тэрміну паўнамоцтваў дэпутатаў цяперашняга склікання выдатны пачын прадоўжаць новыя выбраннікі. І праз восем гадоў чытачы атрымаюць магчымасць карыстацца ўнікальным зборам твораў Уладзіміра Караткевіча — кніг, у якіх будуць змешчаны раманы, апавяданні, вершы, казкі, малюнкі.

# Сустрэча з «Багіняй»

**Аксана ДРАЧАН,**
**дырэктар Уздзенскай ЦБС**

Супрацоўнікі Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П. Труса арганізавалі імпрэзу з нагоды выхаду паэтычнага зборніка Тамары Каляды "Багіня". Гэта ўжо не першы вопыт Тамары Антонаўны, некалькі год таму пабачыў свет зборнік вершаў "Белая раніца". У сустрэчы прынялі ўдзел члены Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Сабалеўскі, З. Калкоўская, Д. Вінаградаў, Г. Нічыпаровіч і члены літаратурнага аб'яднання "Нёманец". Паэзія Тамары Каляды вызначаецца пачуццём даверу да жыцця і філасафічнасцю, ёй уласціва лірычная ўзвышанасць. Літаратурны вячоркі атрымаліся змястоўнымі і цікавымі: калегі і сябры творцы выказвалі свае меркаванні, пажаданні, заўвагі, цікавіліся планамі паэтэсы на будучае.

# Коласаў скарб

### «…Што значаць вольным адлегласці і час»…

**Кнігазборы вялікіх людзей заўсёды ў нейкай ступені таямнічыя: у іх схаваныя не толькі мудрасць стагоддзяў, а і… трапная характарыстыка чалавека, таго, хто гэтыя кнігі збіраў. Гаспадар трымае ў сваім доме самае неабходнае, да чаго вернецца не раз і не два, тое, што павінна заўсёды быць пры ім. Пра бібліятэку Якуба Коласа, бадай, самае вядомае, што яна збіралася двойчы. Першая сямейная бібліятэка стваралася, калі, страціўшы шмат падчас Першай сусветнай вайны, эвакуацыі на Куршчыне, пясняр пачаў збіраць кнігі па вяртанні ў Менск — з 1921 па 1941 год. Другая бібліятэка — з1945 па 1956 год, калі аднаўлялася тое, што згарэла падчас Другой сусветнай вайны. Той, хто пабываў у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, памятае: шафы з кнігамі там знаходзяцца каля лесвіцы на першым паверсе і ў мемарыяльным пакоі на другім паверсе. Першая шафа ўражвае энцыклапедычнасцю: на паліцах — выданне Бракгаўза і Эфрона, збор твораў Пушкіна, шыкоўнае навукова-папулярнае выданне “Сусвет і чалавецтва”, шматтомнік Шылера… У шафе з мемарыяльнага пакоя — кабінета паэта — каля тысячы кніг. Гэта і ёсць асноўны збор з пасляваеннай бібліятэкі Якуба Коласа, прычым кнігі размешчаныя так, як ён іх у свой час паставіў. Астатнія знаходзяцца ў нашчадкаў Якуба Коласа. Пачынаючы размову пра бібліятэку, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Наталля Шувагіна-Адамовіч зазначыла, што беларускі класік прынцыпова падыходзіў да падбору кніг, абы-што не купляў, таму ў яго бібліятэках шмат цікавага. А далей я пачула аповед, які і прапануецца вашай увазе.**

Ірына ТУЛУПАВА

**Наталля ШУВАГІНА-АДАМОВІЧ, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа**

## Беззваротнае

Даваенная бібліятэка Якуба Коласа стварылася пасля прыезду песняра з сям'ёй у Менск у 1921 годзе. Яго сыны, асабліва Даніла Канстанцінавіч, пакінулі нам успаміны пра яе. У кнізе Д. Міцкевіча (стваральніка Коласавага музея) “Любіць і помніць” можна прачытаць, што першая бібліятэка “была не вельмі вялікая: адчуваўся недахоп і сродкаў, і плошчы. Ды і не было тады і духу бяздумнага збіральніцтва кніг, так званай «прэстыжнасці»”.

Паводле ўспамінаў сыноў паэта, у бібліятэцы было некалькі соцень кніг, меліся такія каштоўныя, як багата аформленыя выданні Бракгаўза і Эфрона (у нас ёсць толькі адзін том, ён і захоўваецца цяпер у шафе паміж першым і другім паверхамі дома), дарэвалюцыйныя шматтомнікі Шэкспіра, Шылера, Пушкіна, творы Лермантава, Талстога, Някрасава, Гогаля, Шаўчэнкі, Барбюса, Келермана, Тагора, Гамсуна, Цвейга, Чэхава, Горкага, Крылова, Дастаеўскага. Прычым, мы ведаем, што Дастаеўскага да вайны ў школах не вывучалі. Але ў Коласавых лістах сустракаем запісы, якія сведчаць, што ён любіў гэтага пісьменніка: “...чытаю Дастаеўскага. Прачытаў “Браты Карамазавы”. Чытаю іх не першы раз. Дзіўлюся геніяльнасці пісьменніцкага дару Дастаеўскага. Зараз перачытваю “Бесы” і яшчэ хачу прачытаць «Ідыёта»”; “…Выше по таланту Достоевского нет в мире писателя. Достоевский наш, Достоевскому, если нужно, всё надо простить, имея в виду, что вся жизнь Ф. М. была направлена в пользу человека, а не системы”.

Цікавіўся Колас і гісторыяй Расіі Кастамарава, у яго былі шыкоўныя навукова-папулярныя выданні: “Сусвет і чалавецтва” ў 5 тамах, “Мужчына і жанчына” ў 3 тамах, усе тамы Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, якія выйшлі да вайны. Багата была прадстаўлена, вядома, і беларуская літаратура: перш за ўсё кнігі самога Коласа і шмат кніг паплечнікаў і сяброў па пяры — Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Цішкі Гартнага, Змітрака Бядулі, Міхася Чароты і іншых. Яны былі з цёплымі прысвячэннямі Коласу ад аўтараў, меліся ад іх лісты, фота — напрыклад, старэйшы сын Даніла Кастанцінавіч памятаў фатаграфію Янкі Купалы, якую ён прыслаў Якубу Коласу зімой 1932 года з Кіславодска. На адвароце паэт напісаў такія радкі:

*Шкадую, дружа Колас,*
*што тут цябе няма,*
*Ярчэй свяціла б сонца,*
*мякчэй была б зіма.*
*Дзве тысячы кілометраў*
*сягоння дзеляць нас,*
*Але што значаць вольным*
*адлегласці і час.*

Колас быў адным са стваральнікаў Інбелкульта (Інстытута беларускай культуры), таму ў бібліятэцы мелася і навуковая літаратура, выданні Інбелкульта, а пасля — Акадэміі навук БССР. А Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч (малодшы сын Якуба Коласа) памятае, што ў той бібліятэцы былі вершы Беранжэ, якога ён любіў дэкламаваць на памяць, а таксама альбом ілюстрацый да ўсіх раманаў Жуль Верна — ім захапляўся сярэдні сын паэта Юрый, які загінуў на фронце ў 1941 годзе. На жаль, уся гэта бібліятэка, рукапісы Якуба Коласа, яго дом, сад, сядзіба загінулі беззваротна ў пажарышчы ў Мінску ў самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны, 24 чэрвеня 1941 года.




## Дзве шафы

Пасля вяртання з эвакуацыі ў Мінск у маі 1945 года Якубу Коласу давялося збіраць бібліятэку нанава.

Прычым, трэба ўяўляць, што ў 1945 годзе і ў наступныя гады ў Мінску ў продажы кніг амаль не было. Таму набывалі, куплялі, прывозілі іх з Ленінграда, Масквы, іншых месцаў. Сам паэт ездзіў туды, яго сыны, сябры дарылі Якубу Коласу, шукалі тыя кнігі, якія былі менавіта ў даваеннай бібліятэцы. Напрыклад, на кнізе А. Сержпутоўскага “Казкі і расказы беларусаў-палешукоў” (Санкт-Пецярбург, 1911 год) ёсць адметны аўтограф: “Дорогой Константин Михайлович! В Вашей старой библиотеке когда-то была эта книга. Как воспоминание о старом, пусть будет она и в Вашей новой, ещё большей библиотеке. Володя. Ленинград. 16 мая 1945 г.”. Валодзя — гэта Уладзімір Іванавіч Петухоўскі, сябра старэйшага сына Якуба Коласа Данілы Канстанцінавіча. З Масквы часта кнігі прывозіў Максім Лужанін, які ў той час стаў сакратаром Якуба Коласа, ён быў вялікі знаток кніг, расшукваў іх па ўсіх букіністычных крамах. А ў 50-я гады ўжо набывалі кнігі ў Мінску. Толькі ў 1984 годзе Даніла Канстанцінавіч купіў для музея ў букіністычнай краме Масквы чатырохтомнік Шылера (1900), “Сусвет і чалавецтва” ў 5 тамах (1896). Гэта так званыя аналагі выданняў, што былі ў бібліятэцы Коласа калісьці да вайны. Іх можна цяпер пабачыць у шафе блізу лесвіцы на першым паверсе.

У 1996 годзе незадоўга да смерці Д. Міцкевіча кабінет Якуба Коласа быў перададзены музею яго сынамі. У шафе, пісьмовым стале знаходзіцца каля тысячы кніг на беларускай, рускай, украінскай, англійскай, венгерскай, літоўскай, латышскай, балгарскай, польскай, казахскай, карэйскай, бурацкай, узбекскай, чэшскай і іншых мовах.

Па-першае, гэта прыжыццёвыя выданні твораў самога Якуба Коласа — розных гадоў, на розных мовах. Сярод фаліянтаў — першы збор твораў у 7 тамах, выдадзены ў 1952 годзе да 70-годдзя паэта; збор твораў на рускай мове ў 4 тамах. Увогуле ж усе кнігі акрэсліваюць кола зацікаўленняў Коласа.

## Падарункі ад сяброў

Шмат ёсць выданняў, якія Колас атрымліваў ад пісьменнікаў, сяброў, знаёмых. Яны дасылалі, дарылі свае асабістыя кнігі з цёплымі надпісамі, напрыклад, на беларускай мове гэта кнігі ад К. Крапівы, П. Панчанкі, М. Лужаніна, П. Глебкі, П. Броўкі, Э. Агняцвет, Я. Брыля, М. Танка, А. Бялевіча, І. Шамякіна, многіх іншых беларускіх пісьменнікаў пасляваеннай плеяды; на рускай — ад А. Твардоўскага, С. Маршака, А. Барто, С. Гарадзецкага, С. Міхалкова, В. Каверына, на ўкраінскай мове — ад М. Рыльскага, П. Тычыны, Ю. Назарэнкі.

Да прыкладу, надпіс Сяргея Гарадзецкага сустракаем на артыкуле “Борьба со старостью”. (Нарыс прыватнага Дацэнта Імператарскага Петраградскага ўніверсітэта П. Ю. Шміта. Часопіс “Знаніе для всѣхъ”, 1915 г., № 12):

**“Якубу Коласу.**

*Борись со старостью, Якуб,*
*Всей силой жил,*
*костей и губ,*
*Хоть ты Якуб,*
*а не Борис,*
*Упорствуй,*
*бейся и борись,*
*Всей мощью стана и горба,*
*Бо наша жизнь —*
*всегда борьба.*

Сергей Городецкий.
Москва.
Канун сорока
мучеников. 1947 год.

*Всех мучеников сорока*
*Перед твоей судьба легка”.*

У зборы захоўваюцца кнігі Янкі Купалы з дарчымі надпісамі яго жонкі Уладзіславы Луцэвіч, а таксама Максіма Танка: “Дарагому Канстанціну Міхайлавічу. За Ваша высокае слова, за Вашу добрую навуку, за Ваш ласкавы клопат і цеплыню”. Танк быў у той час малады: цікава, што Колас адзначыў яго талент. Максім Танк бываў у доме Якуба Коласа, адпачываў з ім на Нарачы.

Сярод тых, хто дарыў кнігі, — два Петрусі: Броўка і Глебка. Колас так іх і называў: мае Петрусі, прысвячаў ім свае вершы. Сябраваў з імі з 1920-х гадоў, і ў час вайны яны вялі перапіску, сустракаліся.

## Ваенны час

У кнігазборы Якуба Коласа захоўваюцца выданні, якія выходзілі ў Маскве і Ташкенце і якія пясняр прывёз з эвакуацыі з Узбекістана.

Збор кніг пачынаўся занава ўжо ў Ташкенце, Падмаскоўі. У Ташкенце Колас сустрэў сваё 60-годдзе. Да юбілею выйшлі тры яго кнігі: выбраныя творы на рускай мове (падрыхтаваў Гарадзецкі), на беларускай і ўзбекскай. І там у 1942 годзе адзначаўся юбілей. Год быў цяжкі, з сынам Юркам ніякіх сувязей… Але Колас вёз кнігі ў Беларусь. У 1943 годзе ў яго выйшла паэма “Суд у лесе”. І ён адразу ў адзін дзень напісаў мая падпісаў каля 10 кніг: жонцы, сыну, сябрам, знаёмым.

Наступны (умоўны) стос кніг звязаны з працай Якуба Коласа ў Камітэце па Дзяржаўных прэміях СССР. Для абмеркавання кніг у пасяджэнні Камітэта трэба было не толькі шмат і ўважліва чытаць, але яшчэ даць ім ацэнку. Яму дасылаліся кнігі, якія вылучаліся на гэту прэмію, часта яны заставаліся ў ягонай бібліятэцы. Так Колас знаёміўся з лепшымі тагачаснымі творамі ўсіх саюзных рэспублік. (У яго бібліятэцы знаходзіцца “Бюллетени комиссии по литературам народов СССР”. 1955, 1956 гг.)

Ёсць шмат навуковых манаграфій, падараваных вучонымі-сябрамі: М. Мацапурам, Ю. Пшырковым, І. Гутаравым і іншымі.



**(Заканчэнне на стар. 22)**

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 21).

## Рэдкія фаліянты

У бібліятэцы Коласа мы знайшлі старадрук "Белорусский архив древних грамот" (Масква, 1824). Арыгінал! З дарчым надпісам "Пламенному певцу белорусского народа Якубу Коласу — в связи с 70-летием от белоруса из Гродненской губернии Евгения Хлебцевича. 1952 г." Яўген Хлябцэвіч на два гады маладзейшы за Коласа. У юнацтве яны цікавіліся народнай творчасцю, вялі фальклорныя і этнаграфічныя запісы. Адначасова друкаваліся ў "Нашай долі": Якуб Колас — з вершамі, Хлябцэвіч як ананімны карэспандэнт расказваў пра жыццё сялян, дзейнасць студэнтаў-беларусаў у Пецярбургу. У 1912 г. ён зрабіў даклад "Очерк беларускай народнай думкі", у якім высока ацаніў творчасць Якуба Коласа, пазнаёміў прафесара С. А. Венгарава з выдатнымі творамі Якуба Коласа і Янкі Купалы, дзякуючы гэтаму іх аўтабіяграфіі былі дасланы для тагачасных энцыклапедый.

Яўген Хлябцэвіч быў арганізатарам бібліятэчнай справы, займаўся прапагандай беларускай літаратуры, выступаў з лекцыямі, займаўся тэмай "Якуб Колас і чытачы", перапісваўся з Коласам, які даваў адказы на яго пытанні.

**— Якуб Колас рабіў пазнакі на палях кніг?**

— Магу згадаць кнігу Вальтэра Скота "Роб Рой" (1952). На ёй рукою Коласа запісана: "Диана Вернон (Мой самый любимый литературный образ женщины)". У музеі захоўваецца ліст ад 24 лютага 1953 г. Якуба Коласа да Аляксандры Рабінінай (рэдактар выдавецтва з Масквы): "Не так давно Вы приезжали в "Барвиху" и привезли мне на память книгу… Я эту книгу назвал бы "Диана Вернон" — более очаровательного образа женщины в литературе я не встречал". Кніга напісана ў 1817 годзе, умоўна адносіцца да так званых "шатландскіх" раманаў. Напэўна, Колас убачыў паралель са сваім асабістым жыццём: шчасце кахання і горыч ранняй смерці каханай жонкі. Вобраз Дзіяны Вернон уразіў Коласа менавіта аптымізмам маладосці, самастойнасцю натуры, дзёрзкасцю, рашучасцю гэтай жанчыны!

Мы ўжо называлі літаратуру, якая з'явілася ў бібліятэцы дзякуючы дзейнасці Коласа ў Камітэце па прэміях. Але ёсць выданні, звязаныя са службовай дзейнасцю: як віцэ-прэзідэнта АН БССР, дэпутата ВС СССР. Гэта бюлетэні сесій Вярхоўнага Савета СССР, XIX і XX з'ездаў КПСС, законы, дырэктывы, з грыфам "Для службовага карыстання".

Не выпадковыя ў бібліятэцы вялікія зборнікі паэзіі Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Беларусі, Літвы, Украіны, Узбекістана. Сярод выданняў па тэорыі літаратуры — кнігі "Гісторыя паэзіі" (1835), "Язык і гісторыя" (1811).

Яшчэ адзін тэматычны раздзел у бібліятэцы складаюць кнігі, якія сведчаць пра цікавасць Коласа да гісторыі. Сярод іх — "Свяшчэнная гісторыя Старога Завету" і "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" В. Ластоўскага, выдадзеная ў 1936 годзе. Вядома, што падчас працы над трэцяй часткай трылогіі "На ростанях" Колас вельмі актыўна вывучаў віленскія архівы.

## З крыніц народных

Яшчэ з часоў вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Колас праявіў цікавасць да фальклору, народнай творчасці. Шмат у бібліятэцы кніг, якія адносяцца да гэтай тэмы. Сярод іх — даўнія даследаванні "Белорусская свадьба и свадебные песни" (1888); "Белорусский сборник" (1891); "Белорусские частушки" (1903).

Яшчэ адзін нечаканы збор у бібліятэцы сведчыць пра любоў песняра да прыроды. Колас каля хаты садзіў сад, кветкі, даглядаў іх. І мы сустракаем кнігі па тэме: Гольцов "Погода и предсказание", "Карта почв БССР"; "Торфо-болотные почвы БССР и их использование"; "Зямельная справа ў Новай Зеландыі. 1904"; "О новых и малоизвестных видах птиц БССР"; Ермолов "Народная сельскохозяйственная мудрость в пословицах, поговорках и приметах".




Можна паўтарыць за Д. Міцкевічам, што "цікавасць Коласа да кніг часамі бывала дзейснай". Прыклад гэтага: да яго трапіла кніга "Полацка-Віцебская даўніна" 1916 года (выпуск III), дзе ён вычытаў інфармацыю пра спосаб пасеву ячменю і жыта, які ўжывалі на Беларусі каля 400 гадоў таму. Коласа гэта вельмі зацікавіла, і ён вырашыў паставіць эксперымент на сваёй сядзібе. Вясною 1952 года ён засяваe дзялянку, а ўдалыя вынікі доследу публікуе ў "Весніку АН БССР" (артыкул "Забытый способ посева озимой ржи". Известия АН БССР и СССР. 1953. № 5), які таксама ёсць у Коласавай бібліятэцы.

А яшчэ Колас любіў набываць адрыўныя календары, чытаў, рабіў паметкі на іх. Захаваліся календары з 1947 па 1956 гады. Напрыклад, на календары 1953 года яго надпіс: "Дарагі мой каляндар! Няхай наступны будзе ў дар. 31.XII.1953".

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа захоўваецца больш як 80 кніг з яго дарчымі надпісамі родным, сябрам, знаёмым. Пясняр таксама рабіў пазнакі, аўтографы на сваіх кнігах і брашурах. Напрыклад, у бібліятэцы на кнізе "Сымон-музыка" (Прага, 1942) рукою паэта напісана "Якуба Коласа. 20.IV.1945". А на кнізе Льва Талстога "Война и мир" (1945) мы сустракаем знакавы надпіс: "Бібліятэка Якуба Коласа".

***P.S.*** *У артыкуле выкарыстана кніга Д. Міцкевіча "Любіць і помніць", якую ў 2000 годзе склала і выдала яго дачка Вера Міцкевіч.*

***На здымках: надпіс Сяргея Гарадзецкага ў часопісе "Знание для всѣхъ"; шафа з кнігамі ў мемарыяльным пакоі Якуба Коласа; каляндар 1953 года з аўтарскім надпісам.***

*Фота Кастуся Дробава*

Беларусіка ў замежжы

# Скарына ў Лондане

**Калі ўзгадваеш пра беларускую кнігу ў замежных зборах, то думкі міжволі скіроўваюцца ў бок Туманнага Альбіёна, у самым цэнтры якога — у даўнім і слаўным Лондане — знаходзіцца адзін з найбольшых у замежжы асяродкаў беларускай культуры. Назву яго сёння ведаюць многія жыхары Беларусі, а таксама шматлікія нашы суайчыннікі, што па волі лёсу жывуць у Вялікабрытаніі і іншых краінах Заходняй Еўропы. Гутарка, безумоўна, ідзе пра Беларускую бібліятэку і музей імя Францыска Скарыны ў Лондане.**

**Алесь СУША,**
**вучоны сакратар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

Сёння гэта ўстанова з'яўляецца ці не адзінай ва ўсім свеце буйной замежнай бібліятэкай, якая спецыялізуецца выключна на кнігах беларускага паходжання, а таксама працах, прысвечаных Беларусі.

Афіцыйнае адкрыццё бібліятэкі адбылося ў 1971 годзе. Аднак узнікла яна некалькі раней. Пасля завяршэння Другой сусветнай вайны аднаўлялася мірнае жыццё па ўсёй Еўропе. Многія беларусы, якія апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, усяляк імкнуліся падтрымаць культурнае жыццё дыяспары, запачаткаваць новыя культурныя ініцыятывы, якія б дазволілі захаваць традыцыі продкаў, а праз тое — ідэнтычнасць беларусаў на чужыне. Яшчэ ў канцы 1940-х гадоў беларуская грамадскія арганізацыі стваралі ўласныя кнігазборы ў многіх гарадах і краінах Заходняй Еўропы, Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі. З часам узнікла неабходнасць узбуйнення і аб'яднання такіх кнігазбораў, каб яны былі здольнымі абслугоўваць як мага большую колькасць ахвотных далучыцца да беларускага слова.

У канцы 1940-х пачалася праца над стварэннем адразу некалькіх беларускіх бібліятэк у Лондане. Адна збіралася па ініцыятыве Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, другая, значна большая, – пры падтрымцы Беларускай каталіцкай місіі і асабіста яе кіраўніка Чэслава Сіповіча. Бібліятэкі пастаянна папаўняліся за кошт шматлікіх ахвяраванняў і ўжо ў 1950-я гады сталі прыцягваць да сябе ўвагу не толькі беларусаў, але і шматлікіх заходнееўрапейскіх даследчыкаў. Значныя зборы, якія на працягу двух дзесяцігоддзяў збіраліся ў непрыстасаваных памяшканнях, урэшце перасталі змяшчацца ў асобных пакойчыках дзе памяшканнях беларускіх грамадскіх устаноў Лондана. У выніку ў 1969 годзе сіламі беларускіх святароў пачалося стварэнне самастойнай Беларускай бібліятэкі, якую адразу ж было вырашана назваць імем нашага першадрукара. У якасці асновы для бібліятэкі паслужыў кнігазбор Беларускай каталіцкай місіі, які напрыканцы 1960-х налічваў больш шасці з паловай тысяч кніг. У хуткім часе ініцыятыву падтрымалі таксама ў Згуртаванні беларусаў у Вялікабрытаніі і Англа-беларускім таварыстве. Падтрымалі яе таксама шматлікія беларусы, якія жылі ў розных краінах Заходняй Еўропы, Амерыкі, нават Аўстраліі і Новай Зеландыі. Дзякуючы сумесным намаганням для бібліятэкі быў набыты прыгожы будынак у Лонданскім раёне Фінчлі, поруч з вядомым беларускім культурна-рэлігійным цэнтрам Марыян-Хаус.

Адмысловыя агледзіны набытага ў пачатку 1970 года будынка былі праведзены беларускай грамадой у форме пасяджэння і лекцыі па гісторыі беларускіх бібліятэк, якую правёў айцец Леў Гарошка. На працягу года будынак быў адрамантаваны, падрыхтаваны для выкання высокай місіі несці людзям веды, абсталяваны адмысловай мэбляй ды, урэшце, змясціў у сваіх пакоях унікальныя кніжныя калекцыі, якія ўжо налічвалі каля дзесяці тысяч дакументаў. 15 мая 1971 года адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця лонданскай Беларускай бібліятэкі і музея імя Францыска Скарыны. Удзел у імпрэзе прынялі каля ста прадстаўнікоў беларускага эміграцыйнага культурнага і царкоўнага руху з розных краін, а таксама тамтэйшыя навукоўцы, выкладчыкі, журналісты, мастакі, дыпламаты, святары розных канфесій, супрацоўнікаў Брытанскага музея і іншых устаноў.

З таго часу бібліятэка распачала актыўную працу па зборы беларусікі, яе ўліку, апісанні і, безумоўна, прадстаўленні наведвальнікам беларускай і беларусазнаўчай літаратуры. Прычым энергічнасць і разнастайнасць формаў працы і для нас могуць быць прыкладам. Кнігі траплялі ў бібліятэку праз закупы ў выдавецтвах, кнігарнях, букіністычных крамах, на аўкцыёнах, дзякуючы дарам беларусаў з усіх рэгіёнаў свету і падарункам ад шматлікіх замежных арганізацый, шляхам кнігаабмену з бібліятэкамі і іншымі ўстановамі Беларусі і замежжа.



Нават за савецкім часам беларускія бібліятэкі падтрымлівалі цесны кантакт са Скарынаўскай бібліятэкай у "варожай" капіталістычнай краіне. Па нашых звестках, Нацыянальная бібліятэка Беларусі падтрымлівае пастаянныя стасункі і абменьваецца выданнямі з Беларускай бібліятэкай у Лондане пачынаючы з 1972 года. Гэта значыць, што ўжо праз год пасля адкрыцця Скарынаўка пачала супрацоўніцтва з галоўнай бібліятэкай колішняй Савецкай Беларусі.

Інтарэс да супрацоўніцтва быў выкліканы не толькі двухбаковай зацікаўленасцю ў падтрымцы беларускай культуры і беларусазнаўчых даследаванняў у нашай краіне і за яе межамі. Нямала паўплываў таксама і эканамічны фактар. Для некамерцыйнай установы было надзвычай дарагім атрымліваць кнігі і перыёдыку з БССР, карыстаючыся паслугамі адмысловых агенцтваў. Таму Скарынаўская бібліятэка наладзіла стасункі з бібліятэкамі БССР і атрымлівала гэтыя выданні непасрэдна ад іх, высылаючы ўзамен каштоўныя еўрапейскія навуковыя выданні, набыць якія ў Лондане было шмат танней і прасцей, чым гэта можна (калі наогул можна) было б зрабіць у Мінску. Тым жа шляхам буйныя беларускія бібліятэкі атрымалі з Лондана шэраг каштоўных выданняў беларускай эміграцыі.

Варты вывучэння і выкарыстання актуальны сёння вопыт супрацоўніцтва Скарынаўкі ў справе пошуку і набыцця беларускіх кніг на еўрапейскіх аўкцыёнах. Так, яшчэ ў 1972 годзе на лонданскім аўкцыёне бібліятэкай быў набыты Куцеінскі "Новы запавет і Псальмы" (1652), які вызначаецца каштоўнымі гравюрамі і наяўнасцю беларускамоўных каментарыяў у царкоўнаславянскім выданні. У тым жа годзе на яшчэ адным лонданскім аўкцыёне быў прыдбаны надзвычай цікавы рукапіс Літургіі Яна Залатавуста, напісаны на царкоўнаславянскай мове з паралельным лацінскім перакладам.

Важным набыткам стала пакупка на аўкцыёне ў Манака ў 1975 годзе фрагмента "Кнігі Царстваў" Скарыны, а таксама знакавых выданняў уніяцкай царквы ў Беларусі — "Літургіконa" (1692 — 1695), з якога пачалася дзейнасць славутай Супрасльскай друкарні, і кнігарні "Собрание припадков краткое" (1722), адзінага беларускамоўнага выдання ў XVIII стагоддзі. Яшчэ праз 22 гады на чарговым аўкцыёне была зроблена самая вялікая пакупка бібліятэкі — пяць кніг Скарынавай Бібліі, выдадзеных у 1517 — 1518 гадах у Празе. Жахлівай стратай не толькі для Беларускай бібліятэкі ў Лондане, але і для ўсёй беларускай грамадскасці стаў крадзеж гэтых кніг у 2003 годзе.

Сімвалічны статус Скарынаўскай бібліятэкі як беларускага інфармацыйна-культурнага цэнтра ў замежжы спрыяў перадачы ёй шматлікіх прыватных збораў, якія стваралiся выхадцамі з Беларусі. Можна нават сцвярджаць, што такія зборы сталі адной з асноўных крыніц папаўнення фонду. Уласныя каштоўныя зборы ў бібліятэку ў розны час перадалі вядомыя асобы беларускай эміграцыі: грамадскія і культурныя дзеячы Мікола Абрамчык, Юрка Віцьбіч, даследчык Антон Адамовіч, Аўген Калубовіч, святары Чэслаў Сіповіч, Леў Гарошка, Аляксандр Надсан, Пётра Татарыновіч, Язэп Рэшаць, Роберт Тамушанскі і многія іншыя.

***На здымку: будынак Беларускай бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лондане.***

## Бібліятэкар года

Ірына ТУЛУПАВА

**Пра тое, што рабіць з нізкапробнай літаратурай, чаму колькасць бібліяфілаў змяншаецца і як змяняецца цікавасць да беларускай кнігі, "ЛіМу" распавяла Святлана Міронччык. Святлана — дырэктар Іўеўскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, лаўрэат Гродзенскай абласной прэміі імя Аляксандра Дубко за дасягненні ў галіне культуры і мастацтва па выніках 2011 года.**

# Пасля знаёмства з букваром

**— Святлана, калі вы самі прыйшлі ў бібліятэку? У якім узросце гэта было, якія ўражанні запомніліся?**

— У бібліятэку мяне разам з аднакласнікамі прывяла мая першая настаўніца Ганна Францаўна Побаль. Гэта было ў першым класе. Мы скончылі знаёмства з букваром і навучыліся чытаць. Нас сустрэла ветлівая, але строгая жанчына. Яна расказвала пра бібліятэку як пра казачны горад, у якім жыве мноства кніг. Тады нас, школьнікаў, уразіў яе займальны аповед, хацелася як мага хутчэй патрымаць кнігі ў руках, самім іх пачытаць, разглядзець маляўнічыя карцінкі. Чым часцей я прыходзіла ў бібліятэку, тым больш мне хацелася стаць гаспадыняй гэтага чароўнага царства кніг.

**— Ці дапамагае той успамін цяпер вам як дырэктару ЦБС? Што б хацелі прыўнесці з таго часу ў працу сучасных бібліятэк, чаго б пазбавіліся?**

— Гэтыя ўспаміны вельмі дапамагалі мне, калі я працавала ў дзіцячай бібліятэцы. Мне хацелася больш часу аддаваць самым маленькім чытачам, дапамагчы ім сарыентавацца ў вялікай колькасці бібліятэчных стэлажоў, выбраць патрэбную кнігу. Не напалохаць іх, а зацікавіць, каб прыходзілі сюды як мага часцей. Таму і цяпер я заўсёды акцэнтую ўвагу бібліятэкараў на тым, што ад таго, як мы сустракаем свайго чытача, залежыць вынік нашай працы. І зусім не мае значэння, хто да цябе прыйшоў — дзіця ці дарослы чалавек.

Сёння любая кніжніца імкнецца адпавядаць патрабаванням часу і запытам сваіх чытачоў. Раней у бібліятэцы можна было паглядзець дыяфільмы альбо ўзяць іх дадому, сёння мы прапануем кнігі на кампакт-дысках, аўдыёкасетах і іншых носьбітах. Чытачы маюць магчымасць прагледзець ці пачытаць іх не выходзячы з бібліятэкі альбо карыстацца імі дома. Пры неабходнасці — зрабіць ксеракопію. Пры адсутнасці інфармацыі знайсці яе ў інтэрнэце, праглядзець сваю электронную пошту. На тое яна і сучасная бібліятэка, калі пералік аказваемых паслуг задавальняе наведвальніка.

Мне падаецца, што цяпер аддзелы абслугоўвання пазбавіліся сваёй перагружанасці літаратурай. Калі раней там выстаўляўся практычна ўвесь кніжны фонд, то сёння памяшканні сталі прасторнымі і ўтульнымі, а вялікая колькасць кніг перамясцілася ў кнігасховішчы. На адкрытым доступе выстаўлена самая папулярная, самая цікавая літаратура.

**— Ва ўсякай працы ёсць нешта вабнае і штодзённая "руціна". Для вас што ў ахвоту? І што называеце руцінай?**

— Для мяне ўся праца ў задавальненне. Што б я ні рабіла, імкнуся рабіць гэта са станоўчымі эмоцыямі, незалежна ад таго, гэта праца з кадрамі, дакументамі альбо арганізацыя сустрэч.

**— Што з ведаў па спецыяльнасці сталася самым неабходным?**

— Мне даводзілася працаваць практычна ва ўсіх аддзелах бібліятэкі, і, зразумела, веданне тэорыі дапамагала ў набыцці практычных навыкаў. І наадварот, таму што інстытут культуры я заканчвала завочна. Хаця цяпер больш займаюся пытаннямі кіравання бібліятэкай, персаналам, маркетынгам і іншымі.



**— У Іўі ёсць сапраўдныя бібліяфілы? Сустракаецеся з імі?**

— У нашым невялікім гарадку ёсць людзі, якія любяць і цэняць рэдкую кнігу. Адзін з іх — Іван Буйко. Яго калекцыя разнабаковая, яна ўключае ў сябе рэдкія дакументы: кнігі, пісьмы, паштоўкі, перыядычныя выданні. Іван Мечыслававіч — часты госць бібліятэкі і ўдзельнік сустрэч ды вечарын.

З прыходам у наша жыццё новых інфармацыйных тэхналогій колькасць бібліяфілаў змяншаецца. Іх цікавасць да кнігі не знікла, але друкаваныя выданні часта замяняюць электроннымі. Хаця ёсць і такія, для каго ні тэлебачанне, ні інтэрнэт не могуць замяніць кнігу.

**— Як жа вы вызначаеце, што неабходна чытачу? Якія кнігі набываеце найперш?**

— Мы заўсёды арыентуемся на чытача і імкнёмся задаволіць запыты розных катэгорый — ад дашкольнікаў да пенсіянераў. Адчуваючы апошнімі гадамі падтрымку дзяржавы, маем магчымасць папаўняць свае фонды. Гэта праграмная, вучэбная, даведачная, энцыклапедычная, мастацкая літаратура.

**— Як чытаюць у Іўі беларускамоўную літаратуру?**

— Дзякуючы праведзенай у 2011 годзе рэспубліканскай акцыі "Чытаем па-беларуску" і абласной "Чытаем беларускую кнігу" цікавасць да беларускай кнігі ўзрасла. Усё часцей бяруць кнігі М. Багдановіча, У. Караткевіча, І. Шамякіна, Л. Дайнекі, А. Федарэнкі, М. Чаргінца, В. Праўдзіна, С. Трахімёнка, Л. Рублеўскай ды іншых аўтараў.

**— Ці патрэбна сёння ратаваць кнігу — і фізічна, і маральна?**

— Сёння ёсць нізкапробная літаратура, ад якой больш шкоды, чым карысці. Ад яе, бясспрэчна, трэба пазбаўляцца. Неабходна аддаваць перавагу літаратуры, якая садзейнічае маральнаму, духоўнаму, патрыятычнаму выхаванню падрастаючага пакалення.

Што да фізічнага выратавання, то, на мой погляд, сучасная выдавецкая дзейнасць мае тэхнічную магчымасць зрабіць кнігу больш прывабнай для чытання.

**— Наколькі састарэлыя фонды ў бібліятэках раёна?**

— Старыя не значыць дрэнныя. У нашых фондах ёсць кнігі 1940 — 1960-х гадоў выдання, якія дагэтуль карыстаюцца попытам у пэўнай катэгорыі чытачоў. Некаторыя з іх занялі годнае месца ў экспазіцыі музея бібліятэчнай справы, які расчыніў свае дзверы ў Іўеўскай цэнтральнай бібліятэцы ў 2011 годзе.

Ёсць у нас нязначная колькасць літаратуры, якая маральна састарэла і не ўяўляе цікавасці для чытача, яна перыядычна спісваецца.

**— Калі б з'явіўся мецэнат, што б вы прапанавалі яму зрабіць для кніжніцы найперш?**

— У нашай Іўеўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі ёсць нямала сяброў. Рэгулярна цікавыя і салідныя выданні атрымліваем у падарунак ад нашай землячкі, намесніка галоўнага рэдактара "Российской газеты" Ядвігі Юферавай. Ядвіга з'яўляецца членам журы адной з галоўных літаратурных прэмій у Расіі "Вялікая кніга", таму кнігі, якія становяцца падзеяй года ў Маскве, яна імкнецца перадаць нашай бібліятэцы. Летась Я. Юферава прывезла выданні з аўтографамі аўтараў: кнігу "Лев Толстой. Бегство из рая" Паўла Басінскага, якая ў 2010 годзе атрымала галоўную літаратурную прэмію, і "Абель-Фишер" Мікалая Далгаполава, скарочаны варыянт кнігі "Архипелаг ГУЛАГ" Аляксандра Салжаніцына з аўтографам удавы пісьменніка. Калектыў бібліятэкі і чытачы ўдзячныя за такія падарункі.

А вось калі б у нас з'явіўся мецэнат, то, напэўна, як сучасны кіраўнік, я хацела б аснасціць усе ўстановы найноўшым тэхнічным абсталяваннем, што пашырыла б спектр паслуг і магчымасці бібліятэк.

**— Ці складаеце ўласную бібліятэку?**

— Сваю асабістую бібліятэку я пачала збіраць яшчэ школьніцай! Ёсць у мяне падарункавыя і падпісныя выданні, зборы твораў айчынных і замежных аўтараў. Многія выданні падораныя мне сябрамі і знаёмымі. Ёсць такія, якія мне вельмі дарагія, і я час ад часу да іх вяртаюся.

## Першы крок

# «Цікаўлюся гісторыяй краю»



**Сваю першую бібліятэку згадвае дырэктар ААТ "Белкніга" Аляксандр ВАШКЕВІЧ.**

Гэта была бібліятэка маіх бацькоў. У той час вартай, цікавай і папулярнай кнігі было не дастаць, трэба было здаваць макулатуру, атрымліваць талончыкі і пасля купляць кнігі. Але куплялі: таму што кнігі абмяркоўвалі і прачытаць таго ці іншага аўтара лічылася за гонар. Ды і хацелася пачытаць: і сусветную класіку, і нашых сучасных аўтараў. Я жыў у Мінску на вуліцы Максіма Багдановіча, таму наведваў і публічную бібліятэку — Цэнтральную гарадскую імя Янкі Купалы.

Цяпер чытаю ўсё, што выходзіць у Барыса Акуніна. Вельмі цікаўлюся гісторыяй Беларусі. Прычым, шукаю крыніцы, каб погляд на тагачасныя падзеі быў разнабаковы. Мяне цікавіць Беларусь, калі яна ставралася, калі з'яўлялася нацыя. Цікавы перыяд Вялікага Княства Літоўскага, гісторыя яго адносін з Польшчай і Расіяй.

А з дзіцячых ды юнацкіх гадоў запомніў кнігу Братоў Грым. Яна была старэнькая, знаходзілася на паліцы ў хатняй бібліятэцы. І адрознівалася ад нашых казак. Мне тады падавалася, што ўсё было страшна. Але вельмі вабіла!

*Фота Кастуся Дробава*

## Праектная дзейнасць

# Прыгожая доля Майстра

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

**Выйшаў у свет біябібліяграфічны паказальнік "Мікалай Пятровіч Кузьміч: Чалавек стагоддзя", падрыхтаваны супрацоўнікамі Брэсцкай абласной бібліятэкі імя Максіма Горкага. Наклад выдання — 500 экзэмпляраў.**

Мікалай Пятровіч — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998), прэмій "За духоўнае адраджэнне" (1997), "Берасцейская зорка" (1997). Узнагароджаны ордэнамі Святога Уладзіміра III ступені і Еўфрасінні Полацкай, ордэнам Крыжа Еўфрасінні Полацкай, медалямі князя Канстанціна Астрожскага (Польшча) і Беларускага саюза мастакоў "За заслугі ў выяўленчым мастацтве". Званне "Чалавек стагоддзя" прысвоіў мастаку біяграфічны цэнтр Кембрыджскага ўніверсітэта ў 1998 г.

Біябібліяграфічны паказальнік распачынаецца вершам Ніны Мацяш "Прыгожая доля", прысвечаным М. Кузьмічу.

Як нам паведаміла загадчык інфармацыйна-бібліяграфічнага аддзела бібліятэкі Валянціна Гарбачэўская, уступную частку выдання складаюць раздзелы "Чалавек стагоддзя" і "Даты жыцця і творчасці". Змяшчаецца таксама пералік асноўных выставак, на якіх экспанаваліся творы М. Кузьміча. Асноўную ж частку займаюць бібліяграфічныя матэрыялы: усё, што напісана пра Кузьміча і яго творы ў перыяд з 1987 па 2011 год на беларускай і рускай мовах.

Упершыню ў дадатках на старонках паказальніка апублікаваныя аўтабіяграфія мастака і экфразіс (у перакладзе з грэч. — апісанне твора выяўленчага мастацтва або архітэктуры ў літаратурным тэксце) берасцейскага краязнаўца Валерыя Мароза "Нововизантийская икона «Архангел Михаил»". Гэты абраз быў зроблены ў 2010 годзе М. Кузьмічом у нававізантыйскім стылі тэхнікай перагародчатай эмалі.

У біябібліяграфічным паказальніку змешчаны фотаздымкі з асабістага архіва майстра. Прычым, гэта яго асабістыя здымкі — сям'і і сяброў, а таксама вывы лепшых прац.

## Зачытаныя кнігі

# Рэйтынг найбольш чытаемых у студзені кніг прапануе Гомельская гарадская бібліятэка № 10 імя Якуба Коласа

***Чытальная зала***

1. Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII стагоддзя / навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. — Мінск: Беларуская навука, 2003.
2. Беларусы: у 8 тамах / рэдкал.: В. К. Бандарчык, М. Ф. Піліпенка, В. С. Цітоў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1995.
3. Гражданское право. В 3 т. / под ред. В. Ф. Чигира. — Минск: Амалфея, 2008.
4. Русская литература XX века. В 2 т. / под ред. Л. П. Кременцова. — Москва: Академия, 2005.
5. Сержпутоўскі, А. К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. — Мінск: Універсітэцкае, 1998.
6. Філаматы і філарэты: зборнік / укладанне, пераклад польскамоўных твораў К. Цвіркі. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998.
7. Хьелл, Л. Теории личности. — Санкт-Петербург: Питер, 2000.
8. Шакун, Л. М. Гісторыя беларускага мовазнаўства. — Мінск: Універсітэцкае, 1995.
9. Шпілеўскі, П. М. Беларусь у абрадах і казках. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010.
10. Этнаграфія Беларусі: энцыклапедыя. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1989.

***Абанемент***

1. Батракова, Н. Территория души: роман. — Минск: Кавалер Паблишерс, 2005.
2. Голденков, М. Щит Рюрика и меч Хельга: роман. — Минск: Современная школа, 2010.
3. Громыко, О. Грани: повести. — Минск: Регистр, 2010.
4. Сіпакоў, Я. Зубрэвіцкая сага. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010.
5. Крымов, Е. След зверя: роман. — Минск: Книжный Дом, 2010.
6. Лисицкая, Т. Идиотки: роман. — Минск: Регистр, 2010.
7. Мельников-Печерский, П. В лесах. На горах: романы. — Москва: Правда, 1976.
8. Радзинский, Э. Три смерти. — Москва: АСТ, 2007.
9. Рубина, Д. Любка: рассказы. — Москва: Эксмо, 2011.
10. Татаринов, Ю. Княгиня Менжинская: роман. — Минск: Регистр, 2011.

# Проста капіраваць — нецікава!

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

**Сёння Лагойскі край вядомы ў нашай краіне і па-за яе межамі не толькі як турыстычны цэнтр, але і як цэнтр рамёстваў. У раёне працуе больш як 200 руплівых умельцаў, дарослых і дзяцей, якія займаюцца рознымі відамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Каб захаваць і памножыць майстэрства гэтых людзей, у 1998 годзе адкрылі раённы Дом рамёстваў.**
**А пачынаўся ён з клуба майстроў "Скарб зямлі Лагойскай". У 1997 годзе атрымаў званне "народны".**
**Цяпер клуб аб'ядноўвае амаль тры дзясяткі самых актыўных і знакамітых творцаў, лаўрэатаў і дыпламантаў розных конкурсаў. Сярод іх — члены Беларускага саюза майстроў народнай творчасці.**



Асноўная задача Дома рамёстваў— дапамагчы хлопчыкам і дзяўчынкам асвоіць навыкі мастацкага рамяства. Прынамсі, дзіцячы калектыў "Натхненне" па вырабе глінянай цацкі літаральна за тры гады (з 1998 па 2002 год) таксама атрымаў званне "народны".

— Вельмі многа дзяцей наведвала гэты гурток. Яны ўдзельнічалі ў розных выстаўках, дзе няблага заявілі пра сябе, — распавяла дырэктар Дома рамёстваў Ірына Грынь. — У той час на Міншчыне было мала падобных калектываў. Работа юных ганчароў зацікавіла спецыялістаў, якія прыязджалі са сталіцы, каб бліжэй пазнаёміцца з іх творчасцю. Адна за адной ішлі выстаўкі, ездзілі са сваімі вырабамі нават у Маскву. Вось і ўганараваны такім высокім званнем. Ганчарства і саломапляценне — найбольш запатрабаваныя рамёствы, менавіта яны заўжды былі самымі папулярнымі на Лагойшчыне. Больш як 70 чалавек спецыяльна прыязджаюць на заняткі з іншых населеных пунктаў раёна.

— Пасля таго, як нас так высока ацанілі, з'явілася яшчэ большае жаданне тварыць, — зазначыла кіраўнік народнага калектыву "Натхненне" Таццяна Раманчук, якая працуе тут з дня адкрыцця. — Пачалі праводзіць конкурсы, а гэта добрая нагода для таго, каб чагосьці дасягнуць, удасканаліць майстэрства. Стараемся кіравацца традыцыямі, але звярнуліся да маленькіх форм — сувенірных глечыкаў, вазачак, свістулек. На працягу многіх стагоддзяў яны амаль не мяняюцца. Напрыклад, свістулькі былі вядомы з сівой даўніны. Калі выраблеш нейкую рэч, заўсёды хочацца ўнесці штосьці сваё, той жа дэкор. Не раз назірала: ствараем з дзецьмі традыцыйную рэч, але ў кожнага яна атрымліваецца па-рознаму, бо нікому не хочацца проста капіраваць.

З насельнікамі Лагойскага дома-інтэрната Таццяна Раманчук і майстар-метадыст Кацярына Мароз займаюцца ўжо шэсць гадоў, прытым на грамадскіх пачатках. Святлана Прыбыльская з вялікім задавальненнем асвойвае адразу некалькі рамёстваў, хаця яе вельмі дрэнна слухаюцца рукі. У жанчыны шмат творчых ідэй, а ўвасобіць іх на практыцы дапамагаюць вопытныя настаўнікі. Калі ў Доме рамёстваў ладзяцца выстаўкі, работы людзей з абмежаванымі магчымасцямі таксама прэзентуюцца. Для іх гэта вельмі добры стымул, каб, нягледзячы ні на што, жыць, тварыць.

— Пастаянна прыходзяць да нас і дзеці з раённага прытулку, з вялікім задавальненнем асвойваюць тое ці іншае рамяство, — дадала Ірына Грынь. — Дзецям, асабліва малым, заўсёды цікава, як атрымліваецца кветка з саломкі. Але хлопчыкі і дзяўчынкі падрастаюць, і ў іх з'яўляюцца іншыя захапленні. Хаця назіраем і такую тэндэнцыю: многія пачалі займацца рамяством пасля выхаду на заслужаны адпачынак. Выпадкова пазнаёміліся з жыхаркай вёскі Бабры Ірынай Кісінай, якая выраблае традыцыйныя беларускія і расійскія лялькі. Творы майстрыхі аказаліся такога ўзроўню, што мы вырашылі правесці яе выстаўку ў Лагойскім гісторыка-краязнаўчым музеі імя Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў. Цесна супрацоўнічаем і з іншымі творцамі: бяром іх работы на выстаўкі, аказваем метадычную дапамогу, збіраем майстроў аднаго кірунку, напрыклад, вышывальшчыц, на агульнае пасяджэнне, каб яны маглі падзяліцца вопытам. Стараемся арганізоўваць больш персанальных выставак. Хочацца ў першую чаргу зацікавіць самога майстра і тых, хто, паглядзеўшы на яго работы, захоча зрабіць штосьці падобнае.

Далучыцца да творчасці могуць і дарослыя, калі ў іх узнікне такое жаданне. А галоўная мэта супрацоўнікаў гэтай установы — адрадзіць і развіваць народныя традыцыі ў дэкаратыўна-прыкладной творчасці, улічваючы і сучасныя тэндэнцыі, і пажаданні тых, хто займаецца ў гуртках. Праўда, пакуль ніхто не выбраў тую ж кераміку справай усяго свайго жыцця. У асноўным займаюцца, скажам так, для агульнага развіцця.

Ужо два гады тут праводзяць вясельны абрад. Так ужо павялося, што маладыя пасля роспісу ў ЗАГСе спяшаюцца ў Дом рамёстваў, дзе іх чакае ўрачыстая сустрэча. Пасля правядзення абраду ў нацыянальным беларускім стылі маладых просяць выбраць вазу, збанок ці гарлачык на ўспамін. Майстар-кераміст Мікалай Стрэльчанка адразу пачынае тварыць. Але не проста кладзе кавалак гліны на ганчарны круг, а дзеліць яго на дзве часткі і прапануе маладым напісаць на кожнай сваё імя. Затым сцеплівае гліну са словамі, што яны цяпер адно цэлае, і атрымоўваецца першы посуд для новай сям'і — як сімвал дабра і багацця. На гатовай рэчы, пакуль гліна яшчэ сырая, можна вывесці нейкія запаветныя словы з надзеяй, што задуманае абавязкова спраўдзіцца.

***На здымках: дырэктар Дома рамёстваў Ірына Грынь захапляецца вырабам мінілялек; Даніїл Мароз і Сяргей Жвірко заняты бісерапляценнем.***

## З глыбінкі

# Яе маленькая планета

Паэтэса Вера Вярба ў студзені адзначае сямідзесяцігадовы юбілей. Да гэтай падзеі ў Чачкаўскай сельскай бібліятэцы (Мінскі раён) прайшло першае ў 2012 годзе пасяджэнне "Мая маленькая планета" літаратурна-паэтычнага клуба "Летавіца".

Свае першыя вершы шаснаццацігадовая Вера Вярба друкавала ў часопісах "Полымя", "Вясёлка", "Работніца і сялянка". Яна не здрадзіла паэзіі да сталых гадоў, стаўшы адной з тых, праз каго аматары літаратуры спасцігаюць Беларусь. Нашы пісьменнікі далучаюць нас праз роднае слова і да твораў сусветнай класікі. Дзякуючы перакладу В. Вярбы загучаў па-беларуску адзін з самых знакамітых твораў, прысвечаных юнацтву, — аповесць Р. Фраермана "Дзікі сабака Дзінга, альбо Аповесць пра першае каханне". Яе верш "Ручнікі" пакладзены на музыку, і атрымалася цудоўная песня, якая стала папулярнай. Пра непаўторны аўтарскі стыль Веры Вярбы і яе творчасць ішла гаворка падчас літаратурна-паэтычнай гадзіны. Удзельнікі мерапрыемства чыталі і абмяркоўвалі вершы паэткі. Творы Веры Вярбы выклікалі ў гуртоўцаў сум і радасць, боль і захапленне, горыч і ўсмешку.

Падчас чытання зборнікаў Веры Вярбы нельга не адчуць, што беларуская паэзія — свет вечных тэм і страсцей, перажыванняў і трывог, свет глыбокі і роздумны, які бярэ выток з цудадзейнай крыніцы роднай мовы.

**Святлана КОЎЗЕЛЕВА, Мінскі раён**

# Адчуванне шчасця

Выстаўку мастацкіх работ, якая нядаўна адкрылася ў Капыльскім раённым краязнаўчым музеі, складаюць творы маладых людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Яркія, вабныя, гарманічныя, радасныя, гэтыя работы як нельга лепш прадстаўляюць сваіх аўтараў, людзей зацікаўленых, крэатыўных і, безумоўна, вельмі таленавітых.

Большая частка экспанатаў выстаўкі — працы Вольгі Белавусавай. Вышытыя крыжыкам карціны заварожваюць. Колькі любові, душэўнага цяпла, старання ўкладзена ў кожную з іх! Самая ранняя праца — "Ратавальны крыж" — зроблена ў 2006 годзе. Карціна ўражвае рэалістычнасцю — дзяўчына спрабуе ўхапіцца за крыж і гэткім чынам уратавацца ад бурных хваляў. Яркасцю фарбаў прыцягваюць працы "Перад навальніцай", "Шаганэ", "Ранішняя прагулка".

Не менш цікава прадстаўлена творчасць іншых аўтараў — Дзмітрыя Марoцкага, Алены Кульбіцкай, Ірыны Удовінай, Анастасіі Рымашэўскай, Дзяніса Каралькова, Вольгі Бельскай, Анастасіі Тарановіч, Вольгі Канончык і Наталлі Насевіч. Прыгажосць маладыя людзі ствараюць з любых падручных матэрыялаў: распісваюць акварэллю старыя пласцінкі, малююць яркія пейзажы на шкляных формах, робяць карціны з тканіны і паперы.

Госці нямала часу праводзяць каля экспанатаў, разглядаючы іх і абмяркоўваючы. Бачна па ўсім, творчасць маладых аўтараў кранае наведвальнікаў, іх адчуванне шчасця і наталення жыццём міжволі перадаецца кожнаму, хто датыкаецца да створанага імі.

**Крысціна ЖОГАЛЬ, г. Капыль**

## Афарызм

*Усё мае свой працяг жыцця,*
*Апроч няпраўды.*

**Максім ТАНК**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2861
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 26.01.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 395
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

